# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 2 ( 34 )  КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ  2006 г.

## У НУМАРЫ:



## Я - БЕЛАРУС

Я не цураюся Расіі,
Бо там радзіма майго бацькі,
Там пахаваны сваякі -
Бабуля, дзед, абодва дзядзькі.

Там шмат жыве маёй радні:
Пляменнікі, браты і сёстры.
Як факт - мае там карані.
Складана ўсё... Ці можа проста?

Бо хоць Расію паважаю,
Я ўсё ж - звычайны беларус
І "памяркоўна" разважаю:
Навошта з ёю нам хаўрус?

Не трэба нам абдымкаў льсцівых,
І крывадушных пацалункаў,
І абяцанкаў марных, лжывых
Замест прыязнасных стасункаў.

Я нарадзіўся ў Беларусі.
Другой Радзімы я не маю.
Я - беларус! Тым ганаруся
І ў вольным краі жыць жадаю.

І адрачыся не прымусяць
Спрадвечнай, маці маёй! - мовы.
"Яны" пакуль нахабна хлусяць,
Але ж праб'ецца Волі слова!

У час турботны і цяжкі
Не можа быць інакшай справы,
Чым дамагацца разам ўсім
Свабоднай, велічнай дзяржавы!

*Юры Кутузаў,*
*г. Ліда.*



*Ян Карловіч (28.5. 1836 - 14.6. 1903), лінгвіст, этнограф, фалькларыст, музыказнавец, акадэмік Акадэміі ведаў у Кракаве*

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 2 ( 34 ) КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ 2006 г.

# ЛІДЗЯНІН У САЮЗЕ КАМПАЗІТАРАЎ



26 траўня 2006 года падчас паседжання праўлення Беларускага саюза кампазітараў у яго шэрагі быў прыняты лідскі кампазітар Сяргей Бугасаў. Але беларускім мэтрам на чале з Народным артыстам СССР Ігарам Лучанком давялося пайсці на "выключэнне з праві-лаў". Паводле Статута сябрам БСК можа быць толькі той, хто ў свой час атрымаў акурат кампазітарскую ці музыка-знаўчую, а не якую-небудзь іншую вышэйшую адукацыю. За ўсю гісторыю Беларускага саюза кампазітараў гэта то-лькі другі прыклад падобнага "выключэння з уключэннем": першым быў Уладзімір Муля-він.

Сяргей Бугасаў піша ў асноўным харавую музыку. У яго творчым багажы не адзін дзесятак самых розных сачыненняў, як рэлігійных, так і свецкіх. Сярод апошніх найбольшая колькасць твораў беларускай тэматыкі, як на народныя словы, так іна словы нашых класікаў: Ларысы Генію́ш, Сяргея Грахоўскага, Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча, Анатоля Вярцінскага... Не абыдзены ўвагай і лідскія паэты: Пётр Калбыка, Леанід Віннік, Віктар Бачароў...

*(Пра Сяргея Бугасава чытайце на стст. 40-52.)*



**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.**

**ПАСВЕДЧАННЕ АБ РЭГІСТРАЦЫІ № 1342**

**ЗАСНАВАЛЬНІК І НАВУКОВЫ КАНСУЛЬТАНТ**
**Валеры Сліўкін,**
**старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук**

**РЭДАКТАР**
**Станіслаў Суднік**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
231300, г. Ліда, вул. 1-я Навапрудская, д. 61
E-mail:
naszaslowa@tut.by

**Наклад 250 асобнікаў**
**7 друк. аркушаў**

**Часопіс размножаны на абсталяванні рэдакцыі.**
**Замова № 7**
**Часопіс падпісаны да друку 30. 06. 2006 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес.- 1740 руб.**
**індывід. 6 мес.- 3480 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны**

# КРОНІКА ЛІДЫ




На пачатак 2006 года па звестках Міністэрства статыстыкі і аналізу ў Лідзе жыве 96,5 тыс. чалавек; у Бярозаўцы жыве 11,8 тыс. чалавек; у сельскай мясцовасці раёна жыве 29,7 тыс. чалавек. Усяго ў Лідскім раёне жыве 138 тысяч чалавек.




У пачатку 2006 года ў Лідзе пабачыў свет самвыдатаўскі зборнік твораў Юрыя Кутузава “Да волі”.

14 красавіка Лідскі раён наведаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка.



***А. Р. Лукашэнка на ферме “Новы век” у Мажэйкаве***



***Тацяна Казловіч***

У канцы красавіка ў Лідзе прайшоў 8-мы рэспубліканскі конкурс выканаўцаў на народных інструментах імя І. Жыновіча.
Дыплом 3-й ступені ў намінацыі “Цымбалы” атрымала лідзянка Тацяна Казловіч.

4 траўня калектыў “Лідскай газеты” стаў лаўрэатам Рэспубліканскага конкурсу “Залатое пяро”.



***Рэдактар “Лідскай газеты” Іван Швакель атрымоўвае дыплом лаўрэата***




***“Залатыя пёры” рэдакцыі***



18 траўня з цэнтральнай плошчы г. Ліды зняты помнік Леніну.

2 чэрвеня на конкурсе “Міс Беларусі - 2006” Лена Сядзяк з Ліды стала “2-й віца-міс Беларусі” і “Міс глядацкіх сімпатый”.



***Лена Сядзяк***




У канцы чэрвеня ў Гародні выйшла кніга Сяргея Астраўца “Кактэйль Молатава”.

# Кроніка Лідскі гістарычны каляндар айкумены

## красавік – чэрвень

**1246 год.** Хрышчэнне і прыняцце хрысціянства наваградскім князем Міндоўгам.

**1256 год.** Князі ваўкавыскі Глеб, навагародскі Раман, свіслацкі Ізяслаў з валынскімі дружынамі хадзілі на яцвягаў.

**1346 год.** Князь Кейстут сaступіў Ліду Вялікаму князю літоўскаму Альгерду.

**1366 год.** Прыбыццё ў Ліду трох манахаў-францысканцаў.

**1376 год.** Тры манахі-францысканцы прынеслі ў Ліду выяву Божай Маці з Візненскага парафіяльнага касцёла.

**1696 год, 14 чэрвеня.** Князі Радзівілы падпісалі дакумент, які пацвярджае іх “калатарства” над Беліцкім касцёлам, *“рамонты ўсякія, як касцёла, так і іншых будынкаў пры касцёле абавязаныя выконваць”.*

**1806 год, красавік.** У Лідзе размясціўся вайсковы лазарэт. Дзейнічаў да апошніх дзён ліпеня 1807 г. Гарачка з лазарэта перакінулася на вучняў павятовай вучэльні. Бацькі вучняў забралі дзяцей па хатах.

**1866 год, 25 траўня.** Кастусь Кашыц (буйны землеўладальнік) змушаны быў “добраахвотна” падпісаць акт аб продажы Тарноўшчыны з фальваркамі Рубікі, Шчытнікі, Белагруда, Чыжэўшчына, Банцавічы, усяго каля 2500 дзесяцін зямлі палкоўніку Зміцеру Маўрасу, удзельніку задушэння паўстання 1863 г., за 56300 рублёў і дом ў Рызе ацэначнай вартасцю ў 25000 руб.

**1876 год.** Носель Зелікавіч Пупко пачаў выпуск піва на трэцім піўным заводзе.



***Маці Божая Лідская. (Маці Божая Ружанцовая.) Найстарэйшы каталіцкі абраз на Беларусі. У Лідзе знаходзіцца 630 гадоў. Сведка хрышчэння Літвы Ягайлам. Магчыма, гэтым абразам ахрышчана Лідчына.***

**1886 год, 15 траўня.** Міністр фінансаў зацвердзіў прэйскурант коштаў на землі ў аперацыях сялянскага зямельнага Банка. Лідскі павет падзелены на тры часткі. У паўночнай частцы кошт зямлі па 40 рублёў за дзесяціну, у паўднёвай - па 30, у цэнтральнай - па 55.

**1896 год, красавік.** Распрацавана праектная дакументацыя на будаўніцтва шклозавода ў Бярозавым Гаі.

**1896 год, травень.** Надворны litдарадца Андрэй Феліцыянавіч Квяцінскі напісаў прашэнне з просьбай дазволіць яму пабудаваць гуту.

1896 год, 30 траўня. Лідскае павятовае паліцэйскае кіраванне пераслала прашэнне разам з праектнай дакументацыяй Будаўнічаму аддзяленню Віленскага губернскага кіравання і паведаміла, што *“па мясцовых умовах не мае быць перашкод да задавальнення хадайніцтва А.Ф.Квяцінскага адносна для таго каб дазволіць яму ўладкаванне ў маёнтку яго Астроўня будынкаў для гуты.”*

**1896 год, 5 чэрвеня.** Праектная дакументацыя на шклозавод разгледжаная і ўхваленая старэйшым фабрычным інспектарам.

**1896 год, 30 чэрвеня.** Праект на будаўніцтва шклозавода Квяцінскага ў Бярозавым Гаі разгледжаны і ўхвалены Будаўнічым аддзяленнем Віленскага губернскага кіравання.

**Барацьба з штрайкавым рухам.**

**1906 год, 15 красавіка.** Адбыліся тры масоўкі, прысвечаныя падрыхтоўцы да святкавання 1 траўня.

**1 траўня.** Адбыўся штрайк. Арыштаваныя 10 чалавек, стражнікі ўжылі нагайкі.

**11 траўня.** Заштрайкавалі 50 работніц на тытунёвай фабрыцы Ў.І. Віленчыка.

**13 траўня.** Стачка работніц на тытунёвай фабрыцы Рубіновіча.

**30 траўня**. На тытунёва-махорочнай фабрыцы заштрайкавалі 50 работніц.

**1906 год, вясна.** Пры Лідскай арганізацыі РСДРП меўся гурток прапагандыстаў з 30 чалавек. Гурток займаўся 3 разы ў тыдзень.

**1906 год, 2 чэрвеня.** На тытунёва-махорачнай фабрыцы Рубінчыка (Рубіновіча) заштрайкавалі 30 працоўных і з пагрозамі патрабавалі прыбаўкі жалавання.

**7(20) чэрвеня.** Пачалася стачка 800 працоўных на фабрыцы Ю.Столе, якая працягвалася 5 дзён і скончылася перамогай працоўных.

**11-12 чэрвеня.** На гуце “Нёман” арганізацыяй створаны прафсаюз які аб’ядноўваў 100 чалавек.

**13 чэрвеня.** Ў Вільні на кватэры Рыхарда Вульфава Ёсельсона, дзе меркаваўся з’езд прадстаўнікоў ад Ашмянскай, Лідскай, Свянцянской і іншых сацыял-дэмакратычных арганізацый, праведзены пяратрус і арышты.

**25(8) чэрвеня.** З турмы ўцёк член лідскай арганізацыі РСДРП, які абвінавачваўся ў агітацыі сярод сялян, пры ім былі знойдзеныя 30 праклямацый і бланк з пячаткай РСДРП.

**Чэрвень.** Лідская арганізацыя РСДРП разгромленая - пры пяротрусе ў Вільню ў акруговай арганізацыі быў знойдзены справаздача Лідскай арганізацыі.

**1916 год, травень-чэрвень.** Лідскі пяхотны полк удзельнічае ў Брусілаўскім прарыве.

**1936 год, красавік.** У Вільні адбылася працоўная канферэнцыя ZZZ. Прысутнічала каля 50 дэлегатаў, у тым ліку прадстаўнікі шклозавода “Нёман” і фабрыкі “Ардаль”

**15 красавіка.** Выйшаў першы нумар краязнаўчага часопіса “Ziemia Lidzka” (“Лідчына”) пад рэдакцыяй У. Абрамовіча.

**28 красавіка.** К. Вапнер ад Бунда выступіў на інтэрнацыянальным мітынгу ў Лідзе.

**1 траўня.** Першамайская дэманстрацыя.

**1936 год, 1 траўня.** У народным акцыянерным банку Ліды 1970 чальцоў, балансавая сума 801650 злотых. У Раду банка уваходзяць: ксёндз дэкан Боярунец- прэзідэнт, У. Найда- віца-прэзідэнт, А. Янікоўскі - сакратар, чальцы: Ловіч, Бараньскі, М. Боркоўскі, Ю. Герасімовіч,У. Мусял, С. Піянка, А. Ухто, У. Вільчынскі, А. Вайцёнак, Ю. Жалезко. Дырэктар- З. Міхалоўскі, скарбнік - М. Гурская, чалец - Ю. Задурскі.



ZIEMIA LIDZKA

Nadszedł już czas najwyższy czas nienawiść zniszczyć w sobie!

***“ZIEMIA LIDZKA” - сучасны выгляд***

**1936 год, пачатак чэрвеня.** Арыштаваныя каля 70 найболей актыўных удзельнікаў штрайку на шклозаводзе “Нёман”, іх трымалі ў Лідскай турме. Дзесяць чалавек асудзілі, астатніх выпусцілі праз тры тыдні.

**Чэрвень.** У газеце “Чырвоны сцяг” № 5 апублікаваны допіс аб штрайку працоўных на шклозаводзе “Нёман”, які працягваўся тры месяцы. Дырэкцыя імкнулася любымі сродкамі спыніць штрайк, былі нанятыя штрайкбрэхеры. 13 чэрвеня, калі штрайкбрэхерам прывезлі ежу пад аховай паліцыянтаў, здарылася сутычка працоўных і паліцыянтаў- некалькі чалавек былі параненыя і больш дзесятка арыштаваныя.

**1946 год, красавік.** Выдзелены конь для падвозу медперсаналу ў аддзяленне хуткай дапамогі. Кантынгент 21387 чалавек.

**4 красавіка.** Прынята рашэнне выканкаму аб арганізацыі ДСШ на базе СШ № 1.

**12 красавіка.** Прынята рашэнне выканкаму аб стварэнні парку Перамогі на плошчы былога кірмаша плошчай 1,5 га насупраць будынка Райвыканкаму.

Адбыўся гарадскі партыйны актыў, які абмеркаваў пытанне аб 5 -гадовым плане аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1946 -1950 гг.

**15 красавіка.** Яшчэ раз прынята рашэнне арганізаваць пры СШ № 1 ДСШ з кантынгентам 100 чалавек. Пачаць працу з 3 траўня.

**23 красавіка.** Лідскі райвыканкам прыняў рашэнне аб будаўніцтве торфабрыкетнага завода на торфамасіве “Дакудава”.

**Красавік.** Уведзены ў эксплуатацыю дызель-генератар магутнасцю 600 квт на Лідскай эл. станцыі. Арганізаваны Лідскі ўчастак эл. сетак, узначалены Кацубам С.У.

**1946 год, 23 траўня.** Забіты дэпутат Дубровенскага с/с Варона Аляксандр Казіміравіч.

**26 траўня.** Яшчэ адно рашэнне аб ДСШ: пачаць вучобу з 3 ліпеня, першым дырэктарам прызначаны Галаванаў.

**1946 год, 22 чэрвеня.** Праведзены гарадскі агляд мастацкай самадзейнасці і народнай творчасці. Кантынгент 22746 чалавек.

**1956 год, 12 красавіка.** У горадзе 3066 домаўласніцтваў, 454 каровы, 19 коней, 258 свіняў, 214 коз і авечак.

**1956 год. 17 траўня.** Прынята рашэнне аб пераносе парэшткаў байцоў Чырвонай Арміі, загінулых у гады Вялікай Айчыннай вайны і пахаваных на тэрыторыі авіягарадка.

**1956 год, 10-13 чэрвеня.** Прайшла гарадская спартакіяда па 6 відах спорту.

**29 чэрвеня.** У Доме культуры адбыўся літаратурны вечар памяці Я. Купалы, арганізаваны гарадской бібліятэкай, на якім прысутнічалі: Міхась Калачынскі, Анатоль Астрэйка, Раман Сабаленка і Ў.Ф. Луцэвіч -”цётка Уладзя”. У.Ф. Луцэвіч падарыла гарадской бібліятэцы намаляваны алеем партрэт Я. Купалы работы Ў. Волкава і альбом “Беларускі народны арнамент” з дарчымі надпісамі. Паэты чыталі свае вершы, У.Ф. Луцэвіч успамінала пра Янку Купалу.

**1966 год, 3 траўня.** Усе прадпрыемствы і арганізацыі горада перайшлі на пяцідзённы працоўны тыдзень з двума выхаднымі днямі.

**9 траўня.** Закладка Кургана Неўміручасці. Прыязджалі Галіцкі К.Н., Партноў, Чапуркін М.С., Гапееў Я.Д.

**26 траўня.** Прынята рашэнне гарвыканкаму (пратакол №11) аб пераносе парэшткаў загінулых у 1920 г. байцоў Чырвонай Арміі з вул. П. Марозава на могілкі па вул. Савецкай.

Прынята рашэнне гарвыканкаму аб забароне руху коннага транспарту, прагону жывёлы і праезду грузавых аўтамашын з сыпкімі грузамі па вул. Савецкай на ўчастку ад вул. 8 сакавіка да вул Ленінскай.



***Уладзіслава Францаўна Луцэвіч (цётка Ўладзя)***

# Лідскія юбіляры 2006 года

**ТЫЗЕНГАЎЗ Канстанцін** (3.06.1786 -16.03.1853). Нарадзіўся ў мястэчку Жалудок Лідскага павету, вывучаў у Віленскім ун-це прыродазнаўчыя навукі, арнітолаг. Прымаў удзел у вайне 1812 супраць Напалеона. Пасля вайны цалкам аддаўся навуковай працы ў галіне арніталогіі. Меў стасункі з А. Лапацінскім (адзін з кіраўнікоў паўстання 1831 г. на Дзісеншчыне) у падрыхтоўчы перыяд паўстання, надалей супрацоўнічаў з дзісенскім урадавым камітэтам, дапамагаў матэрыяльнымі сродкамі, пастаўляў зброю і кантаністаў. Справа накіравана ў Віленскую губернскую следчую камісію. Дакладны прысуд невядомы, але наступствы нязначныя, застаўся на Бацькаўшчыне, жыў у Паставах. Аўтар твораў на польскай мове «Асновы арніталогіі, або навукі пра птушак» (1841) і «Усеагульная арніталогія, або Апісанне птушак усіх частак свету» (1843—46). Т. захапляўся жывапісам, быў вучнем мастака Я. Рустэма. Меў у Паставах сваю карцінную галярэю. Апрацаваў ілюстрацыйны матэрыял да кнігі У. Тачаноўскага «Заалогія польскіх птушак» (1862). У сваім маёнтку ў Паставах стварыў арніталагічны музей, у якім было некалькі тысяч узораў птушак з Беларусі, Літвы і Украіны. Пры музеі была значная бібліятэка, якая складалася з кніг па арніталогіі, а таксама рэдкіх помнікаў польскага пісьменства, каштоўнага збору гравюр і сямейнага архіву, дакументы якога пачыналіся ад 13 ст. Пасля смерці Тызенгаўза справу па падтрыманні музея і бібліятэкі і іх папаўненні прадаўжаў яго сын Райнольд (1830—80). У 1856 экспанаты арніталагічнага музея адышлі паводле волі нябожчыка Віленскай археалагічнай камісіі, пры якой быў створаны арніталагічны кабінет. Бібліятэка засталася ў Паставах у нашчадкаў. У 1914 сямейны архіў Тызенгаўза перададзены ў бібліятэку ардынацыі Пшаздзецкіх у Варшаве. У час 1-й сусветнай вайны бібліятэка Т. перавезена з Паставаў у Смаленск. Далейшы яе лёс невядомы.

У Паставах Канстанціну Тызенгаўзу пастаўлены помнік.



***Помнік Канстанціну Тызенгаўзу ў Паставах***

**КРЫПЕЦ Іван Яўстаф’евіч** (24.06.1886- 28.04.1987). Нарадзіўся ў в. Дакудава ў сям’і селяніна-бедняка Яўстафія, маці Параскева, старэйшая за бацьку на год. Скончыў Беліцкую народную вучэльню (вучыўся тры гады). У газеце “Крестьянин” у 1910 г. надрукаваў артыкул аб сарвітутным праве сялян з подпісам Ян Дакудаўскі.

Рабочы фабрыкі (або друкарні) у Вільні (1905-14), салдат царскага войска (1914-17). Член бальшавіцкай кампартыі з верасня 1917 г., карэспандэнт газеты “Известия” (1919), кандыдат у члены ЦК КПБ і член ЦК КПБ, сустракаўся з Леніным у красавіку 1918 г. у яго крамлёўскім кабінеце як дэлегат рабочых інжынерна-будаўнічых дружын з Менска.

У Чырвонай Арміі (1917-21), старшыня Савета рабочых дэпутатаў аддзела кіравання інжынерна- будаўнічых дружын Заходняга фронту ў Менску і Маскве (красавік 1918-люты 1919), рэдактар абласной газеты ў Чарнігаве, старшыня Рэвалюцыйнага Трыбунала на Ўкраіне (1921-24), партыйны работнік ЦК КПБ (1925-33): узначальваў Тураўскі, Бярэзінскі, Клімавіцкі райкамы, нам. загадчыка арг. аддзела ЦК, Бірабіджанская КК РКЧ (1933-1934), Савкантроль ДВК (1934-1937), рэпрэсаваны, Дальбуд (1938-1947), рабочы Алтайскага трактарнага завода (1947-1957), персанальны пенсіянер з 1959 г., у 1965 г. жыў у Лідзе па вул. Неўскага, д. 11, затым у рэспубліканскім інтарнаце персанальных пенсіянераў у Ждановічах.

Ордэн Леніна (1967), ордэн Дружбы Народаў (1986).



***І. Я. Крыпец***

**ЮНДЗІЛ Вячаслаў Васільевіч** (26.4.1906-28.3.1978) нарадзіўся ў Лідзе, адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Гомельскай вобласці.

**БАГДАНОВІЧ Ірына Эрнстаўна (Эрнестаўна).** Нарадзілася 30.04.1956 у Лідзе, у сям'і інжынераў. Дзяцінства прайшло ў Гомелі ў дзядулі і бабулі, у Гомелі скончыла СШ і гістарычна-філалагічны факультэт Гомельскага універсітэта (1978), аспірантуру пры інстытуце літаратуры АН Беларусі (1978-81). З 1983 г. працуе ст. навуковым супрацоўнікам гэтага інстытута, таксама з 1997 г. выкладае на кафедры гісторыі беларускай літаратуры БДУ. Вершы публікуе з 1973 г., літаратурна- крытычныя артыкулы з 1979 г. Выдала зборнікі паэзіі "Чаравікі маленства" (1985), "Фрэскі" (1989), "Вялікдзень" (1993). Аўтар шматлікіх артыкулаў і рэцэнзій аб беларускай паэзіі 20-х гадоў і сучаснага перыяду. Выйшла яе манаграфія "Янка Купала і рамантызм" (1989).

Паэтка, крытык, кандыдат філалагічных навук (1985). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў (1989). Друкавалася ў газеце "Уперад" у 1976 г.



*Ірына Багдановіч*

**ХАМЯКОВА (Гушча) Вольга Рамуальдаўна.** Нарадзілася 10.05.1956 у в. Цвербуты Лідскага раёна ў сям'і настаўнікаў.

Вучылася ў Быстрыцкай васьмігодцы Астравецкага раёна, скончыла Лагойскую СШ. Студэнтка аддзялення рускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта Менскага педінстытута (1973-77). Настаўніца Семкаўскай васьмігодкі Лагойскага раёна (1977-81). Аспірантка Менскага педінстытута (1981-84). З 1985 г. выкладае на кафедры рускай і замежнай літаратуры Менскага педінстытута, цяпер Беларускага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка ў пасадах асістэнта, старэйшага выкладчыка, дацэнта. Кандыдат філалагічных навук (1986). Публікуецца з 1984 г. Даследуе пытанні метадалогіі літаратуры, аналізу мастацкага тэксту, развіццё рускай літаратуры 19 ст. Аўтар літаратуразнаўчых артыкулаў, метадычных распрацовак для студэнтаў філфака.

**ПЕШАХОНАЎ Ігар.** Нарадзіўся ў Віцебску 23 чэрвеня 1966 г. Скончыў Віцебскае СПТВ № 19 па спецыяльнасці фатограф (1985). З красавіка 1986 па лістапад 1987 у складзе 56-й дэсантна-штурмавой брыгады ваяваў у Афганістане.

Працаваў фатографам у Лідскім Ваенгандлі 368, будтрэсце № 19, у Лідскім КБА, кіраваў дзіцячым гуртком пры будтрэсце. Загадчык фотастудыі. У 1998 г. стаў прадпрымальнікам.

Удзельнічаў у стварэнні Лідскага аб'яднання ветэранаў вайны ў Афганістане, узначальваў раённую (гарадскую) арганізацыю - аб'яднанне афганцаў з 1990 па 1996 г.

У чэрвені 1988 г. у лідскім Доме афіцэраў адбылася першая фотавыстава "Афганістан - наш боль". Фотавыстава ў розных варыянтах экспанавалася ў Віцебску, Гародні, Барысаве, Бабруйску, неаднаразова ў Лідзе. З міжнародным Маршам міру аб'ехала Слуцк, Лунінец, Салігорск, Баранавічы, Мікашэвічы, Навагрудак, дзе фотавыстава экспанавалася з бартоў ваеннай тэхнікі на пляцах. У красавіку 1998 г. выстава адбылася ў Менску.



*Ігар Пешахонаў у Галярэі візуальных мастацтваў "NOVA"*

Лаўрэат рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў. Прызёр "Прафотаарт -2002", конкурсу "Таемства мацярынства" - Менск. Дыпламант 4-га фестывалю культуры народаў Беларусі, Гародня-2002, міжнародных конкурсаў у Новы Тарг (Польшча, 1999) і 2002, Закапанэ (Польшча, 2003), Фотабіенале ў Кордобе (Іспанія), Міжнароднага конкурсу ў Трыесце (Італія), у Літве (Вільнюс), у Маскве. Ажыццёўленыя праекты: "Месца службы - Афганістан", "Мая чужая вайна", "Лідчына мінулага стагоддзя" у фотацыклах: "Грані Лідскага замка", "Час збіраць камяні", "Стваральнікі","Касцёлы Лідчыны". Больш 20 сумесных і персанальных выстаў па ўсёй Беларусі. Выдаў фотаальбомы на беларускай англійскай і польскай мовах "Ліда" (Мінск, "Беларусь", 2005), "Навагрудак" (Мінск, "Беларусь", 2006), апошні - пад прозвішчам Пешахонаў-Міцкевіч.

Сябар Беларускага саюза дызайнераў (2002), сябар Савета беларускага творчага аб'яднання "Фотамастацтва". Жанаты. Тры дачкі 0,5, 10 і 15 гадоў.

# Важкі ўклад бацькі і сына ў беларускую этнамузыкалогію

***З нагоды 170-годдзя Яна Карловіча***

**КАРЛОВІЧ** (Karlowicz) Ян Аляксандр (28.5. 1836, в. Субартоніс Алітускага пав., Літва — 14.6. 1903), лінгвіст, этнограф, фалькларыст, музыказнавец. Акадэмік Акадэміі ведаў у Кракаве (1887, член-карэспандэнт 1877). Скончыў Маскоўскі універсітэт (1857). Вучыўся ў Парыжы і Гайдэльбергу (1857—59), у Брусельскай кансерваторыі (1859-60). З 1861 г. выступаў як вілаянчаліст, граў на фартэпіяна, займаўся кампазіцыяй і тэорыяй музыкі. У 1866 годзе атрымаў ступень доктара філасофіі ў Берлінскім універсітэце, абараніўшы працу аб кіеўскім паходзе Баляслава Храбрага. Беспаспяхова спрабаваў заняць кафедру гісторыі варшаўскай Галоўнай Школы. У пачатку 1871 года некалькі месяцаў быў настаўнікам "зборнай музыкі" і расейскай мовы ў Варшаўскай кансерваторыі. Займаўся зберажэннем спадчыны Станіслава Манюшкі, з якім быў у блізкіх адносінах.

У 1871-82 жыў і працаваў на Беларусі ў маёнтках **Подзітва (Лідскі павет)** і Вішнеў (Ашмянскі павет). З 1882 у Гайдэльбергу, Дрэздане, Празе, з 1887 у Варшаве. Аўтар фундаментальных лінгвістычных прац "Слоўнік польскай мовы" (т. 1-8, 1900-27, у суаўт. з А. Крыньскім і В. Нядзьведзкім), "Слоўнік польскіх гаворак" (т. 1-6, 1900-11, закончыў Ян Лось), "Слоўнік выразаў замежнага і малавядомага паходжання..." (А-К, 1894-97). Важнейшыя філасофскія і музыказнаўчыя працы: "Дон Карлас, каралевіч іспанскі" (1867), «Нарыс жыцця і творчасці Станіслава Манюшкі» (1884—85), «Міфалогія і філасофія» (1899). Жывучы ў беларускім асяроддзі, грунтоўна ведаў нар. вусна-паэтычную творчасць, казкі, легенды, паданні народа, яго вераванні і забабоны, абрады і звычаі, прыказкі і прымаўкі і г.д. Пранікся павагай да духоўных скарбаў беларускіх сялян, разумеў іх высокія мастацкія вартасці, заўсёды цаніў іх узровень.

Непасрэдна збіраць і запісваць беларускія фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы Ян Карловіч пачаў яшчэ ў 1868 годзе, для чаго распрацаваў і выдаў ў 1871 годзе "Дапаможнік для збіральнікаў народных твораў". Запісваў беларускія народныя казкі, легенды, паданні, прыказкі і прымаўкі, выслоўі і інш.У 1889 і 1891 запісаў для М. Федароўскага ў Ваўкавыскім павеце больш за 500 мелодый беларускіх народных песень (больш за 300 апублікаваны ў працы Федароўскага "Люд беларускі", т. 5-6, 1958 – 1960). Яшчэ напярэдадні ён выдаў працу "Найноўшыя



***Ян Карловіч***

даследаванні паданняў і іх зборы" (1883), а ў кнізе "Народныя паданні і казкі, сабраныя ў Літве" (т. 1-2, 1887 – 1888) змясціў у перакладзе на польскую мову больш за 80 беларускіх легенд, паданняў і казак, якія запісаў у Свянцянскім, **Лідскім** і Наваградскім паветах.

Падрыхтаваў да друку (не апублікаваны, рукапіс зберагаецца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы, Вільня) зборнік з 400 бел. нар. абрадавых песень (вясновых, валачобных, жніўных, талочных, радзінных, лірычных і інш.), 50 мелодый, шмат казак, легенд, паданняў, прыказак і прымавак, выслоўяў і інш.

Дзіўна, што гэты бясцэнны для сучаснага культурнага будаўніцтва матэрыял застаецца фактычна нявыкарыстаным і малавядомым. Патлумачыць гэта, відаць, можна толькі непавагай нашага музыказнаўства да сваіх нацыянальна-меладычных вытокаў, якімі захапляліся, захапляюцца і чэрпаюць поўнымі жменямі музыказнаўцы іншых, у першую чаргу славянскіх краін ад пачынальніка славянскай музычнай фалькларыстыкі чэха Людвіка Кубы, рускага кампазітара беларускага паходжання Міхаіла Глінкі,

збіральнікаў і аранжыроўшчыкаў беларускіх народных песень Мікалая Рымскага-Корсакава і Аляксандра Грачанінава да дзесяткаў сучасных кампазітараў усіх суседніх краін.

Асобную кнігу вучоны прысвяціў "сусветна знанаму убельскаму маэстра з-пад Менска" (Рыгор Шырма) Станіславу Манюшку – "Нарыс жыцця і творчасці Станіслава Манюшкі" (1884 – 1885). Карловіч першы раскрыў беларускія меладычныя асновы 12 "Хатніх спеўнікаў" кампазітара і яго песень на словы першага збіральніка і выдаўца 6 зборнікаў беларускіх народных песень Яна Чачота і "вечнага вандроўніка" Уладзіслава Сыракомлі. Сам таленавіты этнамузыколаг, Карловіч выявіў беларускую песенна-фальклорную стыхію ў операх Манюшкі "Рэкруцкі набор", "Спаборніцтва музыкаў", "Галька", "Чарадзейная вада" і "Сялянка".

Заснавальнік (1887) і рэдактар (1888—99) часопіса "Wisla" («Вісла»), у якім друкаваў беларускія фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы, запісаныя ў розных рэгіёнах Беларусі. Ён цвёрда адстойваў права беларусаў на самастойнае нацыянальнае існаванне і развіццё, што напрыканцы XIX ст., калі пасля забойства рускага цара беларускім шляхціцам Грынявіцкім было забаронена нават ужываць назву Беларусь, было фактам незвычайнай грамадзянскай мужнасці і навуковай дабрасумленнасці. Прызнаваў за беларусамі права на самастойнае развіццё навукі і культуры, заклікаў вучоных даследаваць беларускую мову, фальклор, народны побыт, звычаі і абрады народа. У прадмове да зборніка «Беларускія паданні» У. Вярыгі (Львоў, 1889) і інш. працах станоўча пісаў пра бел. народ, яго вусна-паэтычную творчасць, падкрэсліваў самастойнасць і самабытнасць беларускай мовы. Кансультаваў Біруту, У. Вярыгу, А. Гурыновіча як збіральнікаў-фальклярыстаў, уладкоўваў у друк іх зборы беларускай народнай творчасці. Перапісваўся з Э. Ажэшкай, Бірутай, А. Гурыновічам, У. Вярыгай, М. Доўнар-Запольскім, М. Федароўскім, М. Янчуком, А.Ельскім і інш. вучонымі-фальклярыстамі. Доўгія гады сябраваў з Ф. Багушэвічам, падтрымліваў яго. Выступаў у друку з рэцэнзіямі на працы бел. даследчыкаў і фальклярыстаў-збіральнікаў П. Шэйна, М. Доўнар-Запольскага і інш. У прадмове да зборніка Уладзіслава Вярыгі "Беларускія паданні"(1889) з захапленнем пісаў пра самабытнасць фальклору беларусаў. Яго запісы твораў бел. фальклору ўвайшлі ў тамы серыі БНТ: «Прыказкі і прымаўкі» (кн. 1 — 2, 1976), «Выслоўі» (1979), «Жарты, анекдоты, гумарэскі» (1989).

Быў сузаснавальнікам (1884) і галоўным рэдактарам "Prac Filologicznych" ("Філалагічных працаў"). Аўтар працаў "Польская хата" (1884), "Сістэматыка песень польскага народа" (1889 - 95).



***Мечыслаў Карловіч***

Беларусазнаўчую працу бацькі на аснове дзіцячага выхавання і захаплення беларускай песеннай стыхіяй прадоўжыў народжаны ў Вішневе першы буйны сімфаніст у гісторыі польскай музыкі, таленавіты сын фальклярыста Мечыслаў Карловіч (1876 – 1909). Арганізатар (1902) і ў 1905 – 1906 гадах галоўны дырыжор сімфанічнага аркестра пры Варшаўскім музычным таварыстве, аўтар сімфоніі "Адраджэнне", 7 сімфанічных паэм ("Зваротныя хвалі", «Станіслаў і Ганна Асвецімы", "Эпізод на маскарадзе" і інш), многіх камерна-інструментальных ансамбляў, у 1900 пачаў, па прыкладу бацькі запісваць ўзоры беларускіх народных песень (найперш жніўных з-за іх музычных пераліваў) і музычнага фальклору, якія выкарыстаў у сімфанічным трыпціху "Адвечныя песні" (1904 – 1906) і ў выдатнай "Літоўскай рапсодыі" (1906). Найлепшы прыхільнік творчасці Мечыслава Карловіча Рыгор Шырма часта прыводзіў словы кампазітара, што ён стварыў апошнюю "на аснове мелодый жніўных песень з Дзісеншчыны, якія гучалі з дзяцінства".

Ураджэнцы Беларусі, бацька, аўтар васьмітомнага "Слоўніка польскай мовы" і шасцітомнага "Слоўніка польскіх гаворак", і сын, аўтар першага буйнога сімфанічнага твора "Літоўская рапсодыя", Ян і Мечыслаў Карловічы залатымі літарамі навечна ўпісалі свае імёны ў скрыжалі вялікай беларускай гісторыі.

***Васіль Ліцьвінка,***
***старшыня Саюза фальклярыстаў Беларусі.***

# Лекар, навуковец, педагог

## *(да 70-годдзя прафесара Э.А. Вальчука)*

Эдуард Антонавіч Вальчук нарадзіўся 28 траўня 1936 г. у г. Лідзе. Яго дзяцінства і юнацтва прыйшліся на цяжкія ваенныя і пасляваенныя гады. Вучыўся ў СШ №3. У 1959 г. пасля заканчэння лячэбнага факультэта Менскага медыцынскага інстытута быў накіраваны на працу галоўным лекарам сельскай участковай лякарні ў в. Белагруда Лідскага раёна. Праца ў першасным звяне сельскай аховы здароўя (1959-1963) не толькі спрыяла станаўленню Э.А. Вальчука як кваліфікаванага лекара, але і заклала асновы яго арганізатарскай дзейнасці, заахвоціла да навуковых пошукаў. У далейшым Э.А.Вальчук сфармаваўся як арганізатар аховы здароўя, выконваючы прафесійныя абавязкі на пасадах кіраўнікоў падраздзяленняў, устаноў і органаў аховы здароўя раённага ўзроўню: галоўны лекар Лідскай гаррайсанэпідэмстанцыі (1963-1964), галоўны санітарны лекар Лідскага раёна і раённай санэпідстанцыі (1964-1967), галоўны санітарны лекар Ваўкавыскага раёна (1972), лекар аргметадкабінета (1972-1975), намеснік галоўнага лекара Лідскай ЦРБ (1967-1972, 1975-1982). Сваёй дзейнасцю ён спрыяў фармаванню этапнасці арганізацыі медыцынскай дапамогі сельскаму насельніцтву Лідскага раёна. Эдуард Антонавіч падкрэсліваў (і гэта знаходзіла практычную рэалізацыю) важнасць участковага і раённага этапаў аказання кваліфікаванай і асобных відаў спецыялізаванай медыцынскай дапамогі.

У 1964-1982 гг. Э.А.Вальчук неаднаразова абіраўся дэпутатам раённага Савета і старшынём пастаяннай камісіі па ахове здароўя і сацыяльнаму забеспячэнню, што дазваляла вырашаць праблемы сельскай аховы здароўя комплексна і на дзяржаўным узроўні. Характэрна, што практычны арганізатар аховы здароўя раённага цэнтра праводзіў навуковыя даследаванні па ўдасканаленні сістэмы арганізацыі медыцынскай дапамогі сельскаму насельніцтву, прычым дадзеную працу Эдуард Антонавіч ажыццяўляў на аснове гістарычнага метаду. Ён карпатліва збіраў і аналізаваў першасны гістарычна-медыцынскі тэматычны матэрыял, працуючы ў архівах гг. Гародня, Вільня, Менск. У гэтыя гады Э.А. Вальчук сфармаваўся як навуковец, гісторык медыцыны. Ён выступаў з дакладамі на ўсесаюзных, рэспубліканскіх навуковых канферэнцыях па гісторыі медыцыны. У яго склаліся творчыя і сяброўскія кантакты з віднымі савецкімі навукоўцамі ў вобласці гісторыі медыцыны - П.Я. Заблудоўскім, Г.Р. Кручком, М.І. Барсуковым, А.К. Касачом.



У 1981 г. Э.А.Вальчук паспяхова абараніў **кандыдацкую дысертацыю** на тэму ***"Гісторыя, сучасны стан і перспектывы развіцця лячэбна-прафілактычнай дапамогі сельскаму насельніцтву раёна (на прыкладзе Лідскага раёна Гарадзенскай вобласці)"***. У 1982 г. яму была прысвоеная вышэйшая кваліфікацыйная катэгорыя па спецыяльнасці "арганізацыя аховы здароўя". У гэтым ж годзе ён быў абраны па конкурсе на пасаду старэйшага выкладчыка кафедры сацыяльнай гігіены і арганізацыі аховы здароўя Беларускага інстытута ўдасканалення лекараў (БЕЛДІУЛ) і пераехаў у Менск. Так пачаўся наступны этап творчай дзейнасці Э.А.Вальчука, які характарызуецца працягам і пашырэннем навуковых даследаванняў. У 1993 г. ён абараніў дысертацыю на асягненне навуковай ступені доктара медыцынскіх навук ***"Навуковае абгрунтаванне і распрацоўка сістэмы медыцынскай рэабілітацыі (на прыкладзе сельскіх раёнаў Рэспублікі Беларусь)"*** і стаў адным з вядучых адмыслоўцаў новага кірунку ў ахове здароўя Беларусі - медыцынскай рэабілітацыі. У 1994 г. Эдуарду Антонавічу было прысвоена навуковае

званне прафесара, а ў 1997 г. ён быў абраны членам-карэспандэнтам Беларускай медыцынскай акадэміі.

Э. А. Вальчук з'яўляецца аўтарам больш 190 навуковых публікацый, у тым ліку манаграфіі "Асновы арганізацыйна-метадычнай службы і статыстычнага аналізу ў ахове здароўя" (суаўт. Н.І. Гуліцкая, Ф.П. Царук), суаўтарам трох манаграфій.

Э.А. Вальчук актыўна займаецца праблемамі падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кіраўнічых кадраў аховы здароўя. Ён з'яўляўся дэканам санітарна-гігіенічнага і фармацэўтычнага (1987-1992), тэрапеўтычнага (1992-1995), хірургічнага (1995-1999) факультэтаў БЕЛДІУЛ. З 1999 па 2005 г. Эдуард Антонавіч узначальваў створаны па яго ініцыятыве ўпершыню ў СНД факультэт сацыяльнай медыцыны, арганізацыі і кіравання аховай здароўя БЕЛМАПА (з 2004 г. - факультэт грамадскага здароўя  і аховы здароўя).

У 1993 г. Э.А. Вальчук быў абраны на пасаду загадчыка кафедры сацыяльнай гігіены, эканомікі і кіравання аховай здароўя БЕЛДІУЛ (з 2001 г. - кафедра грамадскага здароўя і аховы здароўя). Пад яго кіраўніцтвам удасканальваюцца праграмы і методыка выкладання для розных катэгорый працаўнікоў аховы здароўя на паслядыпломным этапе, у тым ліку на выязных цыклах ва ўсіх абласцях Беларусі. Варта адзначыць, што да распаду СССР выкладчыкі кафедры разам з Э.А.Вальчуком праводзілі паслядыпломную падрыхтоўку арганізатараў аховы здароўя большасці саюзных  рэспубалік.

Прафесар Э.А.Вальчук - ініцыятар курсаў паслядыпломнай падрыхтоўкі выкладчыкаў кафедр сацыяльнай гігіены і арганізацыі аховы здароўя, удзельнік абмеркавання праблем медыцынскай адукацыі і сацыял-гігіенічнага навучання на акадэмічным і паслядыпломным этапах. Ён арганізаваў падрыхтоўку рэзервы кіраўнічых кадраў Міністэрства аховы здароўя на двухгадовым завочным курсе перападрыхтоўкі "Кіраванне аховай здароўя" (1999), а на кафедры грамадскага здароўя і аховы здароўя - падвышэнне кваліфікацыі па новых кірунках: "Эканоміка і бухгалтарскі ўлік у ахове здароўя" (2000), "Арганізацыя сястрынскай справы" (2001), "Інфарматыка" (2001), "Тэхналогія бальнічнай гаспадаркі і ахова працы ў ахове здароўя" (2001).

Э.А. Вальчук - старшыня Рэспубліканскай праблемнай камісіі па сацыяльнай гігіене і арганізацыі аховы здароўя, старшыня Рэспубліканскай атэстацыйнай камісіі па арганізацыі аховы здароўя, член бюро навукова медыцынскага савета Міністэрства аховы здароўя, член савета па абароне доктарскіх дысертацый па спецыяльнасці "Грамадскае здароўе і ахова здароўя", член навуковага савета БЕЛМАПО, БЕЛЦМТ, галоўны пазаштатны адмысловец Міністэрствы аховы здароўя па грамадскім здароўі і ахове здароўя, галоўны рэдактар часопіса "Веснік пенітэцыярнай медыцыны", старшыня рэдакцыйнай калегіі часопіса "Медыцынскія навіны", навуковы кансультант выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя", член рэдакцыйных саветаў шэрагу медыцынскіх часопісаў. Пры яго непасрэдным удзеле арганізаваныя і праведзеныя чатыры з'езды сацыялгігіеністаў і арганізатараў аховы здароўя Беларусі, ён абраны ў склад прэзідыюма БАСГАР (2000). Э.А. Вальчук актыўна ўдзельнічаў у арганізацыі і правядзенні 7-й, 8-й, 9-й і 10-й рэспубліканскіх навуковых канферэнцый па гісторыі медыцыны (1995, 1998, 2001, 2004). У 1995 г. ён абраны старшынём Беларускага навуковага таварыства гісторыкаў медыцыны і фармацыі. Пры яго падтрымцы ўсталяваны навуковыя кантакты з даследчыкамі з Польшчы і Расіі. Э.А. Вальчук - замежны член Польскага таварыства гісторыкаў медыцыны і фармацыі (1997).

Пад кіраўніцтвам прафесара Э.А. Вальчука ўпершыню ў Рэспубліцы Беларусь падрыхтаваны і абаронены 12 кандыдацкіх дысертацый па сацыяльнай гігіене і арганізацыі аховы здароўя. Ён з'яўляецца заснавальнікам навуковай школы ў вобласці грамадскага здароўя і аховы здароўя ў Беларусі. Асноўныя кірункі даследаванняў, што праводзяцца ў рамках навуковай школы, - вывучэнне эфектыўных форм і метадаў кіравання медыцынскімі арганізацыямі і распрацоўка прынцыпаў рэалізацыі мадэляў арганізацыі і кіраванні службамі аховы здароўя ва ўмовах рынкавых адносін; арганізацыя медыцынскай рэабілітацыі ў ахове здароўя; дэмаграфічныя працэсы і здароўе, прагназаванне грамадскага здароўя; вывучэнне гістарычных заканамернасцяў развіцця аховы здароўя і медыцынскай навукі.

Э.А. Вальчук узнагароджаны медалямі "За доблесную працу. У адзначэнне 100-годдзя з дня нараджэння Ў. І. Леніна", "Ветэран працы", адзначаны Ганаровым знакам таварystваў Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца СССР, знакам "Выдатніку аховы здароўя", шматлікімі Ганаровымі граматамі Міністэрства аховы здароўя СССР, БССР, АКК і КП СССР.

Эдуарду Антонавічу Вальчуку ўласцівыя выдатныя чалавечыя якасці. Ён - патрыёт Беларусі і сваёй малой радзімы - гарады Ліды.  Надае шмат увагі сям'і, дзецям і ўнукам. Любіць працаваць на зямлі, збіраць грыбы, ягады, захапляецца рыбалкай.

*Матэрыял падабрала і падрыхтавала да друку*
*Ірына Мятліцкая,*
*бібліятэкар*
*Рэспубліканскай навукова -медыцынскай*
*бібліятэкі.*

# З Ліды ў вялікае мастацтва

## (60-гадоў доктару мастацтвазнаўства Р.Б. Смольскаму)

**СМОЛЬСКІ Рычард Баляслававіч.** Нарадзіўся ў Лідзе 3.04.1946 г. Беларускі тэатразнавец, педагог. Доктар мастацтвазнаўчых навук (1991), прафесар (1999). Старшыня Беларускага саюза літаратурна-мастацкіх крытыкаў. Рэктар Беларускай Акадэміі Мастацтваў.

Яго творчы шлях быў нялёгкі. Рычард Смольскі паспытаў свае сілы і як пісьменнік, і як драматург, і як рэжысёр.

Першы паэтычны твор Р. Смольскага з'явіўся ў школьнай насценгазеце, калі аўтар вучыўся ў 6-м класе. Затым ён спрабаваў іграць у школе розныя сцэнкі. Папова Надзея Іванаўна, якая вучыла Рычарда ўспамінае: *"Мы ў клубе чыгуначнікаў ставілі спектакль пра Ламаносава, і Рычард так добра сыграў, што такога ад яго ніхто не чакаў."* Напэўна гэтая першая тэатральная спроба адыграла значную ролю ў яго жыцці.

Пасля заканчэння школы Рычард Смольскі прымаў удзел у спектаклі гарадскога Дома культуры "Над хвалямі Серабранкі", які быў паказаны не толькі перад гледачамі Ліды, а, нават, у Менску.

*"Добры хлопчык, добра чытаў, актыўна ўдзельнічаў у самадзейнасці, прасіў парады, куды лепш пайсці вучыцца: на гістарычны факультэт ці ў тэатральны інстытут"*, - так успамінае пра свайго вучня заслужаная настаўніца Беларусі Алена Генрыхаўна Бузава.

Пайшоў у Беларускі тэатральна - мастацкі, дзе і пачаў цікавіцца тэатразнаўствам. Пасля заканчэння інстытута (1970) працаваў на кінастудыі "Беларусьфільм", спачатку асістэнтам рэжысёра па рэквізіту, затым асістэнтам па рабоце з акторамі, пасля другім рэжысёрам-пастаноўшчыкам трупы.

Быў прызваны ў войска. Служыў у Куйбышаве ў акруговай газеце, там пачаў пісаць пра Куйбышаўскі тэатр імя Горкага.

Пасля службы вярнуўся на "Беларусьфільм" на пасаду рэдактара творчага аб'яднання "Летапіс". Стаў аўтарам навукова-папулярнага кіначасопіса "Сельская гаспадарка Беларусі".

Затым скончыў аспірантуру, абараніў кандыдацкую і доктарскую дысертацыі, тэмай якіх была тэатральная дзейнасць.

З 1976 года ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі (з 1988 заг. аддзела), адначасова з 1997 рэктар Беларускай Акадэміі Мастацтваў. Даследуе праблемы рэжысуры, акцёрскай творчасці, сцэнічнай героікі, рускай тэатральнай культуры на Беларусі. Аўтар кніг: "На сцене - бессмертие подвига", Мінск, 1982; "Пазначана часам. Пошукі сучаснай беларускай



рэжысуры", Мінск "Навука і тэхніка", 1984; "Грядущим в наследство. Тема ВОВ в белорусском театре 80-х годов", Мінск, "Навука і тэхніка", 1986; "Театр и жизнь. Некоторые проблемы театрального процесса в Белоруссии 70-80-х годов" (адзін з аўтараў), Мінск, "Навука і тэхніка", 1989; «Стварэнне лёсу: Гістарычная і героіка-рэвалюцыйная тэма ў тэатрах Беларусі 70—80-х гг.» (1987), "Тэатр у прасторы і часе", Мінск, "Мастацкая літаратура", 1998; "На скрыжаванні. Тэатр у працэссах станаўлення і развіцця гістарычнай і нацыянальнай свядомасці беларусаў", Мінск, "Беларуская навука", 1999. «Рэха мінулага: Тэатразнаўчыя эцюды аб беларускай культуры XX ст.» (2000); раздзелаў «Гісторыі беларускага тэатра» (т. 2—3, 1985—87); п'ес (з Ю. Сохарам) «Разбег» (1974), «Выкупленне» (1976), «Не толькі пра каханне» (паст. 1978); радыёп'есы «Лёс, які мы выбіраем» (паст. 1986); сцэнарыяў дакумент. фільмаў «Марыя» (1975); «Праз усё жыццё» (1978, пра Е. Міровіча), «Уладзіслаў Галубок» (1982); «Жыццё кліча» (1984, пра У. Крыловіча), «Антракт» (1992, пра М.Яроменку; з В. Навуменкам). Адрэдагаваў зборнік "Сучасная беларуская рэжысура. Пошукі мастацкай адметнасці ў кантэксце традыцый еўрапейскага тэатра." (Мінск, 1998).

Але свой першы артыкул "Героі жывуць вечна" надрукаваў усё-такі ў лідскай газеце "Уперад" у далёкім ужо 1965 годзе.

***Наталля Хацяновіч.***

# *50 гадоў сваіх не прычакаў*

**Леанід Макаравіч Віннік** (6.06.1956, г. Ліда – 1.05.2006) – вядомы на Лідчыне паэт і краязнавец, аўтар зборнікаў вершаў “Под погасшими звёздами” (1996), “Мелодии печального дождя” (1997), “Ностальгия” (1999), “Откровение” (2000, у саюзніцтве з Л. Пырскім), беларускамоўнага даведніка культурнага жыцця Лідчыны напрыканцы XX стагоддзя “Зоркі лідскіх небасхілаў” (2001) і рускамоўнай краязнаўча-біяграфічнай кнігі “Время и судьбы” (2004, у саюзніцтве з М. Мельнікам).

Леанід Віннік пісаў у асноўным па-руску. Але яго беларускамоўныя творы вызначаюцца выдатным веданнем мовы, мілагучнасцю, пранікнённасцю, глыбокім лірызмам, тонкім бачаннем навакольнай рэчаіснасці. Вершам Л. Вінніка ўласціва і меладычнасць, таму многія з іх пакладзены на музыку. Песня “Горад мой” (словы Л. Вінніка, музыка В. Пыпеця) з’яўляецца як бы неафіцыйным гімнам горада Ліды. Яна гучала на “Славянскім базары” ў Віцебску. Доўгі час ёю пачыналіся перадачы Лідскага радыё.

Песні на словы Леаніда Вінніка таксама пісалі Г. Зубрыцкі, С. Бугасаў, С. Чарняк. С. Лявонава і іншыя.

Леанід Віннік быў неўтаймаваным па натуры чалавекам: працаваў электрыкам на будоўлі трасы “Ніжнявартаўск – Сургут – Урангой”, бондарам на возеры Байкал, будаўніком у БУ – 133 г. Ліды, у г. Туапсе і на Камчатцы, сталяром у Лідскім гарадскім унітарным прадпрыемстве жыллёва-камунальнай гаспадаркі і на іншых работах.

Займаў актыўную жыццёвую пазіцыю, уваходзіў у розныя грамадскія арганізацыі Ліды. Быў шчырым прыхільнікам літаратурнага аб’яднання “Суквецце” пры рэдакцыі “Лідскай газеты”, тры дзесяцігоддзі друкаваўся на старонках гэтага выдання, а таксама ў розныя гады змяшчаў свае творы ў “Гродзенскай праўдзе”, “Прынеманских вестях”, часопісах “Оникс” ,“ Ад лідскіх муроў” і інш.

Ён умеў даражыць сяброўствам, быў чуллівым і спагадлівым, з адкрытай душой, да канца дзён сваіх заставаўся аптымістам, верыў у зменлівасць лёсу і чалавечую дабрыню, што так кранальна апеў у сваіх вершах.

Пахавалі Леаніда Вінніка 7 траўня 2006 года на могілках Лідскай Слабадской каталіцкай парафіі.

Ён быў Паэт, і ўспаміны пра яго застануцца светлымі.

***Міхась Мельнік.***



***Леанід Віннік***

***Леанід Віннік***

**Горад мой**

Ласкай сонейка шчодра абліты,
Ну куды толькі вокам ні кінь...
Прывітанне табе, горад Ліда.
Добры дзень вам, мае землякі.

Я табою ганаруся,
Ты заўсёды са мной,
Прыгажэйшы па ўсёй Беларусі,
Любы мой, горад мой.

Ты ў людзях сваіх, нібы ў зорках,
Ў старажытных легендах жывеш.
Б’юць маланкі высока-высока,
А тваіх не кранаюцца веж.

Я табою ганаруся,
Ты заўсёды са мной,
Прыгажэйшы па ўсёй Беларусі,
Любы мой, горад мой.

## Роднасць

Зноў, нібы ў снах прарочых,
Бачу ўсё ясна-ясна:
Любай матулькі вочы,
Постаць яе ля вязаў...

Быццам ідзе па глебе,
Той – ні канца, ні краю...
А ў сінім – сінім небе
Сонейка дзіўна грае.

Ўсё тут хвалюе сэрца:
Рэчка і дуб прыкметны...
І нікуды не дзецца
Ад успамінаў светлых.

Наша старая хата
Па-над ракой Лідзейкай,
Ў ёй усяго багата,
Хлеб мне там і пасцелька.

Там і маё каханне
Ў белай сукенцы новай
Шчыра мяне вітае
Матчынай роднай мовай.



*Апошні прытулак Леаніда Вінніка*

* * *

Не дацягнешся да зоркі ў расе,
Пад вялікім дажджом не пагрэеш рукі:
Але нітка адлётных гусей
Не патоне ў дажджы разлукі.

Гэтай ніткі рукой не кранеш,
Хоць пакуль што чысценькай ходзіш.
Зорка знікне ў жыцці на дне,
Ты шукай – не шукай – не знойдзеш.

Зорка знікне – ужо не падняць,
Пацямнеюць у полі пакосы.
І табе ўначы не суняць
Ні дажджы, ні вятры, ні слёзы.

* * *

Сляды пакінуў час
На векавечных плітах.
Праходзіць ноч ў цішы,
Дзень крочыць у жыццё...
І цесна родніць нас,
Мой гарадочак Ліда,
І цеплыня душы,
І дружбы пачуццё...

## Беларусі

Ніхто гэты цуд у мяне не адыме,
З напеваў матулі ля чыстых крыніц
Святою малітвай прыйшло тваё імя
І ўся ты, што кветка пасля навальніц.

Ці будзе спякота, ці павадак будзе,
Я лёсу ўсё роўна ўдзячны за ўсё,
Зямелька-зямліца ўскалыхвае грудзі,
Пах вольных дуброў і блакітных азёр.

Ды сонейка мне тут па-добраму свеціць,
І ў небе жаўрук, і рамонкі ў жніве...
Жыве Беларусь, і жывуць яе дзеці,
І бусел над матчынай хатай жыве.

*Падрыхтаваў да друку Міхась Мельнік.*

# ЛІДЗЯНЕ Ў ПАЎСТАННІ 1831 ГОДА

## *Да 175-х угодкаў паўстання*

*Паўстанне 1831 года доўгі час заставалася ў гісторыі Лідчыны "белай плямай". Ці то тады канспірацыя была лепшай, ці часу прайшло болей, але з розных крыніц дайшлі толькі разрозненыя факты і асобныя імёны. З успамінаў Ігната Дамейкі вядома пра рэйд генерала* ***Хлапоўскага*** *па Лідчыне, вядома пра ўдзел у паўстанні самога* ***Ігната Дамейкі*** *і двух яго сялян* ***Лукаша*** *і* ***Рыгора*** *(прозвішчы не названыя). Бадай што і ўсё. Але апошнім часам беларускія навукоўцы зрабілі некалькі прарываў у недаступныя ці нязнаныя раней архівы, і вось з'явілася* ***кніга В. В. Гарбачовай "Удзельнікі паўстання 1830 - 1831 гг. на Беларусі. Бібліяграфічны слоўнік." Мінск. Выдавецкі цэнтр БДУ. 2006.*** *Кніга выйшла накладам ажно 150 асобнікаў і адразу стала рэдкасцю мала даступнай, як і тыя ж архівы. У кнізе прадстаўлены 2300 персаналій - удзельнікаў паўстання. Нам удалося выдзеліць з гэтага спісу 86 асобаў, якія адносіліся да Лідскага павету. Гэта вядома ж не ўсё, але 86 імёнаў гэта трохі больш, чым адно імя І. Дамейкі ды двух яго сялянаў. Гэта не ўсё і таму, што чакаецца выхад, як мінімум яшчэ адной кнігі на гэтую ж тэму. Магчыма, і там будуць лідзяне. А пакуль мы прапануем спіс удзельнікаў паўстання крышку папраўлены з улікам лідскіх рэалій, якія не да канца вядомыя нетутэйшым аўтарам.*

***Станіслаў Суднік.***

**1. Александровіч Антоні** - памешчык з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў прымусова. Па рашэнні ГГСК* пакінуты вольным. *РДВГА**-8, арк. 3.*

**2. Аранскі Антоні** (27.3.1813-11.6.1835) - шляхціц з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. У паўстанні шараговец аддзела наваградскай конніцы фармавання Г. Дэмбінскага, падафіцэр 13 ул. палка. Прыбыў у Францыю на караблі "Лакс" 4.8.1832. Знаходзіўся ў закладзе ў Буржэ, 25.6.1833 скіраваны ў Каор, 9.7.1833 прыбыў у дэп. По, размясціўся ў Мартэлі. Памёр у По. Па рашэнні ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. злачынцаў. *НГАБ***-4, арк. 136; РДВГА-8, арк. 227; AGAD****, WCPL*****, nr 724, k. 78; BPP******, nr 565; ND*******. 1843. S. 143; Bartkowski J. Spis Polakow zmarlych. S.318; Bielecki R. Zarys rasproszenia. S. 149, 291; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 489.*

**3. Багдзевіч Аляксандр** - селянін з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Дабраахвотна далучыўся да паўстанцаў. Удзельнічаў у сутыкненнях. *РДВГА-5, арк. 179.*

**4. Багуцкі Юзаф** — іераманах Лідскага піярскага кляштара Гарадзенскай губ., б. настаўнік Лідскай пав. вуч. Капелан у аддзеле Д. Хлапоўскага. Трапіў у палон, адпраўлены ў Пскоў. Пад час следства называўся Базылём Макарскім. Па рашэнні ГГСК 19.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., па канфірмацыі ген.-губ. М. Далгарукава пазбаўлены духоўнага сану і аддадзены ў салдаты. *НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 405; ф. 561, воп. 1, спр. 2, арк. 17адв.; спр. 3, арк. 94; РДВГА-8, арк. 20; Dangel S. Rok 1831. S. 122.*

**5. Бажароўскі Іван** - вольны з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Дзейнічаў у складзе аддзелаў Д. Хлапоўскага, Г. Дэмбінскага. Адышоў у Прусію, адкуль інтэрнаваны. Па рашэнні ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 21.*

**6. Бальсевіч Дзіяніс** - ксёндз Лідскага кармяліцкага кляштара Гарадзенскай губ. Хаваў зброю. Пераведзены ў Крупчыцкі кляштар. *РДВГА-8, арк. 8-9.*

**7. Баневіч Іван** - шляхціц з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні кароткачасова. Па рашэнні ГТСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 8-9.*

**8. Банецкі Матэвуш** - селянін памешчыка Жуковіча з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-5, арк. 83.*

**9. Бароўскі Міхал** — селянін памешчыка Какоўскага з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Удзельнічаў у паўстанні. *РДВГА-5, арк. 197.*

---

** **ГГСК** - Гарадзенская губернская следчая камісія.*
*** **РДВГА** - Расійскі дзяржаўны вайскова-гістарычны архіў.*
**** **НГАБ** - Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі.*
***** **AGAD** - Галоўны архіў даўніх актаў у Варшаве.*
****** **WCPL** - Склад цэнтральных уладаў Лістападаўскага паўстання 1830-1831 г.у Галоўным архіве даўніх актаў у Варшаве.*
******* **BPP** - Польская бібліятэка ў Парыжы.*
******** **ND** - Дэмакратычны штогоднік.*

**10. Бацулевіч Андрэй,** сын Лаўрэнція (н. каля 1810) - селянін з в. Калінікі Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Знаходзіўся ў аддзеле Д. Хлапоўскага. Адышоў у Прусію, адкуль інтэрнаваны. Адпраўлены ў Гародню. Па рашэнні ГГСК ад 20.8.1832 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ -2, арк. 12, адв. РДВГА-8, арк. 11. Sliwowska W. Zeslancy polscy. S. 43.*

**11. Белка Юры** - селянін з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. Па рашэнні ГГСК ад 30.5.1833 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус, выехаў на Каўказ 27.7.1833. *НГАБ-2, арк. 35; РДВГА-8, арк. 40; Sliwowska W. Zeslancy polscy. S. 43.*

**12. Брант Ян** - з Лідскага пав. Гарадзенскай губ., студэнт Віленскага ун-та. У паўстанні ппар. артылерыі. Эміграваў у Францыю, у снеж. 1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. Наведваў матэматычныя курсы, у 1847 здаў экзамен на інструктара дарог і мастоў. У 1857 жыў у Дзюнкерку. *РДВГА-5, арк. 219; ч. 8, арк. 28; Bielecki R. Zarys rasproszenia. S. 86; Konarska B. Polskie drogi. S. 232.*

**13. Вінча Казімір** - шляхціц з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў, удзельнічаў у баях. Узяты ў палон. Па рашэнні ГГСК адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *РДВГА-8, арк. 51.*

**14. Вітажэнец Ігнат** - шляхціц з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Служыў у ашмянскіх паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-5, арк. 422.*

**15. Вуменскі Юзаф** - шляхціц з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Дзейнічаў узбр. сярод паўстанцаў. Памёр у Вільні ад ран. *РДВГА-8, арк. 62.*

**16. Вянглевіч (Венгелевіч) Анастасій** - ксёндз Лідскага кармяліцкага кляштара Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Служыў у аддзеле Д. Хлапоўскага. Эміграваў. Па рашэнні ГГСК ад 19.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 44адв.; РДВГА-8, арк. 45.*

**17. Галец Варфаламей** - селянін памешчыка Андржэйкавіча з в. Тарноўшчына Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні прымусова. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 75.*

**18. Гансяроўскі Іван** - селянін памешчыцы Тышкевічавай з мяст. Васілішкі Лідскага пав. Гарадзенскай губ. У Таневічах апынуўся сярод паўстанцаў. Знаходзіўся ў абозе пад час бітвы пад Вільняй, дзе трапіў у палон. Збег, быў зноў арыштаваны. Парашэнні ГГСК ад 18.4.1832 аднесены да 3 разр. зл. *НГАБ у г. Гародні, ф. 4, воп. 1, спр. 64, арк. 12-14.*

**19. Гансяроўскі Юры** - селянін памешчыцы Тышкевічавай з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні прымусова. Збег пры пераходзе мяжы КП*. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 76.*

**20. Гарчынскі Юзаф**, сын Матэвуша (н. каля 1806) - з Лідскага пав. Гарадзенскай губ., у дзяцінстве вывезены ў Галіцыю, дзе служыў камердынерам. У паўстанні падафіцэр, затым ппар. 1 палка лін. пяхоты. 15.4.1831 адзначаны залатым крыжам. Апынуўся ў Галіцы, вярнуўся ў КП, дзе затрыманы і адпраўлены ў Гародню. Па рашэнні ГГСК ад 21.2.1834 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *РДВГА-8, арк. 69; Ksiega pomientkowa. S. 111. Sliwowska W. Zeslancy polscy. S. 168.*

**21. Гаўрыловіч Ян** (8.2.1804-20.11.1870) - шляхціц з Лідскага пав. Гарадзенскай губ., н. у в. Салечнікі, сын Антонія і Ганны Чарнецкай. У паўстанні шараговец 12 ул. палка. Адышоў у Прусію. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі "Граф Келі", у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834-35 у Афрыцы, у 1835-37 у Іспаніі. У вер. 1841 асеў у Ля-Рашэлі, працаваў краўцом. З 17.3.1847 член ПДТ**. Памёр у шпіталі. Па рашэнні ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 75 адв.; РДВГА-8, арк. 63; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 153; Krawiec L. Lista clonkow. S. 110.*

**22. Горскі Людвік** - з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні прымусова. Узяты ў палон. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 77-78.*

**23. Горскі (Гурскі) Райманд** - з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Знаходзіўся прымусова ў аддзеле Ю. Кашыца, затым шараговец аддзела наваградскай конніцы фармавання Г. Дэмбінскага, у складзе якога дайшоў да Варшавы. Узяты ў палон. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 78; AGAD, WCPL, nr 724, k. 77.*

**24. Грабіцкі Юры** - шляхціц з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў кароткачасова. Па рашэнні ГГСК пакінугы вольным. *РДВГА-8, арк. 80.*

---

* ***КП*** *- Каралеўства Польскае.*

** ***ПДТ*** *- Польскае дэмакратычнае таварыства.*

**25. Грабскі Марк** - памешчык з в. Гімбуты Лідскага пав. Гарадзенскай губ. (па звестках Л. Краўца - н. у Лідзе), студэнт Варшаўскага ун-та. У паўстанні ппар. 11 ул. палка. 15.8.1832 эміграваў у Францыю. З 27.12.1833 член ПДТ. Па рашэнні ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *НГАБ-2, арк. 95; РДВГА-8, арк. 81; Bielecki R. Zarys rasproszenia. S. 161, 303; яго ж Slownik biograficzny. T. 2. S. 114; Kaczkowski J. Konfiskaty; Krawiec L. Lista clonkow. S. 49. Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 201; Uniwiersytet Warszwski.*

**26. Грыгуц Андрэй** - селянін Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Служыў у 18 лін. палку. Удзельнічаў у баях пад Вільняй і Варшавай. Узяты ў палон пад Модлінам. ГГСК вынесла рашэнне аб адпраўцы ў сібірскія лін. батальёны. *НГАБ-2, арк. 100 адв.; РДВГА-8, арк. 83.*

**27. Грыневіч** - з Лідскага пав. Гарадзенскай губ., аканом маёнтка Жалудок. Захоўваў кулі. *РДВГА-7, арк. 181.*

**28. Гурскі Людвік,** сын Францішка (н. каля 1811) - шляхціц з аколіцы Свяноўшчына Лідскага пав. Гарадзенскай губ. У траўні 1831 узяты ў аддзел Д. Хлапоўскага, з якім дайшоў да Коўні. Захварэў і быў пакінуты ў шпіталі, дзе трапіў у палон. *НГАБ у Гародні, ф. 4, воп. 1, спр. 64, арк. 30-31.*

**29. Дамейка Ігнат,** герба **Даленга** (31.7.1802 - 23.1.1889) - памешчык маёнтка Мядзведка Навагрудскага пав. Гарадзенскай губ., сын Гіпаліта і Караліны, брат Адама. У 1816 скончыў школу піяраў у Шчучыне, у 1822 фіз.-матэм. ф-т Віленскага ун-та, атрымаў ступень магістра матэматыкі. У 1819 уваходзіў у студэнцкае т-ва Саюз сяброў, затым т-ва філаматаў. Восенню 1823 арыштаваны і высланы пад нагляд паліцыі ў в. Заполле (Лідскі пав.) без права ўладкавання на дзяржаўную службу. 31.5.1831 далучыўся да корпуса Д. Хлапоўскага, ад'ютант 25 пях. палка. 13.7.1831 у складзе корпуса А. Гелгуда перайшоў межы Прусіі, часова знаходзіўся ў Дрэздане. У ліп. 1832 эміграваў у Францыю. Вывучаў хімію і мінералогію ў Сарбоне і Калеж дэ Франс. Жыў у Парыжы разам з А. Міцкевічам. Член ТЛРЗ*, Т-ва навуковай дапамогі, з 1832 Гісторыка-літаратурнага т-ва, АПЭ**. У 1834—37 вучыўся ў Горнай школе ў Парыжы, якую скончыў з дыпломам. 3.6.1838 пераехаў па кантракту ў Чылі. З 1838 прафесар мінералогіі Горнай школы г. Какімба, з 1846 — Чылійскага ун-та, узначальваў кафедру хіміі, затым у 1867-83 рэктар ун-та.



**Ігнат Дамейка.** *Акварэльны партрэт Ю. Куроўскага.*

7.7.1850 ажаніўся з чылійкай, меў дачку Аніту, сыноў Гернана і Казіміра. У 1884 на чатыры гады выехаў на радзіму. Памёр у Сант'яга. Прысвоена званне нац. героя Чылі. Пакінуў успаміны. Па рашэнні ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. з канфіскацыяй маёмасці. На справе, пасля ўдакладнення маёмасных правоў, Дамейка павінен быў уносіць у казну трэцюю частку ад даходу, гэты абавязак быў ускладзены на брата Адама. *Філаматы і філарэты. С. 279-288; Domeyko I. Powstanie 1830-1831 r. na Litwe. S 1-28; яго ж Moje podroze; яго ж Listy do Wladislawa Laskowicza; яго ж Pamietniki; НГАБ-2, арк. 122 адв.; РДВГА-8, арк. 101; Chlopowski D. Pomietniki. Cz. II. S. 68; Гарбачова В.В. Паўстанне 1830-31 гадоў у лёсе Ігнацыя Дамейкі; Кудаба Ч. Вклад Игнатия Домейки; Словік С. З гісторыі сядзіб. С. 416; ЭГБ. Т. 3. С. 203; Barszczewska A. Rola Towazystwa Litewskiego. s. 45-67; Bielecki R. Slownik biograficzny. T. 1. S. 381; Brzoza J. Ignacy Domeyko; Janowski L. Slownik bio-bibliograficzny. S. 99; Gadon L. Z zycia Polakow. s. 116; яго ж: Emigracja polska. T. 2. S. 334; T. 3. S. 40, 44, 271; Kaczkowski J. Konfiskaty; Konarska B. Polskie drogi. S. 252; Koska M. Ignacy Domeyko; Redorowa D. Polski emigrancki osrodek. S. 103;Szwejcerowa A. Ignacy Domeyko; Wojcik Z. Ignacy Domeyko.*

**30. Дзяковіч Панкрат** - шляхціц з Лідскага

***** ТЛРЗ*** - Таварыства літоўскае і рускіх зямель.*

***** АПЭ*** - Аб'яднанне польскай эміграцыі.*

пав. Гарадзенскай губ., студэнт Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі. Служыў у паўстанцаў. *РДВГА-7, арк. 261.*

**31. Длускі Ануфры** (20.8.1813-1864) - шляхціц з мяст. Лябёдка Лідскага пав. Гарадзенскай губ., студэнт мед. ф-та Віленскага ун-та. У паўстанні ппар. Эміграваў у Францыю, куды прыбыў у жн. 1832, да 6.8.1833 знаходзіўся ў закладзе ў Шатору. У 1836-38 вывучаў медыцыну ў Манпельe, 15.10.1838 атрымаў дыплом д-ра медыцыны, працаваў у дэп. Ньеўр. 24.3.1860 атрымаў французскае грамадзянства. Памёр у Пуілі сюр Луар. Па рашэнні ГГСК ад 19.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 117адв.; РДВГА-8, арк. 94; MWP*, 40Н; Bartkowski J. Spis Polakow zmarlych. S. 116; Bielecki R. Zarys rasproszenia. S. 160; яго ж Slownik biograficzny. T. 1. S. 367; Konarska B. Polskie drogi. S. 249.*

**32. Ёдка (Ядко) Мікалай** - шляхціц з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў, адышоў за мяжу. Па рашэнні ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Прасіў літасці, пасля вяртання атрымаў дараванне. *НГАБ-5, арк. 159; РДВГА-8, арк. 132.*

**33. Ёдка (Ядко) Эразм** - шляхціц з Гарадзенскай губ. Знаходзіўся сярод паўстанцаў. Эміграваў. Па рашэнню ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 132.*

**34. Запольскі Андрэй** (п. жн. 1831)- ксёндз ордэна піяраў з мяст. Шчучын Гарадзенскай губ., дзядзька Караля. Удзельнічаў у паўстанні, трапіў у палон, утрымліваўся ў гарадзенскай цвердзі, дзе і памёр. *РДВГА-7, арк. 439; Powstanie Listopadowe 1830-1831. Dzieje wewnetrzne. S. 203.*

**35. Захватовіч Ян** - шляхціц з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Служыў у складзе аддзела Т. Тышкевіча. Вярнуўся на месца жыхарства. Па рашэнні ГГСК ад 19.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-2, арк. 150; РДВГА-8, арк. 122.*

**36. Знамяровіч Пётр** - шляхціц з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні кароткачасова. Па рашэнні ГГСК пакінуты вольным. *РДВГА-8, арк. 125-126.*

**37. Івашэўскі Юзаф** - селянін. Абвінавачваўся ў зносінах з асобамі, якія рыхтавалі паўстанне ў Гарадзенскім і Лідскім пав. Атрымаў для распаўсюджвання адозву. *НГАБ, ф. 1416, воп. 2, спр. 7241, арк. 1-1 адв.; Гарбачова В.В. Заклікі. С. 58.*

**38. Кавалеўскі Міхайла** - з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эміграваў. Па рашэнні ГГСК аднесены да 2 разр. зл., маёмасць канфіскавана. *НГАБ-3, арк. 31 адв.; РДВГА-8, арк, 148; Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**39. Каласоўскі Ян Францішак** (18.11.1806-21.12.1872) - з Лідскага пав. Гарадзенскай губ., н. у в. Крыўцы (зараз у межах г. Ліды), вывучаў літаратуру ў Віленскім ун-це. У паўстанні ппар. 11 ул. палка, 13.7.1831 перайшоў у складзе корпуса А. Гелгуда межы Прусіі. 26.2.1832 прыбыў у Францыю, з'яўляўся членам ПНК. У жн. 1833 стаў членам ПДТ. 3.8.1834 асудзіў А. Чартарыйскага. У 1837 далучыўся да АПЭ. Пачаткова вывучаў медыцыну ў Манпельe. З 1839 вывучаў права ў Пуацье, у 1842 атрымаў дыплом. У 1843 у Парыжы наведваў лекцыі па праву. 22.11.1841 выдаў адозву "Да польскай эміграцыі". У 1844 член Гістарычна-літаратурнага т-ва. У 1841-48 рэдактар "Dziennika Narodowego", выдаў некалькі асабістых брашур. У крас. 1848 выехаў на радзіму, атрымаў дазвол жыць у Кракаве, належаў да кансерватыўнай арганізацыі "Час". У 1851 атрымаў дазвол выехаць у Галіцыю, дзе і памёр. *AGAD; EPP** nr 1, k. 18; Bielecki R. Zarys rasproszenia. S. 163; яго ж Slownik biograficzny. T. 2. S. 301; Gadon L. Z zycia Polakow. s. 119; Konarska B. Polskie drogi. S. 302; PSB***. T. 13. S. 362; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 302.*

**40. Колышка (Калышка) Тадэвуш** - шляхціц з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Прымусова знаходзіўся ў аддзеле Г. Дэмбінскага. *НГАБ-3, арк. 40; РДВГА-2, арк. 141.*

**41. Каржанеўскі Адам** - памешчык з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. Па рашэнні ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 44; РДВГА-2, арк. 172.*

**42. Каржанеўскі Адольф** (каля 1812-9.4. 1837) - шляхціц з Лідскага пав. Гарадзенскай губ., н. у в. Сапуніцы, вучань Віленскай гімназіі. У паўстанні ппар. 11 ул. палка. 15.7.1831 у складзе корпуса Ф. Роланда перайшоў межы Прусіі, інтэрнаваны. У 1832 прыбыў у Францыю, належаў да закладу ў Шатору. З 27.12.1833 да 31.7.1836 член ПДТ. У траўні 1836 выехаў у Бардо. Памёр у дэп. Манш. Па рашэнні ГГСК аднесены да 2 разр. зл., маёнтак канфіскаваны. *НГАБ-3,*

---

** **MWP** - Музей Войска Польскага ў Варшаве.*

*** **EPP** - Эміграцыя палістападаўская і пастудзеньская 1831 - 1870 у Галоўным архіве даўніх актаў у Варшаве.*

**** **PSB** - Польскі біяграфічны слоўнік.*

*арк. 44 адв.; РДВГА-8, арк. 157; ND. 1843. S. 139; Bielecki R. Zarys rasproszenia. S. 164, 304; яго ж Slownik biograficzny. T. 2. S. 319; Kaczkowski J. Konfiskaty; Krawiec L. Lista clonkow. S. 50; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 312.*

**43. Каўроўскі Ігнат** - шляхціц з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Дзейнічаў у аддзеле Т. Тышкевіча. Эміграваў. Па рашэнні ГГСК ад 19. 10. 1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-3, арк. 2; РДВГА-8, арк. 134.*

**44. Кашыц Фелікс** (1803-17.5.1841) - шляхціц з Лідскага пав. Гарадзенскай губ., н. у в. Купішкі. У паўстанні дзейнічаў у 11 ул. палку. Эміграваў у Францыю. З 17.8.1839 член ПДТ. Памёр у Манпелье. Па рашэнні ГГСК ад 24.8. 1832 аднесены да 2 разр. зл., маёнтак Перантаны канфіскаваны. *НГАБ-3, арк. 24; РДВГА-8, арк. 141; ND. 1843. S. 138; Bartkowski J. Spis Polakow zmarlych. S. 202; Kaczkowski J. Konfiskaty; Krawiec L. Lista clonkow. S. 86; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 285.*

**45. Кіркуць Дзіяніс** - шляхціц з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, трапіў у палон пад Коўняй, адпраўлены ў Гародню. Па рашэнні ГГСК ад 25.1.1833 адпраўлены ў Каўказскі асобны корпус. 23.4.1833 выехаў на Каўказ. *НГАБ у г. Гародні, ф. 4, воп. 1, спр. 191, арк. 101.*

**46. Клінеберт (Клінеберс) Мікалай** (14.1. 1807-17.10.1856) - з Лідскага пав. Гарадзенскай губ., н. у в. Тамашова, студэнт ф-та права Віленскага ун-та, адвакат (паводле Б. Канарскай гады жыцця: 1809 - 17.10.1876). У паўстанні з 3.6.1831 ппар. 11 ул. палка. У лют. 1832 эміграваў у Францыю, з 1840 вучыўся ў школе прыгожых мастацтваў у Пуацье, працаваў настаўнікам малявання. *Bartkowski J. Spis Polakow zmarlych. S. 208; Bielecki R. Slownik biograficzny. T. 2. S. 285-286; Konarska B. Polskie drogi. S. 301.*

**47. Коркуц Дзіяніс** — шляхціц з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Знаходзіўся ўзбр. сярод паўстанцаў. Узяты ў палон у Коўні. Па рашэнні ГГСК 10.2.1833 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ у г. Гародні, ф. I, воп. 34, спр. 3569, арк. 47; РДВГА-8, арк. 157*

**48. Кулакоўскі Юры** - селянін з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. Узяты ў палон. *РДВГА-2, арк. 242.*

**49. Лейка (Ляйко) Францішак** — шляхціц з ваколіцы Крукаўшчына (Крупаўшчына ?) Лідскага пав. Гарадзенскай губ. У паўстанні ў 11 ул. палку, на месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнні ГГСК ад 24.8.1832 аднесены да 2 разр. зл., частка маёнтка канфіскавана. *НГАБ-3, арк. 75; РДВГА-8, арк. 172; Kaczkowski J. Konfiskaty.*

**50. Макрэцкі Людвік Напалеон Панталеон** (26.12.1812-2.5.1855) - шляхціц з Лідскага пав. Гарадзенскай губ., н. у Марачоўшчыне, сын Яўхіма і Саламеі, адвакат. У паўстанні хар. 11 ул. палка. Адышоў у Прусію, да канца 1833 утрымліваўся ў Гданьску. 27.4.1834 прыбыў у Аран на караблі “Граф Келі”, у гэты ж дзень уступіў у замежны легіён на 3 г. У 1834-35 у Афрыцы, у 1835-38 у Іспаніі, адзначаны ордэнам св. Фердынанда 1 кл., 17.1.1839 звольнены са службы. 31.1.1839 прыняты паўторна; у 1839-54 служыў у Афрыцы, у 1854-55 у Крыме. Забіты пад Севастопалем. Па рашэнні ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 113; РДВГА-8, арк. 207; Bielecki R. Polacy w Legii. S. 259.*

**51. Малевіч Ігнат** (н. каля 1791) - з в. Цыбары (каля Ліды) Гарадзенскай губ. У паўстанні з 2.4.1831, 29.5.1831 ппар., у складзе 3 палка пешых стральцоў аддзела Г. Дэмбінскага адышоў у Варшаву. 5.10.1831 з аддзелам М. Рыбінскага перайшоў межы Прусіі, інтэрнаваны. 26.2.1832 прыбыў у Францыю. З 12.9.1833 член ПДТ, у траўні 1838 далучыўся да АПЭ. *AGAD, WCPL, nr 724, k. 49; Bielecki R. Zarys rasproszenia. S. 121, 300; яго ж Slownik biograficzny. T. 3. S. 95; Krawiec L. Lista clonkow. S. 48; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 407.*

**52. Малеўскі (Мялоўскі) Марк** (1795-14.10.1867) - з Лідскага пав. Гарадзенскай губ., н. у Лідзе. У паўстанні падафіцэр 11 ул. палка. Адышоў у Прусію, утрымліваўся ў Гданьску. Эміграваў у Францыю. З 21.9.1834 да 27.4.1846 член ПДТ. Памёр у Парыжы. Па рашэнні ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., канфіскавана частка маёнтка Мізаны. *НГАБ-3, арк. 87 адв.; РДВГА-8, арк. 186; Bartkowski J. Spis Polakow zmarlych. S. 276; Kaczkowski J. Konfiskaty; Krawiec L. Lista clonkow. S. 55.*

**53. Мацыеўскі Юзаф** - селянін з в. Крывілі Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Служыў у паўстанцаў дзеншчыком. Апынуўся ў Прусіі, інтэрнаваны. Па рашэнні ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 191.*

**54. Мінучыц Антоні** (каля 1807-1.7.1879) - шляхціц з Лідскага пав. Гарадзенскай губ., служыў у маёнтку Масты памешчыка Кіркілы. 12.4.1831 разам з К. Нямцэвічам адышоў з Гародні ў Белавежскую пушчу, дзейнічаў у складзе аддзелаў К. Нямцэвіча, Я. Ронкі, Я. Жылінскага. Затым ппар. 11 ул. палка, разам з якім адышоў у Прусію. 25.2.1832 прыбыў у Францыю. Па рашэнні ГГСК ад 9.11.1832 аднесены да 2 разр. зл., маёнтак Астравок канфіскаваны. *НГАБ-4,*

*арк. 106; РДВГА-8, арк. 201; AGAD, PFR*, nr 15; [Kraskowski T.] Pamietniki; Bartkowski J. Spis Polakow zmarlych. S. 293; Kaczkowski J. Konfiskaty; Spazier R. O. Historia powstania. T. 2. S. 210.*

**55. Міхалоўскі Юльян** (18.6.1807-24.5.1878) - шляхціц з Лідскага пав. Гарадзенскай губ., н. у в. Востраў, з 1823 на вайсковай службе. 31.5.1831 у Лідзе далучыўся да Д. Хлапоўскага, з 12.7.1831 кап. 25 палка лін. пяхоты. Эміграваў у Францыю, 23.11.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Безансоне. З 1835 наведваў лекцыі па палітэхніцы, у 1836-38 вучыўся ў школе дарог і мастоў, з 1839 працаваў інструктарам дарог і мастоў у дэп. Сена. З 1845 пачаў займацца журналістыкай, супрацоўнічаў з “Le Courier Francais”. У 1849-51 знаходзіўся ў Турцыі, працаваў на будоўлі чыгункі, пасля вярнуўся ў Францыю і паступіў у корпус дарог і мастоў. У 1875 стаў інструктарам 1 кл. Жанаты, меў сына. *РДВГА-8, арк. 204; BPP, nr 565; Domeyko I. Powstanie 1830-1831 r. na Litwe. S 7; Bartkowski J. Spis Polakow zmarlych. S. 287; Bielecki R. Zarys rasproszenia. S. 84, Konarska B. Polskie drogi. S. 342.*

**56. Мора (Мор) Пётр** - селянін памешчыка Грыгаровіча з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Знаходзіўся ў паўстанні ўзбр. *РДВГА-2, арк. 700; ч. 8, арк. 208.*

**57. Мрачкоўскі (Мракоўскі) Мікалай** - з Лідскага пав. Гарадзенскай губ., сакратар лідскага маршалка. Падазраваўся ў садзейнічанні Д. Хлапоўскаму. Аддадзены пад ваен. суд. *НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 27, спр. 92, арк. 1; РДВГА-2, арк. 706.*

**58. Навіцкі (Навінскі) Міхайла** (п. 12.12.-1842) - шляхціц з Гарадзенскай губ., аканом маёнтка Бяневічы. У паўстанні шараговец аддзела навагpадскай конніцы фармавання Г. Дэмбінскага. Эміграваў у Францыю, член ПНК**. З 10.6.1834 да 12.1842 атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўраду. Рашэннем ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 123 адв.; РДВГА-8, арк. 219; AGAD, WCPL, nr 724, k. 76; EPP, пг 1, к. 19; Paszkiewicz M. Lista emigran-tow. S. 88.*

**59. Некілкоўскі Міхал** - шляхціц з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў. Эміграваў. Па рашэнні ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 216.*

**60. Петрашкевіч Ануфры** (1793-7.12.1863) - шляхціц з мяст. Шчучын Лідскага пав. Гарадзенскай губ., сын Феліцыяна і Вікторыі, скончыў пав. піярскую школу ў Шчучыне, ф-т прыродазнаўчых і фізічных навук Віленскага ун-та, затым Варшаўскі ун-т, у 1821 атрымаў ступень магістра філасофіі, у 1822-24 працаваў у архіве Радзівілаў у Вільні, паэт. Адзін з заснавальнікаў т-ва філаматаў, сасланы ў Пецярбург, Міністэрствам асветы накіраваны ў Маскоўскі ун-т, дзе на працягу 1825-31 працаваў бібліятэкарам. За арганізацыю ўцёкаў разам з афіцэрамі Літ. корпуса ў паўст. войска і сувязь з маскоўскім гуртком М. П. Сунгурава 16.4.1831 арыштаваны. 17.11.1831 пастановай суда прыгавораны да пакарання смерцю. 13.1.1832 пакаранне заменена на пажыццёвую ссылку ў Сібір з пазбаўленнем шляхецтва і навуковай ступені. 7.2.1832 сасланы ў Табольск. У 1856 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму, у 1860 вярнуўся ў Вільню да брата Юзафа. Памёр і пахаваны ў Вільні. *Rps BN***, II. 7861; Філаматы і філарэты. С. 231-237; ЭГБ. Т. 5. С. 487; Gerber R. Studenci. S. 439; Janowski L. Slownik bio-bibliograficzny. S. 333; Jackiewicz M. Wilenska Rossa; PSB. T. 26; Sliwowska W. Zeslancy polscy. S. 456-458.*



**Ануфры Петрашкевіч.**
*Партрэт невядомага мастака.*

**61. Пратасевіч Ян** — шляхціц з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Служыў у паўстанцаў. На месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнні ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-4, арк. 174 адв.; РДВГА-8, арк. 250.*

**62. Псарскі Антоні** (н. 1809) - з мяст. Шчучын Лідскага пав. Гарадзенскай губ., сын Віктара і Ганны Слуцкай, вахмістр польск. войскаў. На пачатку паўстання дзейнічаў на баку кн. Канстанціна, 16.12.1830 прызначаны ў 2 полк конных стральцоў. Трапіў у палон, пасля чаго паступіў на расійск. службу. У 1832 вярнуўся ў Варшаву, у 1833 эміграваў у Францыю. У 1840 прыбыў у Алжыр. З 1847 член ПДТ. У 1848 выязджаў у Польшчу, у жн. 1848 вярнуўся ў Алжыр. *Bielecki R. Slownik biograficzny. T. 3. 5. 350; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 554.*

---

** **PFR** - Паперы генерала Францішка Рогляндa ў Галоўным архіве даўніх актаў у Варшаве.*

*** **ПНК** - Польскі нацыянальны камітэт.*

**** **Rps BN** - Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве.*

**63. Рыла Ксаверы** - шляхціц з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнні ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 275.*

**64. Рымскі Ягор** - селянін памешчыка Красельскага з в. Навакунцы Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Служыў у паўстанцаў узбр. *РДВГА-8, арк. 266.*

**65. Рэвенскі Казімір** - з Лідскага пав. Гарадзенскай губ., н. у Гародні, канцылярыст. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, адышоў у Варшаву, дзе 8.8.1831 удзельнічаў у Гарадзенскім сойміку па абранні дэпутатаў на сойм. 9.9.1831 атрымаў срэбны крыж. 5.10.1831 перайшоў з М. Рыбінскім межы Прусіі, інтэрнаваны. У 1832-33 утрымліваўся ў турме ў Гданьску. У студз. 1834 перабраўся ў Францыю, з 5.3.1834 да 24.2.1840 член ПДТ. У 1858 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. Па рашэнні ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ-5, арк. 13; РДВГА-8, арк. 265; AGAD, KRW*, nr 573; DS**. T. 6. S.385; Bielecki R. Slownik biograficzny. T. 3. S. 384; Krawiec L. Lista clonkow. S. 51; Tyrowicz M. Towarzystwo Demokratyczne. S. 571.*

**66. Савіцкі Ян** (н. каля 1801) - памешчык з в. Леляканцы Лідскага пав. Гарадзенскай губ. У паўстанні ппар. штаба Г. Дэмбінскага. 14.9.1831 адзначаны залатым крыжам (?). На месца жыхарства не вярнуўся. Эміграваў. З 30.12.1833 член ПДК. Па рашэнні ГГСК аднесены да 2 разр. зл. *НГАБ у г. Гародні, ф. 4, воп. 1, спр. 196, арк. 10; РДВГА-8, арк. 276. Ksiega pomiatkowa. S. 142; Krawiec L. Lista clonkow. S. 50.*

**67. Сакалоўскі Тадэвуш** - манах Лідскага кармяліцкага кляштара Гарадзенскай губ. Вітаў паўстанцаў пад час іх прыходу ў Ліду. Пераведзены ў іншы кляштар. *РДВГА-8, арк. 298.*

**68. Сінкевіч Норберт** - з в. Васілішкі Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Служыў у артылерыі. 8.8.1831 пад Невелем узяты ў палон. Па рашэнні ГГСК ад 26.10.1832 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ у г. Гародні, ф. 1, воп. 34, спр. 3569, арк. 90; РДВГА-8, арк. 291.*

**69. Скіндар Люцыян** - шляхціц з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнні ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 291.*

**70. Славінскі Юзаф** (н. 8.8.1811) - з Лідскага пав. Гарадзенскай губ., н. у Лідзе, сын Юзафа і Юзафіны. У паўстанні шараговец 3 палка пешых стральцоў. У 1832 прыбыў у Францыю, належаў пачаткова да закладу ў Буржэ, 13.6.1833 перабраўся ў Бержэрак. 6.8.1836 накіраваўся ў Іспанію, дзе ўступіў у легіён. У 1836-38 у Іспаніі, пасля чаго вярнуўся ў Францыю. 6.8.1839 паўторна завербаваўся на 3 г., да 1841 у Афрыцы. У 1846 знаходзіўся ў Алжыры. *Bielecki R. Polacy w Legii. S. 323.*

**71. Сташоўскі Мацвей** - селянін з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. На пачатку паўстання знаходзіўся на службе ў КП, дзейнічаў як кантаніст. Адпраўлены на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 303.*

**72. Турскі Ксаверы** - памешчык з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў у чыне пар. У складзе корпуса А. Гелгуда адышоў за мяжу, прасіў літасці. Атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. *НГАБ-5, арк. 85 адв.; РДВГА-8, арк. 322.*

**73. Тызенгаўз Канстанцін** (3.6.1786-16.3.-1853) - граф, памешчык з Віленскай, Гарадзенскай і Менскай губ., н. у мяст. Жалудок Лідскага пав. Гарадзенскай губ., вывучаў у Віленскім ун-це прыродазнаўчыя навукі, арнітолаг. Удзельнічаў у кампаніі 1812 у складзе расійск. войскаў. Меў стасункі з А. Лапацінскім у падрыхтоўчы перыяд паўстання, надалей супрацоўнічаў з дзісенскім урадавым к-там, дапамагаў матэрыяльнымі сродкамі, пастаўляў зброю і кантаністаў. Справа накіравана ВГСК***. Аўтар польскамоўных твораў “Асновы арніталогіі, або Навукі пра птушак” (1841), “Усеагульная арніталогія, або Апісанне птушак усіх частак свету” (1843—46). У сваім маёнтку Паставы стварыў арніталагічны музей і карцінную галярэю. *НГАБ-5, арк. 88; РДВГА-П, арк. 397; Гарбачова В.В. Мастацкая галерэя; Кропотов Д.А. Жизнь графа М.Н. Муравьева. С. 494;*



**Канстанцін Тызенгаўз.** *Літаграфія Ю. Крыгубера.*

---

** **KRW** - Урадавая камісія вайны 1815-1832 у Галоўным архіве даўніх актаў у Варшаве.*
*** **DS** - Дыярыюш сойму.*
**** **ВГСК** - Віленская губернская следчая камісія.*

*Мысліцелі і ас-ветнікі Беларусі. С. 574; Dan-gel S. Rok 1831. S. 152; Janowski L. Slownik bio-biblio-graficzny. S. 474.*

**74. Фалькоўскі (Фалкоўскі) Юзаф** (н. 19.3.1784) - з в. Васілішкі Лідскага пав. Гарадзенскай губ., пар. польск. войскаў. У паўстанні з 6.2.1831 кап., належаў да корпуса Г. Дэмбінскага, служыў у 13 ул. палку, у складзе якога адышоў у Варшаву. 30.8.1831 атрымаў залаты крыж. 5.10.1831 прыбыў з М. Рыбінскім у Прусію. *AGAD, WCPL, nr 724, k. 64; GP*. 17.2.1831; Ksiega pomiatkowa. S. 138; Bielecki R. Slownik biograficzny. T. 2. S. 30.*

**75. Федзюкевіч (Федзюковіч) Ян** — селянін з фальварка Дзяковічы Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Добраахвотна далучыўся да корпуса Г. Дэмбінскага каля Навагрудка, дайшоў да Варшавы, служыў у 18 лін. палку, паранены ў нагу. Арыштаваны і дастаўлены ў Гародню. Па рашэнні ГГСК ад 26.5.1832 аднесены да 2 разр. зл., адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. *НГАБ-5, арк. 97 адв.; НГАБу г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 64, арк. 18-26; РДВГА-8, арк. 327; Sliwowska W. Zeslancy polscy. S. 156, 161.*

**76. Шалевіч Тадэвуш** - шляхціц з Лідскага пав. Гродзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнні ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 346.*

**77. Шатоўскі Францішак** - селянін памешчыка Рылы з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Дзейнічаў у аддзеле Т. Тышкевіча, служыў фурманам у Д. Карэнгі. Узяты ў палон. Па рашэнні ГГСК атрымаў дараванне і дазвол вярнуцца на месца жыхарства. *РДВГА-8, арк. 347.*

**78. Шчука Альфонс** (п. 1858) - н. у Лідскім пав. Гарадзенскай губ., на службе ў расійск. арміі з 1824. У паўстанні з 13.6.1831 ппар. 20.2.1832 прыбыў у Францыю, 26.5.1832 знаходзіўся ў закладзе ў Авіньёне. *Bartkowski J. Spis Polakow zmarlych. S. 412; Bielecki R. Zarys rasproszenia. S. 65.*

**79. Шчука Аляксандр** - шляхціц з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнні ГГСК атрымаў дараванне. *РДВГА-8, арк. 358.*

**80. Шчука Юзаф** - шляхціц з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Дачыненне да паўстання было кароткачасовым. Па рашэнні ГГСК ад 8.10.1832 атрымаў дараванне. *НГАБ-5, арк. 140 адв.; РДВГА-8, арк. 358.*

**81. Эйсмант Напалеон** (н. 1809) - з Лідскага пав. Гарадзенскай губ., н. у фальварку Яхновічы, працаваў у земскай канцылярыі. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, адышоў у Прусію, 18 мес. утрымліваўся ў Гданьску. Эміграваў. З 18.10.1835 да 6.5.1836 член ПДТ. Па рашэнні ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл., канфіскавана частка маёнтка Дартвяны. *НГАБ-5, арк. 142 адв.; РДВГА-8, арк. 107; Kaczkowski J. Konfiskaty; Krawiec L. Lista clonkow. S. 67.*

**82. Эйсмант Станіслаў** (н. каля 1810) - аднадворац Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Служыў унтэр-афіцэрам 4 лін. палка. Узяты ў палон пад Грохавам. Па рашэнні ГГСК ад 9.8.1834 адпраўлены салдатам у Каўказскі асобны корпус. Маёмасць канфіскавана. *НГАБ-5, арк. 143; НГАБу г. Гродна, ф. 4, воп. 1, спр. 191, арк. 70 адв. - 71; РДВГА-8, арк. 108.*

**83. Эйсмантовіч (Эйсмановіч) Ян** - з Лідскага пав. Гарадзенскай губ. Дзейнічаў сярод паўстанцаў, на месца жыхарства не вярнуўся. Па рашэнні ГГСК ад 8.10.1832 аднесены да 2 разр. зл. Маёмасць канфіскавана. *НГАБ-5, арк. 142; РДВГА-8, арк. 107.*

**84. Юзвік (Ёзвік) Людвік** (н. 2.4.1801 - пасля 1875) - шляхціц з Лідскага пав. Гарадзенскай губ., н. у мяст. Шчучын, сын Андрэя і Разаліі Гудновіч, скончыў піярскую школу ў Варшаве, 1822-27 студэнт мед. ф-та Варшаўскага ун-та, лекар 1 палка пешых стральцоў. У паўстанні лекар 1 палка пешых стральцоў, 1 пях. дывізіі, затым галоўнага штаба. 15.9.1831 атрымаў залаты крыж. 5.10.1831 перайшоў з М. Рыбінскім межы Прусіі. У траўні 1832 прыбыў у Францыю, застаўся ў Парыжы, дзе вывучаў медыцыну, 22.8.1834 атрымаў дыплом д-ра медыцыны, працаваў у Парыжы. *Bielecki R. Zarys rasproszenia. S. 202, 205; яго ж Slownik biograficzny. T. 2. S. 228; Gerber R. Studenci. S. 287; Konarska B. Polskie drogi. S. 291.*

**85. Якавіцкі** - з Гарадзенскай губ., адвакат лідскіх прысутных месц. Меў тайныя зносіны з паўстанцамі, вёў перапіску. Па рашэнні ГГСК аднесены да 3 разр. зл. *РДВГА-8, арк. 367.*

**86. Яновіч Кароль** (н. 1798) - з Лідскага пав. Гарадзенскай губ., сын Міхала і Кацярыны, ппар. польск. войскаў. У паўстанні з 6.2.1831 пар., 13.6.1831 кап., з 19.8.1831 у 13 ул. палку. Пасля заканчэння паўстання застаўся ў Варшаве, аднавіў прысягу расійск. ураду, атрымаў дазвол вярнуцца на месца жыхарства. *AGAD, KRW, nr 477, k. 107; Rps BUW** nr 2327; Bielecki R. Slownik biograficzny. T. 2. S. 195.*

---

*** GP** - Польская газета.*

*** Rps BUW** - Аддзел рукапісаў Бібліятэкі Варшаўскага універсітэта*

***Валеры Сліўкін***

# ЛІДСКАЕ ПІВА
## Лідскі піваварны завод

**1. 1944 год. Даваенныя працаўнікі прыбіраюць тэрыторыю і распрадаюць лагерныя запасы піва.**

Праз дзесяць дзён пасля вызвалення горада, 18 ліпеня 1944 г. дырэктарам абодвух піваварных заводаў № 1 і № 2 быў прызначаны Сяргей Фёдаравіч Пішчыкаў. *"Завод знаходзіўся ў хаосным стане. Уся тэрыторыя завода і цэха была засмечаная і заваленая. Завадскія склады разрабаваныя і на самаўпраўнасць адчыненыя. На складах не было ні збожжа, ні соладу, ні адной транспартнай бочкі. Адзінае багацце завода - лагернае піва ў скляпах, запас вуглякіслага газу ў колькасці каля 5 тон, хмель каля 2,5 тон і піўныя бутэлькі ў колькасці звыш 120 тысяч". (ЗДА у г. Ліда. Ф. 34. воп.1. спр. 2. арк.27).*

21 ліпеня С. Ф. Пішчыкаў зрабіў першыя прызначэнні. Галоўным піваварам быў прызначаны Пупко Марк Міхайлавіч, тэхкіраўніком - Пупко Сямён Міхайлавіч, галоўным бухгалтарам - Сталавіцкі Лейба (Леў) Якаўлевіч, начальнікам склепа і разліву - Абрамовіч Казімір Іванавіч, галоўным механікам - Астроўскі Антон Антонавіч, начальнікам забеспячэння і збыту - Маўчадскі Я. З, начальнікам сталярнага цэха - Калбыка К.З., начальнікам планавага аддзела - Пупко Хаім Захаравіч, бухгалтарам - Дзяшовая Ганна Мікалаеўна, загадчыкам матэрыяльнага склада - Фрэйнд Ф. Б, касірам-інкасатарам Дзяшовая Таццяна Мікалаеўна, сакратаром-машыністкай - Каркота Марыя Адамаўна, рахункаводам - Яршова Ганна Фёдараўна.

Калбыку К. З. было загадана прывесці ў парадак вароты і платы, Астроўскаму А. А. - навесці парадак у цэху і прыгатаваць машыну, навесіць дзверы і замкі, Пупко і Абрамовічу К. І. - замкнуць склеп і брадзільню.



***Лідскі піўзавод пасля вайны***

На наступны дзень быў прызначаны начальнік пажарна-вартавой аховы Навум Ізраілевіч Асташынскі і начальнік ліманаднага цэха Саламон Таўб. Калбыку К. З. загадана прывесці ў парадак дзверы лабараторыі і крамаў.

23 ліпеня былі прынятыя на працу 54 чалавекі: Вансевіч Казімір Іосіфавіч - начальнік бандарнага цэха, Арэхва Рыгор Мікалаевіч і Якубоўскі М.У. - бондары, пятнаццацігадовы Вансевіч Тадэвуш Казіміравіч, Астроўскі П. А - слесары, Мацеевіч Віктар Люцыянавіч і Пітлюк Хона Аронавіч - токары, Какошка Іосіф Францавіч і Горбач Уладзімір Міхайлавіч - кавалі, Браніцкі У. Б. і Піліпайціс І. Ф. - машыністы, Скрэнда Кастусь Міхайлавіч - пам. машыніста, Сталавіцкі Міхась Львовіч - электрык, Шпакоўскі П. І., Зубовіч і Коўза Іосіф Мацвеевіч - цясляры, Жарноўскі П. А. - сталяр, Міхайлоўскі Гаўрыіл Касперавіч - шкляр, Вальчук А.К.- стругальшчык, Шот Антон Іосіфавіч і Тарасаў - трыершчыкі, Май Іосіф Пятровіч і Тумялевіч К.А.- саладоўшчыкі, Суровіч У. М., Клімовіч Я. Д. і Рум Станіслаў Іванавіч - працоўныя склепа, Дыбоўскі Часлаў Мартынавіч і Новік Міхась Міхайлавіч - фільтроўшчыкі, Танкевіч П. І. і Паўлюкевіч Ф. І. - разліўшчыкі, Бародаўка Я. І., Суровіч Л. У., Абрамовіч А. І. і Кабельская Ў. А - мыццё бутэлек, Воўк Аляксандр Мячыслававіч - мыццё бочак, Маліноўскі Г.А. - варшчык, Пітлюк Ісак Хонавіч, Галавачэнка А. Г., Яршова А. І., Дражджэўская А. А. і Камянецкі Н. М. - у ліманадны цэх, Івуць У.З. і Сямашка Казімір Фадзеевіч - рамшчыкі, Сільвановіч Э. І. і Гольмант Б.Ф. - цыркуляршчыкі, Жукоўскі Адольф Дамінікавіч - загтранспарту і заггаспадаркі, Семянкоў Г.М. - заг. лабараторыі, Рудзік Л. А. -лабарантка, Жукоўская Яніна Феліксаўна - матэрыяльны склад, Вінча І. А., Таўкачэўскі Ф. Я., Паўлюкевіч М. І., Канцавік У.І, Лісаевіч У.І. - ахоўнікі. *(Архіў піўзавода. Загады 1944 г. Заг. 3.)*



***Вансевіч Т. К.***



***Воўк А. М.***



***Мойшчык брадзільных ёмкасцяў Воўк А. М. за працай***

Большасць рабочых працавала на піўзаводзе ў даваенныя і ваенныя гады, гэта былі дасведчаныя адмыслоўцы, прафесіяналы сваёй справы. Яны працавалі пры немцах, і як толькі фронт пракаціўся праз Ліду, вышлі на працу. Працоўны дзень пачынаўся ў 8 раніцы і заканчваўся ў 5 вечара, перапынак на абед з 12 да 13. Пам. машыніста Скрэнда павінен быў з'яўляцца на працу да 7 раніцы для дачы сігнальнага гудка, першага ў 7-30, другога ў 8 гадзін для пачатку працы завода.

Завадчане ачысцілі тэрыторыю, прывялі ў парадак вытворчыя цэхі, пасля чаго прыступілі да водпуску піва ваййсковым часткам, якія праходзілі праз Ліду . Т. К. Вансевіч успомніў, як ён штодня на машыне "Шэўрале" вазіў піва на аэрадром ангельскім лётчыкам.

25 ліпеня на вакзале быў адчынены піўны ларок. Першай прадаўшчыцай была Алена Дарняк. У гэты ж дзень была прынятая лабаранткай Пячынская Г.С., Асташынскі М.І з пасады начальніка ПСА быў пераведзены на пасаду начальніка забеспячэння і збыту, Маўчадскі Я.З. - наадварот. Прызначаныя адказныя прыёмшчыкі ячменю ў абмен на дрожджы Тарасаў і Рудзік. Першым пасля чатырох дзён працы быў звольнены Тарасаў.

3 жніўня дырэктар Пішчыкаў С.Ф., галоўбух Сталавіцкі Л.Я. і начальнік планавага аддзела Пупко Х.З. здзейснілі паездку ў Менск да Наркама харчовай прамысловасці БССР.

15 жніўня быў ліквідаваны піўны завод № 2, на яго базе пачалі ствараць завод харчовых канцэнтратаў. Частка службоўцаў і рабочых піўзавода № 1, у прыватнасці Канцавік У.І.,

Дзяшовая Т.Н., Яршова А.І. і Вінча І. А. былі пераведзеныя на новы завод.

16 жніўня на піўзаводзе была сфармаваная камісія па інвентарызацыі, якая перапісала ўсю завадскую маёмасць. *(ЗГА у г. Ліда. Ф.34. воп.1 спр.2. арк. 83-106).*

Маёмасці было шмат, асноўныя сродкі былі ацэненыя ў паўтара мільёна рублёў. Піўному заводу належалі: тры драўляныя жылыя дамы, домік-кантрольная, будынкі клуба, лабараторыі, млына, лесазавода, варачнай, разліву, машыннага дома, гаража і стайні, душа, саладоўня са складам, сушня з печчу і комінам, брадзільня, пяць леднікоў, склеп, мыйка бочак, бандарны цэх, памяшканне габлярнага станка. Адрына драўляная на першым двары. Адрына дашчаная. Склад машын. Склад з бутэлькамі. Склад пры плоце. Бензасховішча. Падстрэшак. Падстрэшак для паліва. Падстрэшак для канцарэзкі. Падстрэшак драўляны і цэментавая скрыня. Два курнікі: мураваны і драўляны. Свінарнік. Прыбіральня мураваная. Студня артэзіянская. Тры студні.

Механізмы: лакамабіль Вольфа, нафтарухавік 8 к/с, паравая машына, дынамамашына, 20 вестынгаўзаўскіх матораў з рэастатамі. Станкі: такарны, тры свідравальных, два габлярных, шліфавальны, такарны для дрэва. Электразварка, паяльнік. Тачыльны камень. Рама. Піла папярочная з вусамі. Тры крэйзены. Дзве ваганеткі для рамы, чатыры транспартныя ваганеткі. Пілапункт. Тры трыеры і тры арфы для чысткі збожжа. Драбнілкі. Соладамольны станок. Машына паліроўкі соладу. Транспарцёр. Варачны будынак з 4 посудаў маркі Фельзер і К. Кацёл для награвання вады. Чаны для вады. Пад'ёмная машына. Фільтр рамны. Фільтры. Прэс да фільтра. Апарат Друкрэглер. Бочкапракатная машына. Вадамер. Два апараты арашальныя. Бак медны. Кацёл для мыцця. Помпа водапад'ёмная. Помпа для напампования вады. Дзве помпы Вартанктона. Тры паветраныя помпы. Тры халадзільныя талеркі. Лагерныя бочкі дубовыя: 7 штук да 2000 л, 36 - да 4000 л, 19 - да 5000 л, 15 - да 6000 л, 8 - больш 6000 л. 22 брадзільныя чаны аб'ёмам да 5000 л. Арашальны халадзільнік. Апараты для напаўнення бутэлек на 16 ражкоў, на 6 ражкоў і на 4 ражкі. Два бутэлькамыечныя апараты. Апарат для напаўнення бочак (ізабарометр). Ізабараметрычны апарат. Дзве каркавальныя машыны. Каркавальны аўтамат. Дазіровачны апарат. Разлівачны апарат. Вагі - 7 штук. Дзесяцічныя вагі -2. Лабараторыя з поўным камплектам неабходных прыбораў і рэактываў.

Ліманадны цэх: два сатуратары, мелавік трохпосудны, два станкі напаўнення, тры для коркаў, для кропелькіра, сіропніца, два чаны для квасу, 6 чанаў для сокаў, кацёл для варэння цукру, гарэлачны апарат трохпосудны з фільтрам.

Транспартная гаспадарка: аўтамабіль грузавы ГАЗ-АА, аўтамабіль "Шэўрале". Восем коней. Платформа, 4 вазы, 2 вазы-драбіны, 3 параконныя вазы, 7 саней грузавых, 2 саней выязных, брычка выязная. Сячкарня. Пажарная помпа на колах. Пажарная помпа без колаў.

Адразу ж выявіўся недахоп бочак для рэалізацыі піва. У бандарным цэху была ўсталяваная здзельная аплата працы, за выраб адной 100 - літровай бочкі пачалі плаціць 70 руб.

З сярэдзіны жніўня пачалася падрыхтоўка да прыёмкі ячменю. Астроўскаму А.А. загадана ўсталяваць трыер у свіране, а галоўнаму піўвару завода Пупко М.М - прыгатаваць і дэзінфекаваць памяшканне для прыёмкі і захоўвання збожжа. Уся адказнасць за якасць прынятага ячменю і яго захаванасць была ўскладзеная на гал. півавара Пупко М. М. і заг. лабараторыі Семянкова Г. М.

23 жніўня быў выдадзены загад аб супрацьпажарным стане. Загадана ачысціць цэхі ад смецця, павесіць плакаты "Курыць строга забараняецца", за кожным цэхам былі замацаваныя адказныя. За невыкананне загаду і ў выпадку пажару начальнікам цэхаў было абяцана прыцягненне да адказнасці па законах ваеннага часу. *(Архіў піўзавода. Загады 1944 г. Заг. 21).*

Быў усталяваны заклад за бутэлькавую тару ў суме 5 рублёў за бутэльку.

## 2. Першыя варкі з дрэннага ячменю.

Першыя невялікія партыі ячменю (9383 кг) дрэннай якасці ад дзяржпаставак паступілі на завод у верасні. 25-28 верасня з Гарадзенскага піўзавода атрымана партыя соладу ў колькасці 9 т. 6 кастрычніка зробленая першая пасляваенная замочка ячменю. Да канца года было зроблена 18 замочак з 113 т неадсартаванага ячменю. *(ЗГА у г. Ліда. Ф.34.воп.1. спр.2. арк.27).*

У верасні за нявыхад на працу быў звольнены Сільвановіч Э.І., справа было перададзена ў Народны Суд. Завадчанам растлумачылі, што ўсе рабочыя і службоўцы завода ў перыяд вайны лічацца мабілізаванымі для сталай працы на дадзеным прадпрыемстве, а таму самавольны сыход з працы кваліфікуецца як крымінальнае злачынства, і справа перадаецца ў Народны Суд. У выпадку адсутнасці на працы, працоўны абавязаны прадставіць у кантору даведку ад лекара або дырэктара завода. Адсутнасць на працы без даведкі расцэньваецца як прагул. *(Архіў піўзавода. Загады 1944 г. Заг.31).*

22 верасня С.Ф. Пішчыкаў прыструніў ахову:

*"Невядомы грамадзянін, нёс матрац з завода. Ахоўнік т. Кляйноцкі апошняга прапусціў без пропуску заводакіраўніцтва, чым парушыў усе мае загады, выдадзеныя з гэтай нагоды. За прытупленне пільнасці і няўважлівае нясенне вартавой службы ахоўніку т. Кляйноцкаму аб'яўляю строгую вымову з папярэджаннем. Адначасова загадваю яму ж прадставіць узятыя рэчы на завод.*

*Папярэджваю ўвесь асабісты склад аховы,*

*што калі ў далейшым будуць паўтарацца падобныя выпадкі, вінаватыя будуць прыцягвацца да адказнасці па законах ваеннага часу. Асобам, не звязаным з заводам, і якія не маюць ніякіх адносінаў да завода, вызваліць кватэры, у каго б ні пражывалі, забараніць уваход пабочным асобам на тэрыторыю завода з 4 гадзін дня да 8 гадзін раніцы.*

*Падчас працоўнага дня ўстанавіць пропускі. Пабочных асоб прапускаць выключна па пропусках і патрабаваць пасведчанне асобы.*

*Нач ПСА тав. Дакучаева абавязваю ўзмацніць кантроль і пра ўсякае парушэнне правілаў нясення вартавой службы, дакладваць мне. Прадставіць дакладную запіску, хто з ахоўнікаў учыніў бязмэтную страляніну ўначы з 21 на 22 верасня". (Там жа. Заг. 34.)*

Неўзабаве начальнік ПСА Дакучаеў быў звольнены: *"Нягледзячы на тое, што неаднаразова т. Дакучаеў быў папярэджаны, што за беспарадкі на заводзе і п'янства, а таксама непатрэбную страляніну будзе прыцягнуты да адказнасці, апошні ўвечар 13 кастрычніка г.г. валяўся п'яны ў прахадной будцы, лаяўся, адабраў у дзяжурнага вінтоўку і сам пачаў страляць, а таму, лічачы яго не цалкам адпаведным пасадзе нач. ПСА - звольніць з завода". (Там жа. Заг.50).*

У кастрычніку былі ўстаноўлены продажныя кошты на піва: жыгулёўскае бачкавое за літр 10 руб. 80 кап., у паўлітровых бутэльках - 7 руб. 20 кап. Заработная плата працоўных у той час складала 150-500 рублёў.

Перад кастрычніцкімі святамі кошты на піва былі рэзка павялічаныя: жыгулёўскае бачкавое 27 руб. за літр, бутэлькавае - 28 руб., заклад за посуд ёмістасцю паўлітра і вышэй -10 руб.

У лістападзе працоўны дзень быў ссунуты на гадзіну пазней - з 9 раніцы да 6 вечары з абедзенным перапынкам з 13 да 14 гадзін. 21 лістапада быў адчынены піўны ларок на Ленінскай, яго першымі прадаўцамі сталі Маеўская П.Х. і Стоцкая Б.Х. Да гэтага моманту ў вакзальным кіёску працавала ўжо трэцяя прадаўшчыца Петрусевіч Я. І., якая змяніла Рымшэвіч Галіну Вітольдаўну.

У лістападзе адбыўся канфлікт паміж савецкім дырэктарам і ранейшымі гаспадарамі. Быў звольнены зменны півавар Абрамовіч К.І. *"які не спраўляецца з працай і заўсёды п'яны"*; і шафёр Яроменка Г.Н., які ўначы вывез з завода нейкі груз: яму было прапанавана ў 24 гадзіны вызваліць завадскую кватэру. 17 лістапада падаў заяву і быў вызвалены з пасады заг. вытворчасці Сямён Міхайлавіч Пупко. 30 лістапада С.Ф. Пішчыкаў падпісаў загад: *"У сувязі з самавольным сыходам з працы т. Астроўскага А.А. галоўнага механіка завода і Пупко М.М. галоўнага півавара завода справы перадаць у Народны Суд для прыцягнення да адказнасці". (Там жа. Заг.71).*

У адносінах да Астроўскага А.А. загад аб перадачы справы ў суд быў ануляваны ў сувязі з яго сыходам у Польскае Войска. У снежні звольнілася Пупко Хінка Самуілаўна па хваробе, а галоўны півавар Пупко Марк Міхайлавіч быў звольнены *"як той, які ўцёк з вытворчасці".*

На думку Вансевіча Т.: *"Яўрэі забралі золата,у канторы было схаванае - 3 ці 4 кг. Жылі яны будзь-будзь. Ружа Пупко не працавала. З Савецкай сіні дом драўляны, бляхай пакрыты, там Сёма жыў, Міця - у доме, дзе была лабараторыя. Дом пры вуліцы згарэў падчас вайны. Міця ўзяў сына Мэлаха і паехаў у Вільню, і не прывёз яго. Уцяклі, паступова прападалі. Мы потым цэлы дзень палілі царскія грошы, скрынкамі ляжалі, скрынкамі ў гарэльню насілі. Цэлы падстрэшак. Вялізныя такія паперы".*

Галоўным піваварам быў прызначаны Бржазоўскі Л.С., які перайшоў з завода харчканцэнтратаў. Рабочы Бубноўскі К.С. паказальным судом быў прысуджаны да 6 месяцаў прымусовых работ з адлічэннем 25 % зарплаты. Была абвешчаная першая па заводзе падзяка шкляруфарбавальшчыку Міхалоўскаму Г.К. ад імя намесніка старшыні райвыканкаму тав. Макарава: *"За выключную працалюбнасць у рабоце..."*

З кастрычніка па снежань 1944 г. было выраблена 199 тысяч літраў піва, у тым ліку бачкавога 137,8, бутэлькавага 61,2. У 4-м квартале выпушчана 127 500 л. піва бачкавога жыгулёўскага і 21100 л. бутэлькавага. Ячмень завод атрымліваў з Наваельні, Юрацішак, Беняконяў, Гародні, па дрожджы даводзілася ездзіць у Маскву. Ліманадны цэх выпусціў прадукцыі на суму 1400 р., адсутнічалі эсэнцыі і матэрыялы для вырабу безалкагольных напояў. У лесапільным цэху бракавала драўніны, апрацоўваліся лесаматэрыялы на патрэбы бягучага рамонту. Сілавыя ўстаноўкі завода не ў стане былі выпрацаваць неабходную колькасць энергіі для поўнай нагрузкі ўсіх цэхаў *(ЗГА у г. Ліда. Ф.34. воп.1 спр.2. арк.28).*

Сабекошт жыгулёўскага бачкавога піва складаў 101,12 руб., бутэлькавага 182,29 руб. Дэбіторскай запазычанасці не ўтварылася, рахункі на адгружаную прадукцыю выстаўляліся непасрэдна пры выхадзе тавараў і перадаваліся ў банк на інкаса ў 3-дзённы тэрмін.

За шэсць месяцаў на працу былі прынятыя 167 чалавек, 53 з іх звольніліся або былі звольненыя. У войска былі прызваныя маладыя рабочыя Шпакоўскі П.І., Лісаевіч У.І., Радзько Я.Я., Разумовіч У.П., Міканец І.А., Селюжыцкі, Вузкі, Грынь, Кановіч Ю.А., Клімовіч А.А. і Кенць М.І. Органамі НКУС арыштаваная Лаўрэнцева З.І.

### 3. Кадравая катастрофа 1945 года.

У пераможны 1945 год завод увайшоў з 250 м3 дроў і 12 т вугалю. У пачатку студзеня Белбрадтрэст Наркамата Харчовай Прамысловасці БССР зацвердзіў штатны расклад па Лідскім піўзаводзе на 31 штатную адзінку з месячнай сумай зарплаты 12 415 руб.

У лютым з былога піўнога завода № 2 было атрымана піваварнае абсталяванне, якое захавалася, прымала камісія пад кіраўніцтвам старшзавкама шкляра Міхалоўскага Г.К. 10 лютага завод прыступіў да выпуску напояў. Кошт паўлітровай бутэлькі напою быў вызначаны ў 50 кап.

З канца студзеня пачынаецца масавы выезд працаўнікоў завода ў Польшчу. Да канца года звольніліся і выехалі ў Польшчу 55 чалавек: Пупко Хаім Захаравіч (31.01), Калбыка К.С. (15.02), Ларнюк Г.А.(17.02), Левін Якаў Хаімавіч (10.03), Маўчадскі Я.З.(14.03), Асташынскі Навум Ізраілевіч (18.03), Тумялевіч Казіміра Паўлаўна (14.03), Рымшэвіч Галіна Вітольдаўна (14.03), Петрусевіч Я.І (15.03), Суровіч У.М і Суровіч Л.У. (24.03), Зубовіч А.С. (3.04), Драждзэўская Алена Антонаўна (3.04), Тумялевіч К.А. (4.04), Клышэйка Э.С. (7.04), Канопка Л.І. (8.04), Яхімовіч Станіслава Іосіфаўна (9.04), Таўкачэўскі Ф.Я (9.04), Зальцберг І.Я. (9.04), Васільеў Часлаў Васільевіч (5.05), Кудаш А.І. (5.05), Озем (Озім) С.Л.(5.05), Нічыпар М.І. (5.05), Вансовіч Ядвіга Адамаўна (10.05), Маеўская П.Х. (31.05), Стоцкая (4.06), Платоўскі Якаў Ліпавіч (*"збег з вытворчасці"* 2.07), Новік Уладзіслаў Міхайлавіч (7.07), Стацэвіч М.А. (9.07), Жарноўскі П.А. (10.07), Язерскі Гірш Юдзелевіч (13.07), Бржазоўскі (Бжазоўскі) Л.С. (16.07), Сталавіцкі Леў Якаўлевіч (17.07) Сталавіцкая Сара Вольфаўна (17.07), Сталавіцкі Міхась Львовіч (17.07), Пітлюк Хона Аронавіч (17.07), Пітлюк Э.Л. (17.07) Пітлюк Ісак Ханонавіч (17.07), Вайноўская Яніна Казіміраўна (21.07), Вальчук А.К. (21.07), Фердман Лейб Залманавіч (21.07), Ёдка К.Ф. (24.07), Адзірэйка Я.Э.(30.07), Варановіч Л. (2.08), Бародаўка Я.І. (2.08), Граньскі Уладзіслаў У. (3.08), Паўлюкевіч Ф.І. (13.08), Паўлюкевіч М.І (14.08), Кароль Э.Ф. (15.08), Жамойцель Вітольд Баляслававіч (16.08), Пячынская Г.С. (27.08), Цыгяльніцкая Цыля Генахаўна (27.08, *"збегла ў Польшчу"*), Камянецкі М.М. (12.11, *"збег у Польшчу"*), Болуць І.А. (12.11), Мацеевіч У. Л. (21.12).

У Польшчу выехалі прафесіяналы і адмыслоўцы. Завод пакінулі галоўны півавар, начальнік вытворчасці, галоўны бухгалтар, начальнікі планавага аддзела, забеспячэння і збыту, сталярнага цэха, токар, электрык, сталяр, каваль, саладоўшчык, разліўшчык, мыцельнікі.

Былі таксама звольненыя па розных прычынах яшчэ 49 чалавек, у тым ліку 15 працаўнікоў, прынятых у 1944 годзе. Былі прызваныя ў Армію Людовую Казінскі Л.І. і Фамічэўскі М.Г., у Чырвонае Армію - Русак І.С., Рашчыпка М.П., Марцуль Г.І. і Наркунскі І.А. Пры невядомых акалічнасцях загінулі Браніцкі У.Б. і Радзюк М.М. Арыштаваныя органамі НКУС Клімовіч Я.Д., Чапля Б.І., Жукоўскі Ў.У., Цешка Ю.І. На працягу 1945 года з завода звольніліся і былі звольненыя 104 чалавекі. Гэты рэкордны лік працаўнікоў, якія пакінулі піўзавод за ўсе гады яго існавання. Увесь год на заводзе не было галоўнага інжынера і старшага бухгалтара, значны час не было галоўнага механіка і галоўнага піўвара, доўгі час - галоўнага бухгалтара. Некаторыя працаўнікі навучаліся непасрэдна на заводзе.

Увесь год ішла кадравая каламуць. Аляксееўскі Віктар Фёдаравіч - вучань слесара пабыў двойчы экспедытарам, двойчы ЧВА заг. склада гатовай прадукцыі і заг. склада тары. Каваль Язерскі прызначаўся начальнікам пажарнавартавой аховы, фільтроўшчык Дыбоўскі Ч.М - начальнікам ліманаднага цэха і начальнікам склепа, шкляр Міхайлоўскі Г.К. - заг. склада гатовай прадукцыі. Сырыцкая пабыла кухарам, рабочай сталоўкі, мыйшчыцай бутэлек і ахоўнікам. Рабочы Бяляўскі - ахоўнікам, конюхам, дваровым рабочым, брадзільшчыкам, ізноў ахоўнікам, з аховы быў пераведзены ў транспарт, а з транспарту са сваім канём адпраўлены на нарыхтоўку лёду.

Час быў жорсткі. За спазненне на працу на 5 хвілін ставілася на від, ад 5 да 15 хвілін аб'яўлялася вымова, больш 15 хвілін - строгая вымова. Вымовы таксама даваліся за антысанітарны стан і за п'янства. У суд былі перададзены справы Круглага Ф.М. - за сістэматычнае п'янства, Казёл Н.І.- за самавольны сыход з працы, Раманоўскага Ў.Ц, Арэхвы Я.М., Лучко С.А. - за нявыхад на працу, Озема С.Л, Нічыпара М.І., Васільева Ч.У., Палуян М.Б., Ашурка С.І - за прагул, Мальца М. І. -за выхад на працу ў нецвярозым стане, электратэхніка Фердмана Л.З. і электраманцёра Сталавіцкага М.Л.- за нявыхад на працу, *"у сувязі з чым завод прастаяў цэлую гадзіну і перагарэлі пробкі"*.

На працу прынялі 87 чалавек. У гэты час прыйшлі на завод піўвары Саевіч Валянціна Майсеевна, Крушэўскі Міхась Іванавіч, галоўны бухгалтар Радзькоў Д.Т. У лістападзе прыслалі з Масквы Спасаву Н.Н і Галяеву Марыю Паўлаўну. *"Я два з паловай гады вучылася ў Маскоўскім механіка-тэхналагічным тэхнікуме на факультэце піваварнай вытворчасці. Скончыла сярод лепшых, дыплом у мяне быў 18 пяцёрак і 4 чацвёркі. Едзь у Ліду, калгасаў там няма, усё танна. Прыехала. Разбураны горад. Дырэктар Пішчыкаў вельмі добры чалавек, добра да мяне ставіўся, даў пакой на тэрыторыі завода"*.

У красавіку дырэкцыя прасіла гарвыканкам прырэзаць участак тэрыторыі, прылеглай да завода, *"для пашырэння двара завода з-за таго, што праезд на двары вельмі вузкі, у выпадку няшчасных здарэнняў або пажару не будзе абароту хоць для якога транспарту"*. Выканкам замацаваў за заводам участак зямлі плошчай 1786 м2, размешчаны па вул. Савецкай і абавязаў абгарадзіць гэты ўчастак *(ЗГА у г. Ліда. Ф.55, воп.1, спр. 9. арк. 125)*.

19 лістапада было праведзена санітарнае абследаванне завода. Высветлілася, што *"санітарны стан кухні дрэнны, падлогі брудныя, мыюцца два разы ў тыдзень, кухню наведваюць пабочныя. Інтарнат брудны, падлогі цалкам не мыюцца, прыбіральніцы няма, пасцельнае начынне бруднае. Душавая на заводзе без нагляду, прыборка не праводзіцца. Прыбіральня брудная, цёмная і не хлоруецца. Вакол завода шмат смецця і розных адкідаў ад свінарніка і конскага двара"*. Дырэктар Пішчыкаў па выніках абследавання абавязаў заг. сталоўкі Злотнікаву штодня мыць падлогі і не пускаць пабочных, выдзеліць прыбіральніцу для мыцця падлог у інтарнаце; галоўнаму механіку Мацеевічу загадаў выдзеліць працаўніка, які будзе сачыць за ўсталёўкай душа, прыборку душа праводзіць 3 разы ў тыдзень; дворніку Лукашу К.І. праводзіць штодзённую чыстку прыбіральні і раз у тыдзень хлараваць; заггасу Жукоўскаму зрабіць поўную ачыстку двара - вывезці ўвесь гной з-пад стайні і свінарніка.

Перад лістападаўскімі святамі была створана санітарная група ў складзе: Навіцкая, Мікалаева, Злотнікава, Каркота, Яршова і прызначаны шасцёра адказных дзяжурных па заводзе. Яны павінны былі адказваць за ахову і стан завода, правяраць замкі, складскія памяшканні, апячатваць склады сургучнай пячаткай. Ахова з 6 лістапада была пераведзена на казарменнае становішча. Гэтакія сур'ёзныя меры бяспекі былі звязаныя з рэзкім узмацненнем тэрарыстычнай актыўнасці падраздзяленняў Арміі Краёвай, якія пайшлі ў падполле.

Здараліся і невялікія радасці: свінарку Мілаш А.І. прэміявалі парасём і далі двухтыднёвы адпачынак. Перад 28 гадавінай Кастрычніцкай рэвалюцыі была абвешчана падзяка 29 рабочым і службоўцам.


*Мілаш А.І.*

Вытворчае заданне 1945 года не было выканана, піва было зварана 13149 гл пры плане 16 000 гл (82,2 %), жыгулёўскага бачкавога выпусцілі 12 721 гл, бутэлькавага 428 гл. Па напоях план выканалі на 78,9 % - 3157 гл пры плане 4 000 гл. Выпрацавалі сваёй электраэнергіі 58,2 тыс. квт. Лесапільны цэх перапрацаваў 777,7 м3 драўніны. У дапаможнай гаспадарцы ўтрымоўвалі карову, 7 свіней, 15 птушак, 11 парасятаў. Сабралі 9,5 цэнтнераў памідораў, 5 - агуркоў, 1,3 - капусты, 6,3 - морквы, 2,7- "бурачкоў", 33,2 - бульбы, 5,8 - жыта.

Невыкананне планаў кіраўніцтва завода тлумачыла недахопам кваліфікаваных рабочых і адмыслоўцаў; перабоямі ў забеспячэнні палівам; недастатковым попытам на прадукцыю, бліжэйшыя гандлёвыя арганізацыі рэалізаваць усю прадукцыю не могуць, а далёкія не могуць вывезці з-за перагружанасці чыг. транспарту.

Прыбытак 1945 г. склаў 98,3 тыс руб., фактычна 235,5 тыс. руб., але быў спісаны падатак з абароту з трафейнага піва ў суме 137,2 тыс. руб. Набыты 3 аўтамашыны. Асноўныя сродкі на 1.01.1946 - 1353039 руб., зменшыліся за год на 126 тыс. руб. Сабекошт піва прыкметна знізіўся, жыгулёўскага бачкавога да 76 руб., бутэлькавага да 97,7 руб. Ад піўзавода ў горадзе працавалі 6 ларкоў: № 1 на вакзале, № 2 на Перамогі, № 3 на Кіраўскай, № 4 , № 5, № 6 на Ліпавай.

Вытворчыя магутнасці на канец 1945 г. складалі: варачнае аддзяленне 44 тыс. гекталітраў у год, падвальнае - 35 тыс. гл. Сушыльнае і токавае - па 420 тон соладу, што давала выхад піва 21 тыс. гл. у год. Для павелічэння магутнасці патрабавалася пашырэнне сушыльнага аддзялення і токаў для прарошчвання соладу.

**4. 1946 г. Становішча пагаршаецца.**

1946 год завод пачаў з запасам ячменю ў 77 т, соладу 48 т, лёду 600 м3, піўных бутэлек 105 тысяч і 234 бочкі. Дровы засталіся ў лесе, вывезці іх з-за адсутнасці аўтатранспарту і чыгуначных вагонаў не атрымалася. Энергетычнае абсталяванне завода засталося ранейшым: паравая машына 60 к. с., дызель 18 к.с., 2 электрагенератары, 20 электраматораў. Транспарт: 3 грузавыя аўтамабілі: 2 ГАЗ -АА і "Шэўрале". У дапаможнай гаспадарцы на адкорме карова, 7 свіней, 12 парасятаў, 24 гусі, 4 качкі, 3 курыцы.

На заводзе працавалі 3 стаханаўцы і 11 ударнікаў. 27 студзеня зацверджаны спіс з 10 працаўнікоў завода на атрыманне медаля "За доблесную працу". У першай палове 1946 г. выехалі ў Польшчу яшчэ 15 працоўных: Маліноўскі Г.А., Маліноўская Г.А. (3.01), Букатка Валяр'ян (8.01), Навіцкая Данута Антонаўна, Навіцкая Ганна Антонаўна, Якуць Генавефа Адамаўна (23.01), Гольмант Б.Ф. (27.01), Квінта А.К. (12.02), Вінча І.А (Н.У.) (20.02), Лукаш К.І (20.02), Галавачэнка Я.Г. (13.04), Міцкевіч Б.Б. (16.04), Танкевіч П.І. (24.04), Урбановіч С.К. (13.05), Барыла Генрых Канстанцінавіч (23.05). Арыштаваныя НКУС Заруба Ў.Я. з 7.02 па 7.03, шафёр Піліпенка (27.03), Івуць І.С. (29.03), Іванова А.А. (13.06), Аўчароў Я.Т. (18.07), начальнік цэха Маліна З. П. (15.08), буфетчыца Драгун А.К. (28.09).

Узімку завод працаваў з перабоямі з-за недахопу, як тады пісалі "дрывапаліва" і адсутнасці электраэнергіі. Планы па выпуску піва і ахаладжальных напояў не выконваліся: 1

квартал - бачкавое піва 56,3 %, бутэлькавае 7 %. Водпуск піва спажыўцам не вытрымліваўся: студзень 584,3 гл пры плане 1500, люты- 557 гл (1840), сакавік - 1360 гл (1660). Бракавала піўных бочак. На 1 красавіка ў скляпах заставалася 236 тысяч літраў піва.

Выканкам Гарсавета 4 красавіка заслухаў даклад дырэктара завода С.Ф.Пішчыкава аб працы за першы квартал і прыняў наступнае рашэнне:

*- прасіць аблвыканкам і Міністэрства харчовай прамысловасці БССР запланаваць дастаўку дрывапаліва для завода з падачай 30 вагонаў штомесяц;*

*- абавязаць дырэктара электрасеткі г. Ліда пры аварыйных спыненнях завода забяспечваць электраэнергіяй у начны час для адцяжкі піва з скляпоў;*

*- прапанаваць піўзаводу перайсці на торфапаліва;*

*- прапанаваць тав. Пішчыкаву скласці тэхнічны разлік па капітальных выдатках і ўвайсці з хадайніцтвам у Міністэрства харчовай прамысловасці аб замене лакаматыва на новы магутнасцю 150 к. с.*

*- абавязаць дырэктара піўзавода і кіраўнікоў гандлёвых арганізацый упарадкаваць абарачальнасць бочкатары, арганізаваць падвойную абарачальнасць за дзень, праводзіць здачу бочкатары з 8 раніцы да 9 вечары, рабіць вынятку і неадкладную здачу піўной бочкатары, занятай пад іншай прадукцыяй на базах і гандлёвых кропках;*

*- у сталовых, чайных і закусачных дазволіць продаж толькі бутэлькавага піва;*

*- абавязаць гандлёвыя арганізацыі рабіць прыём бутэлькавага посуду ад насельніцтва;*

*- тав. Пішчыкаву забяспечыць:*

*а) бесперабойную працу бондарнага цэха па рамонце і выпуску новай тары;*

*б) бесперабойную працу цэха безалкагольных напояў і іх рэалізацыю;*

*в) правядзенне тэхвучобы з калектывам завода да ліпеня 1946 г. (ЗГА у Лідзе.Ф.55. воп.1 спр.10. арк.147-148).*

15 красавіка выканкам прапанаваў гандлёвым арганізацыям з 10 траўня разгарнуць у горадзе гандаль ахаладжальнымі напоямі; арганізаваць гандаль півам і напоямі ў начны час на ст. Ліда, і абавязаў С.Ф. Пішчыкава забяспечыць гарадскія гандлёвыя арганізацыі ахаладжальнымі напоямі на вяснова-летні сезон *"у дастатковай колькасці для поўнага задавальнення патрэб насельніцтва горада"*.

Ні ў красавіку, ні ў першай палове траўня піўзавод не выканаў спушчанага яму задання па піве і безалкагольных напоях, што ў той час расцэньвалася як зрыў дзяржаўнай праграмы. 25 траўня, за тыдзень да завяршэння месяца С.Ф. Пішчыкаў прызначыў начальніка планавага аддзела З.А.Мікалаеву адказнай асобай за выкананне дзяржплану па безалкагольных напоях і абавязаў яе забяспечыць выкананне вытворчага плану па *"усіх асартыментах за травень 1946 года і пакрыць недахоп красавіка"*. Адказнымі за выкананне травеньскага плану па піве былі прызначаныя галоўны півавар П.І. Мікалаеў і зменныя піввары Ў.М. Саевіч і М.М. Галяева. Яны павінны былі забяспечыць бесперабойную працу піўнога цэха. *(Архіў піўзавода. Загады 1946 г. Заг. 183).*

Травеньскі план па напоях вырвалі, з півам не атрымалася. Высновы рушылі ўслед неадкладна: *"Бяздзейнасць і адсутнасць належнага тэхнічнага кіраўніцтва з боку галоўнага піавара Мікалаева прывяло да зрыву варэння піва 13-17 чэрвеня і да доўгіх затрымак піва на талерках. У сувязі з гэтым галоўнага піавара Мікалаева Паўла Іванавіча з працы зняць. Пытанне аб вызваленні з трэстам узгоднена. За зрыў варэння піва 17.06 ... зменнаму піавару Саевіч - строгая вымова з папярэджаннем"*. ЧВА галоўнага піавара быў прызначаны М.І. Крушэўскі.

17 чэрвеня дырэктар завода Сяргей Фёдаравіч Пішчыкаў быў узнагароджаны медалём "За працоўную доблесць". У той жа дзень піўзавод быў абследаваны санітарным інспектарам. Прапанавана пабяліць вытворчыя цэхі, абсталяваць і пусціць у працу аўтамат для мыцця бутэлек, зрабіць рамонт саладоўні, папрaвіць цепласеткі ў хмелевым аддзяленні, усталяваць вентылятар у брадзільным аддзяленні, зрабіць шафы для верхняй вопраткі, правесці ачыстку ад пылу, павуціння, бруду і непатрэбнага халусця варачнае аддзяленне, бутэлькавы цэх, скляпы, механічны цэх і машыннае, цэх безалкагольных напояў і двор.

29 чэрвеня на выканкаме Гарсавету ізноў быў заслуханы даклад дырэктара Пішчыкава і судаклад камісіі па абследаванні піўзавода. Адзначана, што ў першай палове 1946 г. піўзавод працаваў з перабоямі, прастой склаў 27 працоўных дзён па прычыне слабога догляду механічнага абсталявання. План па рэалізацыі за другі квартал не выкананы, пры плане ў 7 млн рублёў паступіла 4, 7 млн рублёў. У лютым меўся недахоп 15 910 кг ячменю. Атрыманне ячменю і перавозка яго на склады адбываецца бескантрольна і без прадстаўніка Нарыхтзбожжа. Нястача ячменю кладзецца на сабекошт. Адсутнічае графік водпуску піва. У красавіку тры дні водпуск піва не праводзіўся. Дырэктар не прыняў мераў для выпуску бутэлькавага піва пры наяўнасці бутэлек. Сталай брыгады на разліве піва няма. Праца не механізавана. 16-соскавая машына знаходзіцца ў разабраным стане. Пры напружаным становішчы з бочкатарай бандарны цэх працуе з перабоямі. Пішчыкаў не прыняў мераў да ўкамплектавання завода кваліфікаванымі кадрамі. Водпуск працоўных з завода адбываўся часцяком без паважлівых прычынаў. Працоўная дысцыпліна знаходзіцца на невысокім узроўні.

На 24 чэрвеня соладу мелася на тыдзень, нараду на ячмень завод не меў. Выканкам вырашыў:

*1. Прапанаваць дырэктару піўзавода перабудаваць працу так, каб у наступных кварталах вытворча-фінансавы план выконваўся ў тэрмін.*

*2. Абавязаць т. Пішчыкава*

*- Выканаць рашэнне выканкаму ад 4.04.46 у частцы нарыхтоўкі дроў, выпуску бочкатары і бутэлькавага піва.*

*- Прыняць рашучыя меры для навядзення працоўнай дысцыпліны на вытворчасці. Дабіцца паніжэнні цякучасці працоўнай сілы. Не дапушчаць звыштэрміновых работ без дазволу прафсаюза. Зрабіць разлік са ўсімі працоўнымі. Шырэй разгарнуць сацспаборніцтва і ўкамплектаваць завод працоўнай сілай.*

*- Скласці графік прафрамонту механічнага абсталявання і асвоіць 40 % амартызацыйных адлічэнняў на бягучы і капітальны рамонт завода поўнасцю ў 1946 г.*

*- Падняць ролю вытворчых нарад на належную вышыню, ставячы на абмеркаванне пытанні адказнасці майстроў і працоўных за эксплуатацыю і выкарыстанне абсталявання, абмяркоўваць прычыны прастояў завода. Вінаватых асоб за нядбалае стаўленне да дзяржаўнай уласнасці прыцягваць да адказнасці.*

*- Дабіцца выбаркі піва і напояў, паводле заключаных дамоваў. Да 15 ліпеня змантіраваць 16-соскавы апарат на разліў бутэлькавага піва.*

*4. Прасіць міністэрства харчовай прамысловасці прыняць меры для забеспячэння завода сыравінай.*

*5. Прасіць аблвыканкам аб адводзе лясных масіваў на блізкай адлегласці ад Ліды з-за адсутнасці аўтатранспарту і гаручага для перавозкі дрывапаліва заводу.*

*6. Прасіць міністэрства дабіцца нараду на водпуск 5 тыс. м3 дроў, нарыхтаваных у лясных масівах Баранавіцкай і Маладзечанскай абласцях з падачай вагонаў для перавозкі дроў чыг. транспартам.*

*7. Давесці да ведама Белбрадтрэста, што з-за адсутнасці ў 1945 г. галоўнага інжынера і кваліфікаваных галоўных механікаў, а таксама адмыслоўцаў тэхнічнага нагляду за абсталяваннем завод меў частыя прастоі. Прасіць дапамагчы заводу ўкамплектаваць тэхнагляд кваліфікаванымі кадрамі.*

*8. Абавязаць дырэктары Пішчыкава і старшзавкама Міхайлоўскага палепшыць кіраўніцтва сацспаборніцтвам сярод рабочых і службоўцаў завода. Узяць пэўныя абавязальніцтвы па выкананні і перавыкананні вытворчага плану, аказаць практычную дапамогу ўдзельнікам спаборніцтва ў выкананні ўзаемных абавязальніцтваў. Рэгулярна праводзіць праверку вынікаў сацспаборніцтва і вынікі праверкі асвятляць у насценным друку і лепшых людзей памяшчаць на Дошку Пашаны.*

*9. Прасіць гаркам абавязаць сакратара першаснай партыйнай арганізацыі ўзмацніць працу па палітычным выхаванні калектыва завода. Ажывіць працу гурткоў па вывучэнні пяцігадовага плану 4-ай Сталінскай пяцігодкі*

*10-13. Прапанаваць дырэктару піўзавода Пішчыкаву:*

*- забяспечыць правядзенне тэхвучобы калектыву завод;*

*- пагасіць запазычанасць дзяржаве ў суме 700 тыс. руб. да 5 ліпеня;*

*- аднавіць бутэлька-налівачны апарат да 7 ліпеня;*

*- сумесна з загандлем у трохдзённы тэрмін распрацаваць графік-каляндар водпуску піва. Арганізаваць водпуск піва з 6 раніцы да 10 гадзін вечара падчас варэння піва, а пры адсутнасці варэння з 8 раніцы да 17 гадзін вечара.*

*14. За невыкананне рашэння гарвыканкаму ад 4 красавіка дырэктара Пішчыкава папярэдзіць. За паўтор падобных выпадкаў будуць ужытыя самыя строгія меры ўздзеяння. (ЗГА у Лідзе. Ф.55, воп. 1, спр.10, арк. 267-269.)*

У сярэдзіне ліпеня для выхавання і вучобы на заводзе былі паселены дзеці-сіроты: Раманоўскі П.І., Рогаў І.І., Карзубава З.Д., Яськевіч Н.З., Сутулава К.С., Лутkоўскі Н.С., Лапніцкі У.Д., Салаўёў У.У. Для іх была нанятая выхавальніца Шамко А.І.

26 ліпеня на паседжанні гарвыканкаму адзначана, што *"адсутнічае ў гандлі піва ў бутэльках, асабліва ў сталовых і чайных, сітро і морс"*. Загадана павялічыць літраж тары для Ваенгандлю. *(Там жа, спр.18, арк. 73.)*

Назаўтра высветлілася, што завод знаходзіцца пад пагрозай прыпынку варкі піва - лёду засталося на 10-15 дзён. Вінаватымі былі вызначаныя начальнік склепа Дыбоўскі і былы галоўны півавар, першы - за безгаспадарлівы выдатак лёду і дрэннае яго захоўванне, другі - за адсутнасць належнага кантролю. Дыбоўскі атрымаў строгую вымову з папярэджаннем. ЧВА галоўнага півавара М. Крушэўскаму і начальніку склепа Дыбоўскаму было загадана ўзяць пад найстрогі кантроль выдатак астатку лёду. На працягу 2-3 дзён правесці доследы па ўжыванні раствораў солі для большай эканоміі лёду.

Галоўнаму інжынеру Франчкоўскаму і галоўнаму механіку Новікаву было прапанавана распрацаваць практычны план прылады механічнага астуджэння, а таксама выкарыстанне зімнай вады ад раставання лёду. Для гэтай мэты Франчкоўскі быў камандзіраваны ў Менск у Белбрадтрэст з заданнем дабіцца атрымання кампрэсара і аміячнага раствору для халадзільнай устаноўкі. Усім загадана эканоміць лёд, спыніць хаджэнні ў склеп. *(Архіў піўзавода. Загады 1946 г. Заг. 299.)*

У верасні-кастрычніку з Баранавічаў завозіцца лёд. У верасні завод адмовіўся ад вагона некандыцыйнага ячменю, але пасля вагон быў



***Лідскі піўзавод у 1946 годзе***

прыняты з-за неўраджайнасці ячменю ў 1946 г.

У горадзе ў летні сезон працавалі 9 завадскіх ларкоў. У дырэкцыі часамі ўзнікалі праблемы з прадаўшчыцамі піва. Яны караліся за недалівы, антысанітарны стан, нястачу, нясвоечасовую здачу грошай.

Дысцыпліна падае. Пасля доўгіх гадоў ваеннай напружанасці наступіла разрадка. Дырэкцыя лютуе. Пад суд адпраўленыя 19 чал: за прагулы, за спазненне, за самавольны сыход з працы, за раскраданне дзяржаўнай уласнасці. Строгія вымовы атрымліваюць машыніст Шкурка І.У. і качагар Дурноў М.М. *"Шкурка расхаджвае па заводзе ў падвальным памяшканні з бутэлькамі піва ў руках, пасля чаго напіваецца і забывае аб працы. Качагар Дурноў вырашыў сабе спакойна адпачываць у машынным аддзяленні, чым і дапусціў, што яго качагарка зусім патухла".* Строгія вымовы ўжо не дапамагаюць, з'яўляюцца строгія вымовы з унясеннем у асабістую справу. 10 лістапада такую вымову з унясеннем атрымала зменны півавар В.М. Саевіч: *"За нетактоўныя паводзіны на вытворчасці і ўчыненне дэбошаў".* Але ўжо заўважаюцца і паслабленні. Шчыпачова Т.П. за прагул 14.03 атрымлівае толькі вымову з папярэджаннем.

Лістападаўскія святы сустрэтыя ў поўным узбраенні: ПСА пераведзена на казарменнае становішча, абумоўленыя меры на выпадак пажару, прызначаныя адказныя дзяжурныя, апячатаныя друкарскія машынкі, лічыльныя механізмы, дакументы, заведзеная кніга дзяжурстваў.

Сабекошт піва жыгулёўскага бачкавога ў параўнанні з 1945 г. павялічыўся і склаў 77,9 руб., бутэлькавага знізіўся - 86,59 руб. Пры ўсім пры гэтым прыбытак па заводзе склаў 232, 7 тыс. руб. На капітальны рамонт было выдаткавана 30,3 тыс. руб. За год былі пабудаваныя драўляныя ларкі (2,7 тыс. руб.), пракладзена каналізацыя (1,5), набыты транспарт (32,4), абсталяванне (0,7), с/г інвентар (2,4), 3000 рублёў пайшлі на культбыт.

На працягу ўсяго 1946 года піўзавод працаваў нестабільна. Бракавала дроў, зваротнай тары, транспарту, змазачных матэрыялаў, лёду ў летні сезон, цукру і сыравіны. Пішчыкаў на паседжанні гаркаму партыі прасіў дапамогі. *"Усе людзі кінутыя на нарыхтоўку лесу, бракуе ячменю. Дрэнна з забеспячэннем завода прадуктамі. Калі не забяспечыць завод палівам, ён можа спыніць працу". (ГААА у Гародні. Ф.3, воп.1, спр.35, арк. 10.)* На завод былі накіраваныя нямецкія ваеннапалонныя, ім выплачана за працу 30,7 тыс. руб., працоўным за звыштэрміновыя работы выплачана 7,8 тыс. руб.

Вытворчая магутнасць завода зменшылася ў параўнанні з даваеннай на 10 тысяч гл. Варачнае аддзяленне здольна было зварыць 65 тыс. гл., брадзільнае прапусціць - 33 тыс. гл., лагерны склеп змяшчаў 34 тыс. гл., саладовенныя токі маглі выдаць 600 тон соладу на 27 тыс. гл. піва.

Фільтровачнае аддзяленне здольна было прафільтраваць 24 тыс. гл. Праблема аб'ёмаў піва ўпіралася ў сушылку, якая магла высушыць толькі 500 т соладу на 22 000 гл. *(ЗГА у Лідзе. Ф.34, воп.1, спр.13. арк. 57.)*

Па меркаванні М.П.Галяевай, якая да прыезду бачыла лепшыя савецкія піўныя заводы: *"Лідскі піўзавод быў дапатопшчына. Халадзільных установак не было. Узімку нарыхтоўвалі лёд. Лёд секлі на Лідзейцы і ў возеры, вазілі на завод жыхары Раслякоў на конях. Астуджалі піва ў шымрах".*

Зварана было 15 824 гл. піва пры плане 20 тыс. гл. Піва было дрэннага колеру і смаку з павышанай кіслотнасцю. Тэхналагічны працэс парушаўся. Расход хмелю склаў 217 г пры норме 180 г. Перарасход хмелю абумоўлены пускам у вытворчасць хмелю трэцяга гатунку запасу 1943-44 гг. Ячмень пускаўся ў перапрацоўку без сартавання. Расход соладу 20,7 кг. У соладзе было павышаная колькасць механічных дамешкаў, і нізкая экстрактыўнасць. *(Там жа, арк. 58.)*

*"Дапаможная гаспадарка была пушчана на самацёк, ніякага кантролю і ўліку працы не было. Ураджай нікчэмны. Маецца 29 курэй, але ніякага догляду за імі няма, і карысці няма." (Там жа, арк. 63).*

Прыняты на працу 80 чалавек, звольнены 70. Да канца 1946 г. адміністрацыйны апарат завода быў укамплектаваны, але, мабыць, скончылася цярпенне ў кіраўнікоў Міністэрства харчовай прамысловасці.

## 5. 1947 г. Замена дырэктара.

4 снежня 1946 *г.* на завод прыйшоў другі пасляваенны дырэктар: *"На падставе загаду ... з гэтага дня прыступаю да выканання абавязкаў дырэктара Лідскага піўзавода. Для прыёмкі і здачы спраў прызначаю камісію ў наступным складзе: гал. інжынер Франчкоўскі Г.Я, гал. бухгалтар Радзькоў Д.Т, гал. півавар Кукаў П.Ф, нач. планавага аддзела Мікалаева З.А., нач. забеспзбыту Савосцін П.А., нач. ПСА Старыковіч А.К., заг. склада гатовай прадукцыі Перапечка А.А., заг. склада сыравіны і матэрыялаў Корбут С.М., заг. ліманаднага цэха Клусевіч К., заг. лаб. Спасава Н.Н., інс. па кадрах Старыковіч У.А., старшыня мясцкама Кіян. Дырэктар Каланіцкі." (Архіў піўзавода. Загады 1946 г. Заг. 460.)*

Кіраўнік Белбрадтрэста Стэфан Трафімавіч Каланіцкі *"высокі, прыгожы мужчына, вельмі добры чалавек"* прыязджае ў Ліду і заступае на пасаду дырэктара. Новы дырэктар перш за ўсё арганізаваў у Баранавічах піўную базу. 10 снежня на пасаду дырэктара Баранавіцкай піўной базы быў прызначаны Кварт Самуіл Майсеевіч, праз месяц ён быў вызвалены, дырэктарам стаў Казлоў П.І.

Лімітамі па працы на 1947 г для завода ўстаноўлена колькасць ІТР - 6 чал, рабочых 42 чал. Зарплата была запланавана ў суме 169,6 тыс. рублёў. Колькасць працоўных на 1 студзеня складала 51 чалавек, з іх 3 стаханаўцы, 7 выдатнікаў, 8 ударнікаў. На здзельшчыне 26 чал. Завод прасіў павялічыць ліміты па працы: ІТР да 8 чал, рабочых да 60, паколькі планаваліся работы па капітальным і бягучым рамонтах, і трэба было ствараць сталую брыгаду рамонтных рабочых. Трэст адмовіў.

У студзені на завод накіравалі працаваць начальнікам аддзела кадраў і па спецработе былую партызанку А.П. Дзятлаву, у гэты час на заводзе працавалі нямецкія ваеннапалонныя.

Перад Міжнародным днём 8 сакавіка загадам па заводзе абвешчаная падзяка *"за доблесную працу і добрую працоўную дысцыпліну лепшым ударніцам і стаханаўкам завода": Мураўёвай Пелагеі Іванаўне, Барсук Раісе Іосіфаўне, Кучаравай Кацярыне Іванаўне, Лучко Станіславе Іванаўне, Казёл Надзеі Іосіфаўне, Мацюнінай Марыі Нічыпараўне, Гаеўскай Марыі Юр'еўне, Мельнік Кацярыне Ціханаўне, Каралёвай Аляксандры Дзмітрыеўне, Савель Станіславе Казіміраўне, Жукоўскай Яніне Феліксаўне, Клусевіч Клаўдзіі Мікалаеўне, Галяевай Марыі Паўлаўне, Спасавай Ніне Мікалаеўне, Дзяшовай Ганне Мікалаеўне. (Архіў піўзавода. Загады 1947 г. Заг. 61.)* У наступныя гады падобныя загады стануць традыцыйнымі.



***Кучарава К. І.***

13 сакавіка заводу прададзены дамы ў Расляках № 9-11 і № 49-65 з усімі надворнымі пабудовамі на агульную суму 22707 р. *(Ф.55. воп.1, спр. 28. арк. 182.)* Гэта былі дамы сем'яў, якія выехалі ў Польшчу.

У гэты ж дзень гарвыканкам у сувязі з пагрозлівым становішчам з забеспячэннем мукой і хлебам насельніцтва Ліды прапанаваў дырэктару Каланіцкаму наяўныя на заводзе млынавыя жорны і абсталяванне часова даць для памолу збожжа млынзаводу № 10. Мукі заставалася на 2-3 дні, млын у Гародні спыніўся, а млын млынзавода № 10 у Лідзе да пуску не быў гатовы. *(Там жа, арк. 188.)* Праз тыдзень становішча з хлебам яшчэ больш ускладнілася. З-за вясновага разліву і адсутнасці паліва на млыне лідзяне на працягу 2 дзён не атрымлівалі хлеба. Начальніка электрастанцыі Ягорова абавязалі адпусціць піўзаводу для завадскога млына 10 тон вугалю, дырэктара Каланіцкага абавязалі забяспечыць бесперабойную працу завадскога млына для памолу збожжа. *(Там жа, арк. 211.)*

Хлеб у горадзе ў пасляваенныя гады адпус-

каўся па хлебных картках. Кантынгент, якому выдаваліся карткі, па піўзаводзе на 24 красавіка складаў 199 чалавек: 7 службоўцаў, 91 рабочы, 76 дзяцей, 25 дарослых утрыманцаў. *(Там жа, арк. 362.)*



***Кляйноцкі А.К.***

Перад святам 1 траўня 1947 г. усталявана завадская Дошка Пашаны. Лепшым стаханаўцам абвешчаная падзяка з занясеннем на завадскую Дошку Пашаны. Адзначаны: нам. галоўбуха Дзяшовая А.М, нач. безалкагольнага цэха Клусевіч К.М, брыгадзір бутэлькавага цэха Жукоўская Я.Ф., рабочыя Барсук Р.І., Савель С.К., Яскевіч Н.З., брадзільшчыкі Дыбоўскі Ч.М., Яцэвіч У.М., Воўк А., зліўшчыца Кучарава К.І., саладоўшчыкі Жукоўскі А.Д. і Май І.П., варшчык Рудкоўскі У.А., сушнякі Шот А.І. і Кляйноцкі А.К., машыніст Скрэнда К.М., электраманцёр Пакулаў С.І., шафёр Мельнікаў У.У., рамшчык Сямашка К.Ф., бондар Вансевіч К.І., ахоўнік Майсеевіч К.М. Падзякі атрымалі: Арэхва, Новік, Журомскі, Крушэўскі, Галяева, Арлоў, Буднікаў. *(Архіў піўзавода. Загады 1947 г. Заг.114.)*



***Пакулаў С.І.***

У чэрвені некаторы час стаяў варачны цэх, кантынгент павялічыўся да 206 чалавек: 7 службоўцаў, 93 рабочых, 76 дзяцей, 30 дарослых. *(ЗГА у Лідзе. Ф.55, воп.1, спр. 29, арк.33.)* Гарадское кіраўніцтва абавязала дырэктара Каланіцкага пабудаваць на рынку ларок для продажу ахаладжальных напояў. 9 жніўня на выканкаме разглядалася пытанне аб паляпшэнні гандлю ахаладжальнымі напоямі, фруктовымі водамі і марожаным. У рашэнні было адзначана, што піўзавод вырабам і рэалізацыяй ахаладжальных напояў займаецца недастаткова. Каланіцкага абавязалі *"арганізаваць бесперабойны і ў дастатковай колькасці выпуск ахаладжальных напояў усіх асартыментаў, у тым ліку і піва. Не дапушчаць перабояў на працягу летняга перыяду ў гэтым прадукце. Скласці дамовы з ўсімі гандлёвымі арганізацыямі на поўную рэалізацыю ўсяго асартыменту безалкагольных ахаладжальных напояў, які выпускаецца, не пазней 5 жніўня." (Там жа, арк. 310.)*

У сувязі з начнымі рабаваннямі, якія пачасціліся, водпуск піва і напояў у ларкі пачалі праводзіць у памеры аднадзённай патрэбнасці. *"Ніякія заявы ў далейшым аб выпадках крадзяжоў з ларкоў да ўвагі прымацца не будуць". (Архіў піўзавода. Загады 1947 г. Заг. 99.)*

Пачасціліся выпадкі крадзяжу піва і на заводзе. Загадана: *"Ахове завода дбайна правяраць усіх, хто праходзіць і праязджае на машынах, фурманках, а таксама правяраць усіх працоўных, службоўцаў і пабочных з ручной паклажай, што выходзяць з завода, і ў выпадку выяўлення піва або іншых прадметаў, якія належаць заводу, затрымоўваць, складаць акт і перадаваць у дырэкцыю для прыцягнення да адказу". (Там жа. Заг. 182.)*

30 чэрвеня вызвалены ад пасады галоўны інжынер Франчкоўскі Я.С. ЧВА галоўнага прызначаны галоўны півавар Кукаў П.Ф. 1 ліпеня па скарачэнні штатаў давялося скараціць трох загадчыкаў складоў, экспедытара і табельшчыка.

З 8 ліпеня пачалася нарыхтоўка дроў з лясной дзялянкі "Нёман". Вывазка лесу праводзілася ўласным транспартам па два рэйсы ў дзень на машынах з прычэпамі. Нарыхтоўка дроў працягвалася да снежня.

У ліпені Каланіцкі з'ехаў у Менск на лячэнне, з 9 ліпеня па 8 жніўня загады падпісваў Савосцін - начальнік аддзела забеспзбыту.

10 верасня прыступіў да абавязкаў галоўнага півавара Ісак Іёнавіч Перац. Гэта быў шосты за пасляваенныя гады галоўны півавар: Пупко Марк Мейлахавіч, Бржазоўскі Л.С, Мікалаеў Павел Іванавіч, Крушэўскі Міхась Іванавіч (ЧВА), Кукаў Пётр Фёдаравіч, Перац І.І.



***Перац І.І.***

16 кастрычніка Выканкам прыняў рашэнне аб разгортванні перадсвяточнага гандлю і арганізацыі кірмаша ў Лідзе з 25 кастрычніка па 6 лістапада. Піўзаводу прапанавана пабудаваць два пункты па продажы водаў і піва на рынку і рэалізаваць за кірмашовыя дні прадукцыі не менш чым на 60 тыс. руб. *(ЗГА у Лідзе. Ф.55, воп.1, спр. 30, арк. 167.)*

У кастрычніку ў Гародню ў школу ФЗН адкамандзіраваны выхаванцы завода Раманоўскі П.І, Лапіцкі У.Д., Яскевіч Н.З., Карзубава З.Д., Лутkoўскі Н.С. і рабочая ліманаднага цэха Савель Ст.

У гонар 30 гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі за прыкладную, добрасумленную працу і добрую дысцыпліну атрымалі падзяку з занясеннем на агульназаводскую Дошку Пашаны: Барсук Раіса Іосіфаўна, Яневіч Уладзімір Міхайлавіч, Воўк Аляксандр Максімавіч, Кучарава Кацярына Іванаўна, Жукоўская Яніна Феліксаўна, Жукоўскі Адольф Дамінікавіч, Крушэўскі Міхась Іванавіч, Руткоўскі Уладзімір Антонавіч, Новік Міхась Міхайлавіч, Жыбарт Пётр Казіміравіч, Немчанка Кацярына Міхайлаўна, Мельнікаў Васіль Васільевіч, Федасееў Георг Мікалаевіч, Дзяшовая Ганна Мікалаеўна, Дыбоўскі Часлаў Мартынавіч, Пакулаў Станіслаў Іванавіч, Май Іосіф Пятровіч, Журомскі Кастусь Канстанцінавіч, Міхайлоўскі Гаўрыіл Касперавіч, Бязлепкін Васіль Васільевіч, Вансевіч Казімір Іосіфавіч, Мількоўская Апалонія Іванаўна, Шот Антон Іосіфавіч, Майсеевіч Аляксандр Лявонавіч, Какошка Іосіф Францавіч, Бубноўскі Кастусь Сцяпанавіч, Бугай Кастусь Антонавіч. З дапаможнай гаспадаркі завода выдадзены парасяты Пакулаву, Фралкову, Мілаш, Крушэўскаму, Ваўку, Дзятлавай, Тхарову, Калінічавай, Байцову, Мураўёвай, Журомскаму. *(Архіў піўзавода. Загады 1947 г. Заг. 325.)*

У лістападзе на піўзаводзе кантынгент для атрымання хлебных картак скараціўся да 185 чалавек: 95 +7+59+24, у снежні падняўся да 195: 100+7+64+24. *(ЗГА у Лідзе. Ф.55, воп.1, спр. 30, арк. 215 і 217.)* Піўзавод абавязалі ўзяць шэфства над інвалідам 1 групы Анікеевым, які жыў на вул. Варшаўскай, 46.

### 6. 1948- 49 гады. Рэзкі ўздым.

З трох першых месяцаў 1948 года адзін месяц Каланіцкі правёў у Менску, загады падпісваў начальнік аддзела забеспзбыту Савосцін. Працоўнай дысцыпліне гэтая акалічнасць не спрыяла.

5 студзеня *"самавольна наведалі склеп праз зачыненыя дзверы"* рабочыя Барсук Ф.М. і Рагатка К.Т., за што атрымалі строгую вымову з папярэджаннем. Арлоў і Тананушка пасля працы заставаліся папіць піва.

14 студзеня сушняк Кляйноцкі пры курэнні ледзь не спаліў сушню, атрымаў строгую вымову. Адзначаліся неаднаразовыя спазненні на працу, заўважаныя Хуляеў, Жыбарт, Барсук, Казіміроўскі, Уліта.

За год змяніліся чатыры начальнікі ПСА: Валуеў П.А. і Карпенка І.Л. - у першыя два месяцы, Марчанка Я.Н. пратрымаўся да чэрвеня, быў арыштаваны, яго змяніў Крымаў С.У.

Нарыхтоўка лёду прайшла дрэнна. На 28 студзеня было нарыхтавана 1541 т лёду пры плане 5500 т., не спрыялі пагодныя ўмовы - лёд тонкі, няроўны і дробны. Працавалі 30 фурманак замест 58.

Не былі складзеныя дамовы з сялянамі. За куб лёду плацілі 6 руб. 65 кап. Лёданарыхтоўкі вяліся да 19 сакавіка.



***Фішбайн А. І.***

2 лютага прыйшоў з Гарадзенскага шклозавода вагон бутэлек навалам. Прадавалі салодзіны па кошце 75 кап. за вядро. У лютым у Баранавічах была створана піўбаза. Козлова П.А. за сыход з працы аддалі пад суд. У сакавіку на завод прыйшоў працаваць слесарам Фішбайн Азем Ізраілавіч, у траўні прыходзіць галоўным бухгалтарам Пушкароў П.А. Атрымана новая машына ЗІС-5. Кіроўца Мельнікаў У.У. за безаварыйную працу атрымаў першую заводскую прэмію.



***Пушкароў П. А.***

У красавіку паступілі скаргі з боку спажыўцоў і гандлёвых арганізацый на выпадкі продажу піва з пахам газы і бензіну. Дырэктар Каланіцкі загадаў:

*1. Заг. склада гатовай прадукцыі і тары тав. Хахлову і Перапейку А.А. строга праглядаць тару, якая паступае ад спажыўцоў. Забруджаную тару не прымаць;*

*2. Галоўнаму півавару т. Перцу і начальніку цэха безалкагольных напояў т. Клусевіч К.М. строга сачыць за якасцю мыцця тары, гэтак жа ўзмацніць бракераж гатовай прадукцыі, узмацніць кантроль за нармалёвым напаўненнем півам і напоямі, як бочак, так і бутэлек. (Архіў піўзавода. Загады 1948 г. Заг. 107.)*

10 красавіка паніжаны цэны: піва бачкавое за літр - 9 руб. 60 кап., бутэлькавае - 11 руб. 20 кап, напой на цукры за літр - 4 руб., сіроп на цукры - 12,5 руб., сіроп на сахарыне - 5 руб., сіроп сумесь 50% цукру - 7,5 руб.

27 траўня працаўнікі завода адзначаны грашовымі прэміямі. *"За перавыкананне плану па*

*асартыменце і паніжэнне сабекошту прэміяваны ст. бухгалтар Пушкароў П.А. у памеры 400 руб., начальнік забеспячэння і збыту Савосцін П.А у памеры 300 руб., майстар безалкагольнага цэха Клусевіч К.Н. у памеры 250 руб." (Архіў піўзавода. Загады 1948 г. Заг. 139.)*

У чэрвені прэміяваны Дзяшовая, Крушэўскі, Чупрын. 28 чэрвеня дзяжурны слесар Хамякоў атрымаў строгую вымову за грубіянскі зварот з ужываннем сілы: разбіў аб стол чарнільны прыбор. 3 ліпеня запушчаны лесапільны цэх і слесар Фішбайн А.І. прызначаны ЧВА галоўнага інжынера. З 10 ліпеня галоўным стаў Левін Ісак Рафаілавіч. 22 ліпеня сыйшла ў дэкрэтны адпачынак майстар безалкагольнага цэха Клусевіч.

15 лістапада прыбылі пяць вагонаў ячменю. У той жа дзень за эканомію электраэнергіі прэміяваны электраманцёр Пакулаў С.І. у памеры 600 руб.

На заводзе паступова аформілася здаровае ядро. Да 8 сакавіка, 1 траўня і 7 лістапада рабочыя і інжынерна-тэхнічныя работнікі адзначаныя падзякамі. У сакавіку адзначаныя Дзяшовая, Галяева, Спасава, Клусевіч, Барсук, Мілаш, Кучарава, Немчанка, Мальвінская, Мураўёва, Мімякоўская, Жукоўская, Дудко, Вераценнікава, Нікіціна, Бязлепкіна. Перад 1 траўня з занясеннем на Дошку Пашаны - Жукоўская, Сырыцкая, Мураўёва, Дудко, Вераценнікава, Мальвінская, Перац, Крушэўскі, Воўк, Немчанка, Новік, Клусевіч, Барсук, Нікіціна, Міхайлоўскі, Шот, Мельнікаў, Пакулаў, Май, Какошка, Руткоўскі, Бязлепкін, Вансевіч К., Кляйноцкі, Мілаш, Юдэнка, Майсеевіч. Журомскі, Семашка, Гайда, Бубноўскі. *(Архіў піўзавода. Загады 1948 г. Заг. 118.)*

У лістападзе за добрасумленную працу і добрую працоўную дысцыпліну адзначаны падзякамі з занясеннем фотакартак на агульназавадскую Дошку Пашаны: Жукоўскі А.Д., Май І.П., Шот А.І., Кляйноцкі А.К., Дыбоўскі Ч.М., Яневіч У.І., Кучарава К.І., Новік М.М., Мальвінская П.Б., Покулеў Ст. І., Какошка І.Ф., Жукоўская Я.Ф., Юдэнка Я.У, Мельнікаў У.У., Вансевіч К. І., Барсук Р.І., Нікіціна Ў.І., Ермакова Ў. М., Бязлепкін У.У., Руткоўскі К.С., Мілаш А.І., Бубноўскі К.С., Крыванос А.І., Пушкароў П.А., Шыцікава К.Я., Герасімовіч Я.І., Міхайлоўскі Г.К., Гайда С.У., Майсеевіч А.Л. *(Там жа. Заг. 216.)*

У 1948 г. быў перавышаны ўзровень вытворчасці 1940 г., выраблена 29409 гл. піва, дадатак да 1947 г. склаў 10418 гл. Павялічыўся і выпуск напояў - 3417 гл.

5 лютага 1949 г. загадчыцай лабараторыі прызначаная Смірнова Галіна Фёдараўна.

У гонар 1 траўня за прыкладную добрасумленную працу і добрую працоўную дысцыпліну абвешчана падзяка з занясеннем фотакартак на агульназаводскую Дошку Пашаны стаханаўцам Шот, Руткоўскаму, Шыбакову, Сырыцкай, Кабешавай, Шыцікавай, Смірновай, Дудко, Новік, Бязлепкіну, Вансевічу К., Міхайлоўскаму, Клічэнку, Ермаковай, Дыбоўскаму, Маю, Перцу, Галяевай, Крушэўскаму, Мельнікаву, Пакулаву, Юдэнку, Пушкарову, Бубноўскаму, Крукаву, Мілаш, Ваўку А.М. *(Архіў піўзавода. Загады 1949 г. Заг. 40.)*


***Смірнова Г. Ф.***

16 чэрвеня сапсавалі матор і закіс затор. Спасава звольнілася з завода. Пасля дэкрэтнага адпачынку яе паставілі нарыхтоўшчыкам сельгаспрадукцыі, і яна звольнілася.

На сесіі гарадскога Савета дэпутатаў працоўных 21 ліпеня пракурор Гаваркоўскі адзначыў, што піўзавод выпускае няякасную прадукцыю. Праграму першага паўгоддзя па вале завод выканаў на 67,9 %, у адпускных коштах на 77,8 %. Пакупнікі не атрымалі прадукцыі на 2624 тыс. руб., з прычыны чаго не дадана дзяржбюджэту падатку з абароту ў суме 563,5 тыс. руб. Станцыя Ліда не падае піўзаводу вагонаў. У выніку невыканання плану рэалізацыі піва завод не дадаў Дзяржбанку ў лік касавага плану за першае паўгоддзе 620 тыс. рублёў. Якасць піва ў апошні час значна пагоршылася. Дырэктар Каланіцкі папярэджаны аб прыняцці найстрогіх мер уздзеяння ў выпадку невыканання плану рэалізацыі. *(ЗГА у Лідзе. Ф.55, воп.1, спр. 45, арк. 58-66.)*


***Руткоўскі К.С. і Вансевіч К.І.***

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Аляксандр Кашуцін***

# КОРКІ ЛІДСКАГА ПІВАВАРНАГА ЗАВОДА ПУПКО ПАЧАТКУ XX СТАГОДДЗЯ

*Коркі -- гэта неад'емная частка любой вытворчасці вадкасцяў, якія ў наступным разліваюцца ў які б то ні было посуд. Гэта ў поўнай меры адносіцца і да вытворчасці піва, прычым не толькі лідскага. Коркі Лідскага піўзавода Пупко на сённяшні дзень сустракаюцца даволі такі часта, варыянтаў іх не вельмі шмат, паспрабую апісаць тое, што мне вядома на сённяшні дзень.*






**А) З коркавага дрэва.**




1. Круглы ў выглядзе бочачкі дыяметрам каля 2,5 см., вышынёй каля 3 см. На тарцы намалявана цёмнае кольца, усярэдзіне кругавы надпіс: "*** ПИВ. ЗАВ.* Н. ПУПКО**", у цэнтры паміж зорачкамі надпіс **"ЛИДА"**. Зорачкі буйныя ў выглядзе стылізаваных кветак.




2. Круглы ў выглядзе бочачкі дыяметрам каля 2,5 см., вышынёй каля 3 см. На тарцы намалявана цёмнае кольца, усярэдзіне кругавы надпіс **"* ПИВОВАР. ЗАВ.* М. ПУПКО"**, у цэнтры паміж зорачкамі надпіс **"въ ЛИДЪ"**. Зорачкі дробныя ў выглядзе кропак.




3. Круглы ў выглядзе бочачкі дыяметрам каля 2,5 см., вышынёй каля 3 см. На тарцы намалявана цёмнае кольца, усярэдзіне кругавы надпіс **"ПИВ. ЗАВ. / въ ЛИДЪ"**, надпіс падзелены імем **"М. ПУПКО"**.

**Б) Фальга.**




1 а. Круглы ў выглядзе монаколернага каптурыка дыяметрам каля 3 см., вышынёй ад 1 да 5 см. На тарцы выціснута эмблема піўзавода (алень Гутэнберга, з надпісам зверху "ЗАВОДСКОЕ КЛЕЙМО", алень глядзіць налева), вакол эмблемы кругавы надпіс **"* ПИВ. ЗАВ.* М.ПУПКО ЛИДА"**. Зорачкі буйныя пяціканцовыя.

1 б. Аналагічны каптурык. Цісненне падмалёвана чырвоным колерам.




2. Круглы ў выглядзе каптурыка дыяметрам каля 3 см., вышынёй ад 1 да 5 см. На тарцы ў выглядзе ціснення ў тры радкі выкананая надпіс **"М./ ПУПКО/ ЛИДА".**

**В) Керамічныя.** Коркі сустракаюцца з "рамай" мацавання да бутэлькі.

Круглы ў выглядзе бочачкі дыяметрам каля 2,5 см., вышынёй каля 2 см. На тарцы намаляваная эмблема піўзавода (алень Гутэнберга, з надпісам зверху **"ЗАВОДСКОЕ КЛЕЙМО"**, алень глядзіць направа), вакол эмблемы кругавы надпіс **"* ПИВОВАРЕН. ЗАВОДЪ * М.ПУПКО ЛИДА"**. На адвароце невялікі керамічны выступ, на які надзявалася ўшчыльняльнае кольца для больш шчыльнага прылягання да бутэлькі.

Вядомы два варыянты:

1. На выступе знізу няма надпісу. Зорачкі ў выглядзе сняжынак. Усе малюнкі і надпісы выкананыя зялёным колерам.

2. На выступе надпіс у тры радкі: **"И.А./ ЛЕВИНСОНЪ/ ОДЕССА"**. Зорачкі ў выглядзе сняжынак. Усе малюнкі і надпісы выкананыя чырвона-карычневым колерам.








**БУТЭЛЬКА І ЯЕ АДКАРКОЎВАННЕ**

З развіццём вытворчасці піва ў Лідзе з'явілася неабходнасць неяк пазначаць сваю прадукцыю, для чаго выпускаліся не толькі этыкеткі, але і фірмовыя бутэлькі з цісненым (літым) малюнкам. У той перыяд выпуск фірмовай бутэлькі з цісненым малюнкам быў справай звычайнай. Падобныя бутэлькі вядомыя не толькі ў піваварах, але і ў аптэкарах, вінаробах і г.д.

Цісненне на бутэльцы. У цэнтры мудрагелісты стылізаваны малюнак галін і лісця, усярэдзіне якіх, малюнак двух медалёў, уверсе малюнак ордэна - вышэйшай узнагароды атрыманай у Парыжы ў 1908 годзе, унізе, у ромбе, малюнак завадскога таўра (аленя Гутэнберга, які глядзіць направа). Зверху над малюнкам надпіс **"ПАРОВ. ПИВОВ. ЗАВОДЪ"**. Справа і злева знізу ўверх надпісы **"СУЩЕСТВ"** і **"СЪ 1876 г."** адпаведна. Унізе пад стылізаваным малюнкам у два радкі выкананы надпіс **"М.ПУПКО/ ЛИДА"**.




Як адкаркоўваліся бутэлькі з драўлянымі і фальгаванымі коркамі, думаю, апісваць няма неабходнасці. У гэтым пытанні сучасныя бутэлькі ад дарэвалюцыйных нічым не адрозніваюцца. Працэдура ж адкаркоўвання бутэлькі з керамічным коркам адбывалася наступным чынам:



Прыкладна так выглядала закаркованая бутэлька.



Пры адкаркоўванні, рычаг падаваўся ўверх (па стрэлцы), што дазваляла вывесці верхні кручок з зачаплення з самім коркам і ў далейшым адчыніць бутэльку.



# КАМПАЗІТАР СЯРГЕЙ БУГАСАЎ

Бугасаў Сяргей Іванавіч, нарадзіўся 11 чэрвеня 1951 года ў шахцёрскім пасёлку ім. К. Маркса горада Енакіева, Данецкай вобласці - (Украіна). Музыкай пачаў займацца таму, што гэта было запраграмавана самой прыродай яго радні. У вялікай сям'і кубанскіх казакаў Верыхавых (па матулінай радні) усе вызначаліся музычнымі талентамі. Чатырнаццаць дзяцей, разам з бацькамі цудоўна спявалі, гралі на шматлікіх музычных інструментах і з вялікім поспехам паказвалі станічнікам тэатральныя пастаноўкі. Таму народныя песні былі ў Сяргея на слыху з ранняга дзяцінства. Ен не мог не любіць прыгожыя шчырыя мелодыі, якія пакінулі прыкметны след у памяці юнака.



***Сяргей Бугасаў, 2006 г.***

—*"Зіма. Марозны сонечны дзень. Пара валіць з ноздраў каня. Снег рыпае пад валёнкамі. Дзядзькі ў кажухах важдаюцца з вялікай чорнай скрыняй. Гэта піяніна. Бацькі дзеля яго прадалі ўсё, што магчыма, каб сястра маленькага Сярожы вучылася музыцы. З гэтага дня ў хаце Бугасавых з раніцы да вечара гучалі гамы і эцюды. Пасля сястра скончыла фартэпіяннае аддзяленне Палтаўскай музычнай вучэльні. Па яе слядах пайшоў і малодшы брат. Калі яго ў першыню прывялі ў музычную школу, на пытанне, кім ён жадае стаць, Сярожа цалкам сур'ёзна адказаў: "Ван Клібернам."* (1)

Скончыўшы 9 класаў сярэдняй і музычную школу па класе фартэпіяна ў 1967 г. Сяргей Бугасаў паступіў у Варашылаўградскую музычную вучэльню на аддзяленне харавога дырыжавання, потым у Данецкі дзяржаўны музычна-педагагічны інстытут. У гады студэнцтва актыўна працаваў з рознымі харавымі калектывамі. Як выдатнік вучобы і камсамольскі актывіст быў удастоены гонару сфатаграфавацца ля Сцяга Перамогі ў горадзе Маскве (1975 г.) у складзе студэнцкай дэлегацыі Данецкай вобласці. За шматгадовую і выдатную працу ў студэнцкіх будаўнічых атрадах С. Бугасаў узнагароджаны ўрадавым медалём "За працоўную адзнаку" (Указ Прэзідыюму Вярхоўнага Савета СССР ад 22 красавіка 1976 года).

Выдатна скончыўшы Данецкі дзяржаўны музычна-педагагічны інстытут малады адмысловец разам з жонкай, Таццянай Аляксееўнай, у 1976 году прыехаў працаваць у Лідскую музычную вучэльню, прычым дабіўся гэтага месца не без дапамогі тагачаснага міністра культуры СССР Кацярыны Фурцавай. З 1977 года С. Бугасаў займае пасаду намесніка дырэктара па вучэбнай частцы гэтай установы. Адначасова выкладае харавое дырыжаванне. Неаднаразова прыцягваўся Міністэрствам адукацыі да ўдзелу ў інспекцыях па праверцы сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў краіны. Па даручэнні Міністэрствы культуры вывучаў перадавы досвед у сістэме музычнай адукацыі ў вучэбных установах Адэсы, Вінніцы, Варашылаўграда. Але цяга да творчасці ніколі не пакідала С. Бугасова, ён са студэнцкіх гадоў складае вершы.

*"Паэтычнае пачуццё ў мяне ад бацькі Івана Мікалаевіча" - прызнаецца Сяргей Іванавіч. Калі бацька памёр, юнак пачаў разбіраць яго архіў і толькі тады пазнаёміўся з вершамі дарагога яму чалавека. У біяграфіі бацькі ёсць цікаўная рыска: ён вучыўся ў свой час у праўнука Тараса Шаўчэнкі. Такім чынам, духоўнае святло вялікага Кабзара данеслася да нашых дзён! С. Бугасаў піша вершы, калі ёсць адпаведны настрой або трэба павіншаваць. кагосьці са знаёмых з днём нараджэння, святам, юбілеем. Парой узнікаюць сяброўскія шаржы, вострыя замалёўкі. Нярэдка, у гадзіны роздумаў, з'яўляюцца сур'ёзныя рэчы аб сэнсе жыцця, аб месцы асобы ў грамадстве, дзе падымаецца сакраментальнае пытанне: для чаго створаны чалавек?"*(1)

З 1979 па1982 год С. Бугасаў з'яўляўся кіраўніком змешанага хору Лідскай музычнай вучэльні, які ў другім (1981 г. ) Рэспубліканскім конкурсе аркестрава - харавых калектываў ССВУ Міністэрства культуры Беларусі стаў Дыпламантам 2-й ступені.

З 1979 па 1999 год ён самаахдана працаваў (па – сумяшчальніцтву) з самадзейным хорам "Журавінка" г. п. Першамайскі і на высокі ўзровень падняў яго выканаўчае майстэрства. Удзельнікі хору жылі адным творчым калектывам, у якім было шмат сямейных пар з дзяцьмі, і ўсіх іх аб'ядноўвала любоў да песні і іх дырыжора. Гэты калектыў пабываў з канцэртамі ў Літве, Латвіі, Украіне, Расіі. І ўсюды гучалі апрацоўкі народных мелодый, зробленыя С. Бугасавым прафесійна і густоўна. Дарэчы, тэарэтычным абагульненнем гэтай працы з'явілася напісанне

ім вучэбнай праграмы для ССВУ "Апрацоўка беларускай народнай песні", якая па выніках Рэспубліканскай выставы падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў 2001 г, Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь рэкамендавана да выдання.

У 1981 годзе хору было прысвоена ганаровае званне "Народны". Як мастацкі кіраўнік Народнага хору "Журавінка" С. Бугасаў неаднаразова ўзнагароджваўся знакамі ВЦСПС "За дасягненне ў самадзейным мастацтве", медалямі лаўрэата Ўсесаюзных аглядаў, прысвечаных юбілейным датам, ганаровымі граматамі Міністэрства культуры, аблвыканкаму, горада, Лідскага раёна.

17 гадоў Сяргей Іванавіч Бугасаў адпрацаваў завучам Лідскай музычнай вучэльні. Неаднаразова ўзнагароджаваўся Ганаровымі граматамі найвышэйшых адміністрацыйных інстанцый за сумленную і прафесійну працу. Але падрабязна ўзгадваць той час не любіць, называючы яго "змарнаваным, адарваным ад сям'і, ад дзяцей, ад магчымай творчасці".

*" Яшчэ ў студэнцкія гады С. Бугасаў любіў гармонію, паліфанію, пісаў для сакурснікаў іспытныя працы, у прыватнасці фугі. Але 1995 год аказаўся ў нейкім сэнсе пераломным. Менавіта тады разам з жонкай ён пачаў спяваць у царкоўным хоры. Неяк здарылася неверагоднае. Ён прачнуўся ўначы, узяў у рукі Біблію, якая ляжала ў галавах. Разгарнуў том і наткнуўся на 66-ты псалом. Адразу ж нарадзілася музыка! З гэтага моманту Сяргей Іванавіч і пачаў складаць харавыя творы сістэматычна. Як бачна, адбылося творчае азарэнне, прыроду якога цяжка зразумець. Ужо не ці само Неба вінавата ў гэтым?"* (1)

З таго часу прайшло больш за 10 гадоў. І ў гэты час сачыненне музычных твораў для С. Бугасава было больш, чым хобі. Сёння ў яго творчым багажы амаль 60 твораў для розных харавых складаў. У гэтым пераліку хоры буйной формы: "Рэквіем па - кожнаму чацвёртаму"(сл. А. Вярцінскага), харавы цыкл: "Чатыры пары года" (сл. Я. Купала, С. Грахоўскага, П. Калбыкі), трыптых: "Купалле" (сл. С. Грахоўскага, Р. Барадуліна), "Бубны"(сл. Ю. Свіркі), "Успаміны" (сл. Н. Гілевіча), " Мой край "(сл. В. Вярбы), а так сама на тэксты праваслаўных малітваў - "Ко Пресвятой Троице", "Единародный Сыне", "Душе моя","Псалом - 66", інш.

Дзякуючы шматразовым выкананням харамі музычных вучэльняў на Дзяржаўных іспытах і ў канцэртах, (Ліды, Гародні, Гомеля, Магілёва, Баранавічаў), Менскага каледжа мастацтваў, а таксама Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў, Гарадзенскага універсітэта ім. Я. Купалы, Менскага педагагічнага універсітэта ім. М. Танка, Бялaverаруcкай Акадэміі музыкі ) сталі шырока вядомыя творы: харавы цыкл: "Чатыры пары года," "Лістабой" (сл. М.



***Сяргей Бугасаў і Анатоль Вярцінскі ў Лідскім каледжы***

Курылы), " Паклон матулі" (сл. Л. Геніюш), "Сонца на Купалу", "Дзявочыя гаворкі", "Жартоўная спрэчка", "Ой, зялёная - зялёная" - сл. народныя і інш. У канцэртных праграмах камернага хору Гарадзенскай капэлы выконваюцца : "Туга ўдоўя" (дырыжор - заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Л. Іконнікава), у рэпертуары гарадзенскага змешанага хору "Акварэль" ( М. Петухова) творы "Душе моя...", "Ой, ты, поле маё", "Ко Пресвятой Богородице", " Успаміны" і інш.

*Народны артыст СССР, прафесар, загадчык кафедры харавога дырыжыравання Беларускай Акадэміі музыкі, кіраўнік дзяржаўнага акадэмічнага хору Тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь В.У. Роўда вельмі прыдзірліва ставіцца да "свежаспечаных" сачыненняў, а кампазітары стаяць да яго ў даўжэзнай чарзе, бо ён куды часцей адмаўляе, чым прымае іх партытуры да выканання. А тут— адзін за адным запісаны восем далёка не самых простых твораў С. Бугасава: "Рэквіем па кожнаму чацвёртаму"(сл. А. Вярцінскага), "Завіруха" (сл. М. Багдановіча), "Зімовы лес"(сл. Г. Дзмітрыева), "Туга ўдоўя", "На куце"(сл. Р. Барадуліна), "Рекрута" (сл. С. Ясеніна) і "Жартоўная спрэчка", " Ой, ты, поле"(сл. народныя). Чаму? Таму, што ўражваюць харавыя творы Сяргея Бугасава. У іх знойдзена гармонія паміж сучаснымі фактурнымі прыёмамі і класічнай ураўнаважанасцю. Яны не "націскаюць" тэхналогіяй, а дыхаюць жывым, натуральным развіццём, асаблівай музычнасцю, навучыць якой немагчыма: ці яна ёсць - ці, прабачце, няма. (2)*

*Таму, што творы С. Бугасава - творы прафесіянала, які ўпэўнена валодае тэхнікай харавога пісьма, і вызначаюцца выключнай музычнай адоранасцю. У творах прадстаўлены досыць шырокі дыяпазон тэм, жанраў, вобразна-драматургічных рашэнняў, паэтычных крыніц - ад*

*кананічных духоўных і сапраўдных народных тэкстаў да вершаў М. Багдановіча, Р. Барадуліна, С.Ясеніна. Шырокае адлюстраванне знаходзіць таксама і народная абраднасць - асабліва купальская. Менавіта гэтая група хораў становіцца стылеўтваральнай, што, нараўне з шырокім перастварэннем нацыянальнай паэзіі з яе характэрнасцю "роднай мовы", вызначае агульны нацыянальны каларыт харавой творчасці С. Бугасава. Не звяртаючыся да цытавання народных напеваў, ён стварае фальклоразаваны стыль у акадэмічнай тэхніцы пісьма, які характарызуецца папевачнасцю меладычнага развіцця, метрарытмічнай свабодай і разнастайнасцю рытмічных структур, уключаючы і акцэнтнае вар'яванне так сама ажыццяўленнем стылю народна-харавой фактуры. Верагодна, як элемент, прадыктаваны асаблівасцю нацыянальнага здумення, варта разглядаць і тыповы для драматургіі і формаўтварэння хораў Бугасава прынцып баладнасці. Ён звязаны з ідэяй скразнога развіцця, якая аб'ядноўвае кантрасныя па характары эпізоды, сярод якіх значная роля апавядальных. Наогул, імкненне да тэатралізацыі формы, насычэння яе дзейснымі элементамі досыць характэрна для шматлікіх сачыненняў Бугасава. Звяртае на сябе ўвагу разнастайнасць харавых складаў, яснае ўсведамленне вакальных магчымасцяў і вобразных характарыстык рознага тэмбру, выдатнае валоданне спецыфікай харавой "інструментоўкі". Менавіта гэтая акалічнасць абумовіла галоўную вартасць харавых сачыненняў С. І. Бугасава - іх рэпертуарнасцъ, запатрабаванасць харавымі калектывамі: ад Дзяржаўных акадэмічных хораў Белрадыёкампаніі і Гарадзенскай харавой капэлы да моладзевых хораў сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў краіны. (3)*

Некалькі харавых твораў С. Бугасава былі выдадзеныя ў вучэбна-метадычнай літаратуры прызначанай для навучэнцаў сярэдніх і студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў Міністэрстваў культуры і адукацыі РБ. Так хоры "Ой, ты, поле маё", "Жартоўная спрэчка", " Дзявочыя гаворкі" уключаны ў выданне: "Каціўся вяночак", (складальнік Свірыдовіч А.А., 2006 г.), хоры для змешанага складу "Душе моя", "Зімовы лес" (сл. Г. Дзмітрыева) надрукаваны ў дапаможніку для студэнтаў Менскага педагагічнага універсітэта імя М. Танка (складальнік Чарняк В.А). Рыхтуецца да выдання харавы цыкл "Чатыры пары года".

У 1999 году на Гарадзенскім абласным конкурсе самадзейных кампазітараў С. Бугасаў за некалькі хораў быў адзначаны Дыпломам 3-й ступені. У 2003 годзе за цыкл харавых твораў ён узнагароджаны Дыпломам 1-й ступені Міністэрства культуры краіны.

Але мабыць найлепшай узнагародай С. Бугасаву быў вось такі ліст:

*"Добры дзень. Піша Вам студэнтка 2-га курса ГДКІ імя М.Ф. Сакалоўскага. З Вашай творчасцю мяне пазнаёміла мой педагог Мурашка Інэса Афанасеўна. Па спецыяльнасці мне далі дырыжаваць Ваш твор "Восень" на сл. Грахоўскага, а па ЧХП мяне пазнаёмілі з наступнымі Вашымі творамі: "Лета" на сл. Я. Купалы, "Лістабой" на сл. М. Курылы, "Душе моя...". У праграме нашага хора з'явіўся Ваш твор "Купалле. Раніца" III ч. Я яшчэ вельмі мала ведаю пра творчасць сучасных кампазітараў, таму хацела Вас папрасіць прыслаць мне Вашую біяграфію і спіс асноўных сачыненняў. Мне вельмі цікава будзе пазнаёміцца з Вашай творчасцю.*

*З павагай Кончыц Вольга, г. Гомель."*

Але не гледзячы на тое, што творы С. Бугасава на працягу дзесяцігодзя выконваліся часта і мелі сваіх прыхільнікаў, за ім цягнуўся не прыстыжны ў музычным асяродку шлейф "самадзейнага кампазітара".

*Уступаць у прафесійный кампазітарскі саюз яго літаральна "прыцягнула - прывяла" (нават у наўпраставым сэнсе гэтага слова) знакамітая музыказнаўца, прафесар Акадэміі музыкі Радаслава Аладава, у якой надзвычай завышаныя патрабаванні да кампазітарскай творчасці. І падчас апошняга пасяджэння праўлення Беларускага саюза кампазітараў (травень, 2006 г) за далучэнне С. Бугасава да прафесійнага складу творцаў было аддадзена 22 галасы з 24 магчымых. Старшыні Саюза, народнаму артысту СССР Ігару Лучанку і іншым кампазітарскім мэтрам давялося пайсці на "выключенне з правіл": паводле Статута, членам прафесійнага Саюза беларускіх кампазітараў можа быць толькі той, хто у свой час атрымаў акурат кампазітарскую ці музыказнаўчую адукацыю. За ўсю гісторыю Беларускага саюза кампазітараў гэта толькі другі прыклад падобнага выключэння - першы быў з Уладзімірам Мулявіным.(2)* Так у нашым горадзе Лідзе з'явіўся першы афіційна прызнаны прафесіянальны кампазітар - С. І. Бугасаў.

Ёсць у С. Бугасава яшчэ адна адметная рыса - ён мае асаблівы індывідуяльный стыль паспяховага журналіста. Амаль пяць гадоў ён быў у крэсле нам. рэдактара, працуючы ў лідскай газеце "Прынёманскія весці", надрукаваўшы шмат артыкулаў па самых розных пытаннях жыцця лідзян. І сёння ён актыўна супрацоўнічае з мясцовымі, абласнымі і рэспубліканскімі СМІ.

***Падрыхтаваў да друку***
***Станіслаў Суднік.***

***Літаратура.***

*1. Виталий Радионов. Озарение. Беларуская думка, № 6, 2005 г.*

*2. Н. Бунцэвіч. Выключэнне з уключэннем. Культура № 34, 2006 г.*

*3. Р. Аладава. О хоровых произведениях С. Бугасава, 2006 г.*

# Творы для хору Сяргея Бугасава

**Хоры для змешанага складу a cappella**

**Праваслаўныя тэксты:**

1. **Псалом № 66**.
2. **Душе моя....**
3. **Отче наш.**
4. **Ко Пресвятой Троице.**
5. **Единородный Сыне.**
6. **Видехом свет истины**.
7. **Таинство странное**.
8. **Юже древле.**
9. **Рождество Твое**.
10. **Трисвятое.**
11. **О умножении любви.**

**Свецкія тэксты:**

1. **Зімовы лес,** сл. Г. Дзмітрыева.
2. **Завіруха,** сл. М. Багдановіча.
3. **Успаміны,** сл. Н. Гілевіча.
4. **Туга ўдоўя,** сл. Р. Барадуліна.
5. **Бубны,** сл. Ю. Свіркі.
6. **Рекрута**, сл. С. Ясеніна.
7. **Купалле**, трыптых:
   **Ноч**, сл. С. Грахоўскага.
   **Вечар**, сл. Р. Барадуліна.
   **Раніца**, сл. народныя.
10. **Ой, ты поле маё**, сл. народныя.
11. **Сірата Алеся**, сл. П. Труса.
12. **Малітва**, сл. С. Маслаковай.
13. **Запаведзь**, сл. С. Маслаковай.

**Хоры з суправаджэннем:**

1. **Мой край**, сл. В. Вярбы.
2. **Рэквіем па кожнаму чацвёртаму**, сл. А. Вярцінскага.
3. **На куце**, сл. Р. Барадуліна.
4. **Дываны**, сл. Л. Геніюш.
5. **У лазні**, сл. К. Цыбульскага.

**Хоры для аднароднага складу a cappella:**

1. Цыкл: **Чатыры пары года**
   **Вясна**, сл. П. Калбыкі.
   **Лета**, сл. Я. Купалы.
   **Восень**, сл. С. Грахоўскага.
   **Зіма**, сл. П. Калбыкі.
5. **Барабан**, сл. У. Мацвіенкі.
6. **Ночь**, сл. А. Фета.
7. **Лета**, сл. В. Кудлачова.
8. **Паклон матулі**, сл. Л. Геніюш.
9. **Не паверу**, сл. Ю. Свіркі.
10. **Белая бяроза**, сл. А. Бачылы.
11. **Лістабой**, сл. М. Курылы.
12. **Хусткі**, сл. Л. Геніюш.
13. **У начы таямнічай**, сл. Т. Мушынскай.
14. **Няўжо?**, сл. Т. Мушынскай.
15. **Незакатные глаза**, сл. С. Ясеніна.
16. **Веснушки**, сл. В. Бачарова.
17. **Ой, зелена - зелена**, сл. народныя.
18. **Сонца на Купалу**, сл. народныя.
19. **У вішнёвым садочку**, сл. народныя.
20. **Дзявочыя гаворкі**, сл. народныя.
21. **Жартоўная спрэчка**, сл. народныя.
22. **Ой, ты поле маё**, сл. народныя.
23. **Пайду, пайду лугам**, сл. народныя.

**Апрацоўкі народных песень:**

1. **Прыйшла каляда.**
2. **Ад панядзелка.**
3. **Шумяць вербы.**
4. **Ой, вецер вее...** і іншыя

**Дзіцячыя песні**

1. **Снег пушысты,** сл. П. Макаля.
2. **Щенок**, сл. С. Бугасава.

**Эстрадныя песні:**

1. **Гаварыла мама,** сл. Л. Вінніка.
2. **Чараўніца,** сл. Ю. Шостак.
3. **Наливное яблочко**, сл. С. Маслаковай.



***Хор Лідскай музычнай вучэльні. Дырыжор Л. Пясецкая. За раялем С. Бугасаў.***

# Спіс твораў Сяргея Бугасава, якія выконваюцца

1. **Туга ўдоўя,** сл. Р. Барадуліна.
2. **На куце**, сл. Р. Барадуліна.
3. **Завіруха,** сл. М. Багдановіча.
4. **Зімовы лес**, сл. Г. Дзмітрыева.
5. **Ой, ты поле маё,** сл. народныя.
6. **Рэквіем па кожнаму чацвёртаму,** сл. А. Вярцінскага.
7. **Рекрута**, сл. С. Ясеніна.
8. **Жартоўная спрэчка**, сл. народныя.

Запісаны акадэмічным хорам Белдзяржтэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь з 2002 па 2006 год (дырыжоры: народны артыст СССР, прафесар В.В. Роўда; А. Кунцэвіч.)

7. **Душе моя.**
Хор “Акварэль”, г. Гародня (дырыжор Л. Пастухова);
8. Цыкл: **Чатыры пары года.**
Шматразова хорам Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў (дырыжор Л. Міхалькова), а таксама хорам Лідскай дзяржаўнай музычнай вучэльні, (дырыжор Л. Пясецкая).

9. **Паклон матулі,** сл. Л. Геніюш.
Хорам Менскага каледжа мастацтваў (дырыжор В. Крыпец), а таксама хорам Лідскай дзяржаўнай музычнай вучэльні.
10. **Мой край,** сл. В. Вярбы.
Харамі Менскага каледжа мастацтваў, Лідскай, Гарадзенскай музычных вучэльняў.
11. **Ой, ты поле маё,** сл. народныя.
Хор “Акварэль”, г. Гародня (дырыжор Л. Пастухова).
12. **Ой, ты поле маё** (жаночы хор).
Шматразова ў музычных вучэльнях гарадоў Ліды, Гародні, Гомеля, Магілёва, Баранавічаў, Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў.
13. **Лістабой,** сл. М. Курылы.
Хорам Лідскай дзяржаўнай музычнай вучэльні.
14. **Дзявочыя гаворкі**, сл. народныя.
Харамі Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў, Лідскай, Баранавіцкай музычных вучэльняў, Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта ім. Я. Купалы.
15. **Жартоўная спрэчка**, сл. народныя (жаночы хор).
Харамі Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў, Лідскай дзяржаўнай музычнай вучэльні.
16. **Ой, зелена - зелена**, сл. народныя.
Неаднаразова харамі Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў, Лідскай дзяржаўнай музычнай вучэльні, Магілёўскай вучэльні мастацтваў (дырыжор Э. Грыбоўская).
17. **Сонца на Купалу**, сл. народныя.
Неаднаразова харамі Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў, Лідскай дзяржаўнай музычнай вучэльні, Менскага каледжа мастацтваў.
18. **Веснушки**, сл. В. Бачарова.
Харамі Лідскай дзяржаўнай музычнай вучэльні, Менскага каледжа мастацтваў.
19. **Пайду, пайду лугам,** сл. народныя.
Неаднаразова народнымі харамі Лідскай, Гарадзенскай музычных вучэльняў.
20. **У вішнёвым садочку**, сл. народныя.
Хорам Лідскай дзяржаўнай музычнай вучэльні, Менскага каледжа мастацтваў.
21. **Незакатные глаза**, сл. С. Ясеніна.
Хорам Лідскай дзяржаўнай музычнай вучэльні.
22. **Ночь**, сл. А. Фета.
Хорам Лідскай дзяржаўнай музычнай вучэльні.
23. **Барабан**, сл. У. Мацвеенкі.
Хорам Лідскай дзяржаўнай музычнай вучэльні.
24. **Единородный Сыне.**
Неаднаразова хорам Лідскай дзяржаўнай музычнай вучэльні.
25. **Хусткі,** сл. Л. Геніюш.
Неаднаразова хорам Лідскай дзяржаўнай музычнай вучэльні.
26. **Говорила мама...**
Неаднаразоа ў канцэртах і радыётрансляцыях горада Ліды.
27. **Лета**, сл. В. Кудлачова.
Харамі Магілёўскай вучэльні мастацтваў, Лідскай дзяржаўнай музычнай вучэльні.
28. **Не паверу,** сл. Ю. Свіркі.
Харамі Магілёўскай вучэльні мастацтваў, Лідскай дзяржаўнай музычнай вучэльні.
29. **Юже древле.**
Хор храма Святога Вялікапакутніка і Пераможцы Георгія (рэгент М. Івашкевіч.)
30. **Ко Пресвятой Троице.**
Хор Гарадзенскай капэлы (дырыжор заслужаны дзеяч мастацтваў Л. Іконнікава).
Хор “ Акварэль”, г. Гародня (дырыжор Л. Пастухова).
31. **Туга ўдоўя,** сл. Р. Барадуліна.
Хор Гарадзенскай капэлы (дырыжор заслужаны дзеяч мастацтваў Л. Іконнікава).
32. **Рекрута**, сл. С. Ясеніна.
Хор Беларускай акадэміі музыкі (дырыжор народны артыст СССР, прафесар В.В. Роўда).

# Паклон матулі

**Л. Геніюш** **С. Бугасаў**

Andante, dolce

pp

О, сэр - ца ма - ту - лі, жы - ва - я кры - ні - ца, даз-воль мне ся -

гон - ня ля ку - фра спы - ніц - ца, над пра-цай тва - ёй у пак - ло - не саг -

нуц - ца, ўспа - мі - нам ма - золь - ний ру - кі да - тарк - нуц - ца. Пра - цоўны - я ру - кі ка - ха - най ма -

ту - лі у - сіх на - кар - мі - лі, у - сіх ап - ра - ну - лі, не

poco a poco accelerando

прос - та, не роў - на, а ўсё пе - ра - бо - рам, пад ко - лер кра - і - ны цу - доў - ным у -

зо - рам. За то - - - е, што нас - ты вя - кі ап - ра -

poco allemando

на - ла - - за то - е, што лёг - ка та - бе не бы -

rit.

Tempo I

ва - ла... О, сэр - ца ма - ту - лі, жы - ва - я кры - ні - ца, даз-воль мне ся-

гон - ня та - бе пак - ла - ніц - ца.

О, сэрца матулі - жывая крыніца,
Дазволь мне сягоння ля куфра спыніцца.
Над працай тваёй у паклоне сагнуцца,
Ўспамінам мазольнай рукі дакрануцца.

Працоўныя рукі каханай матулі,
Усіх накармілі, усіх апранулі,
Не проста, не роўна - а ўсё пераборам,
Пад колер краіны - цудоўным узорам.

За тое, што нас ты вякі апранала,
За тое, што лёгка табе не бывала.
О, сэрца матулі - жывая крыніца,
Дазволь мне сягоння табе пакланіцца...

# Веснушки

**В. Бочаров** **С. Бугасов**

Andante

prano

Alto

Го-во-ри-ли де-вуш-ке все е-ё под-руж-ки, буд-то не-кра-си-вы

Все под-руж-ки не

на ли-це вес-нуш-ки. буд-то пор-тят внеш-ность жел-ты-е дож-

Буд-то,

ди-ки, буд-то бу-дет веч-но ми-ла-я в сле-зин-ках,

буд-то

Говорили девушке все ее подружки,
Будто не красивы на лице веснушки.
Будто портят внешность желтые дождинки,
Будто будет вечно милая в слезинках.
Ты не верь подружкам - так сказали люди,
Кто рожден в веснушках - тот счастливым будет.
Кто под солнцем вырос в летней колыбели,
Счастье ему снилось, птицы ему пели.
И, как у кукушки - каждый год во власти,
Так твои веснушки - каждая как счастье.

# Сонца на Купалу

**Словы народныя** **С. Бугасаў**

Павольна, прыгожа

Soprano: А на Ку - па - лу сон - ца іг - ра - ла

Alto: А на Ку - па - лу

8

S.: іг - ра - ла сон - ца на Ку - па - лу

з рухам

S.: На доб - ры - я го - ... На доб - ры - я

A.: ра - на

14

S.: - - ды, го - - ды, на цё - плы - я ро - сы сон - ца іг - ра - ла.

A.: На доб - ры - я го - ды,

20

ігараючы, лёгка

S.: На а - вёс ра - сіс - ты, яч - мень ка - ла - сіс - ты, на ка - пус - ту бе - лу - ю, на гры - чы - ху

27

S.: гор - ну - ю, жы - та гус - то - е, зер - ня за - ла - то - е. На хля - бы у - рад

33

S. жа - і, на вя - сел - ле ў ха - це вян - кі спля - та - ла,

A.

38

Павольна

З рухам

pp

S. ў во - ду пус - ка - ла, па - па - рацць квет - ку шу - ка - ла. Слы - ла Ку - па - ла цяп

poco a poco rit. e dim.

dim.

A.

44

Павольна

S. лом, да - ры - ла даб - ром, ця - бе, Ку - па - ла, сла - ву пя-

poco a poco rit. e dim.

A.

48

ppp

S. ём... А на Ку - па - лу сон - ца іг - ра - ла,

pp ppp

A.

53

ppp

S. іг - ра - ла сон - ца на Ку - па - лу.

A. ра - на

А на Купалу сонца іграла,
Рана іграла сонца на Купалу.
На добрыя годы, на цёплыя росы,
Сонца іграла.
На авёс расісты, ячмень каласісты,
На капусту белую, на грычыху чорную,
На жыта густое, зерне залатое.
На хлябы - ураджаі, на вяселле ў хаце,
Вянкі сплятала - ў воду пускала,
Папарацць кветку шукала...
Слыла Купала цяплом, дарыла дабром,
Табе, Купала, славу пяём!
А на Купалу сонца іграла,
Рана іграла сонца на Купалу.

*(Падбор словаў С. Бугасава.)*

# Вясна

**П. Калбыка** **С. Бугасаў**

**Бадзёра**

Soprano *mf* *ff* *mf*

1 - дзе вяс-на, вяс - на! 1

Alto *mf* *ff* *mf*

**Спакойна**

S

дзе вяс-на жа-да - на-я у кра - сач-кі пры-бра - на-я, даж -

A

S

джом сра-брыс - тым мы - та-я і со-ней-кам за - лі - та-я із

A

S *mp*

по - луд-ня і-дзе. Пту-шы - нач-кі жаў-ро - нач-кі зві -

A *mp*

S

няць як быц - цам зво - чы-кі і пес - няй у - ра-чыс - та-ю за -

A

2 **poco rit.** Вясна **шырока** кяя-ціс - та - я

S *f*

вуць вяс-ну, вяс-ну, вяс-ну. Вяс - на Вяс-на - вяс -

A *f*

па - ваб-на-я праз-рыс-та-я

S / A

sp

вяс - на
на
як дзе ві - ца - ка - ха - на- - я - на -

sp

poco cresc. dim. pp

ра - дасць нам па - сла - на - я ня - зем - на - е кра - сы.

pp

**Спакойна. Таямніча.** poco cresc.

пры - дзе цёп - ла но - чань - ка, дык зо - рач - кі як во - чань - кі і з

poco dim. pp mf

ме - ся - цям змаў - ля - юц - ца ту - ма - ня - чы за - ру. На

pp mf

**Лёгка**

не - бе як пя - ры - нач - кі ля - бе - душ - кі хму - ры - нач - кі з вя -

poco accel. rit.

сен - ня - ю ус - меш - ка - ю, ла - зур - най чыс - тай сцеж - ка - ю,

dim. З рухам

плы-вуць спа-кой-на ўдаль.

А...

А рэч-ка се-раб-рыс-та-я, як раз-лі-ва-ец-ца і

праз-рыс-та-я, шы-ро-ка

зер-ка-ла

poco cresc.

А...

rit.

сон-цам на-лі-ва-юц-ца храб-ты ха-лод-ных хваль.

poco cresc. e accel.

дзеш ты ле-сам ні-ва-ю, як мо-ла-дасць шчас-лі-ва-я, Ў ду-

шы ка-хан-не ро-дзіц-ца, ка-го ж ка-хаць? Вяс-ну, вяс-ну, вяс-ну!

Ідзе вясна, вясна.
Ідзе вясна жаданая,
У красачкі прыбраная,
Дажджом серабрыстым мытая
І сонейкам залітая,
Із полудня ідзе.
Птушыначкі, жаўроначкі
Звіняць, як быццам звоначкі,
І песняй урачыстаю
Завуць вясну, вясну, вясну.
Вясна, вясна квяцістая,
Павабная, празрыстая,
Вясна, як дзевіца каханая,
На радасць нам пасланая,
Няземнае красы.
Прыдзе цёпла ночанька,
Дык зорачкі, як вочанькі
І з месяцам змаўляюцца,
Туманячы зару.
На небе пярыначкі,
Лябёдушкі - хмурыначкі
З вясенняю усмешкаю
Лазурнай, чыстай сцежкаю
Плывуць спакойна ўдаль.
А рэчка серабрыстая,
Як зеркала, празрыстая
Шырока разліваецца,
І сонцам наліваюцца
Храбты халодных хваль.
Ідзеш ты лесам, ніваю,
Як моладасць шчаслівая,
Ў душы каханне родзіцца,
Каго ж кахаць?
Вясну, вясну, вясну.

# НАЙБОЛЬШ ЗНАЧНЫЯ ГІСТАРЫЧНЫЯ ВЫДАННІ АПОШНЯГА ЧАСУ



**У выдавецтве “Тэхналогія” г. Менск, выйшла кніга Аляксея Мікуліча “Беларусы ў генетычнай прасторы. Антрапалогія этнасу”, 140 ст. Наклад 300 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя”, г. Менск, выйшаў 2-гі том энцыклапедыі “Беларускі фальклор”, 832 ст. Наклад 2000 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Demart Sp. z. o. o.”, г. Варшава, выйшла кніга “Нарыс гісторыі Польскай Дзяржавы і Народа” на беларускай мове. 312 ст.**



**У ВРУП “Мастацкая літаратура”, г. Менск, выйшла кніга Алеся Краўцэвіча “Жыццяпіс вялікіх князёў літоўскіх. Міндаўг. Пачатак гаспадарства”, 164 ст. Наклад 2000 асобнікаў.**




**У выдавецтвецкім цэнтры БДУ , г. Менск, выйшаў энцыклапедычны даведнік В.В. Гарбачова “Удзельнікі паўстання 1830-1831 гг. на Беларусі”, 400 ст. Наклад 150 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя”, г. Менск, выйшла кніга “Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. 1562-1565. Кніга запісаў №46/46”, 280 ст. Наклад 1000 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя”, г. Менск, выйшаў 1-шы том кнігі Я. Ф. Карскага “Белорусы”, 656 ст. Наклад 2000 асобнікаў.**



*У чэрвені 2006 года ў галоўнай зале Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь (г. Менск) загарэлася люстра вытворчасці Закрытага акцыянернага таварыства "Каскад" (г. Ліда)*